ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

28 кастрычніка 1994 г. № 43 (3765) Кошт 75 руб.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Шаноўныя лімаўскія чытачы-падпісчыкі!**

**Зноў, чацвёрты раз у сёлетнім годзе, праводзіцца падпісная кампанія. Цяпер — на І-ае паўгоддзе наступнага, 1995 года. І мы зноў кажам вам: «Будзьма разам!»**

**Сёння мы асабліва, мо як ніколі раней, разлічваем і спадзяёмся на вашу ўвагу і падтрымку. Па ўсім відаць, надыходзіць пара, калі сапраўды найперш ад вас, нашых зацікаўленых, адданых і верных чытачоў і аўтараў, будзе залежаць, жыць ці загінуць «ЛіМу».**

**Выпішыце «ЛіМ» сёння, не адкладваючы гэты клопат на заўтра.**

**Выпішыце «ЛіМ» не толькі сабе, але і свайму таварышу, суседу, сваяку, альбо парайце, угаварыце іх зрабіць гэта.**

***Нагадваем: індэкс наш ранейшы — 63856, падпісны кошт на паўгода — 6 тысяч рублёў, на 3 месяцы — 3 тысячы, на 1 месяц — 1 тысяча рублёў.***

**Не будзем гаварыць, што пры сённяшняй дарагоўлі гэта не такія ўжо і вялікія грошы. Адзначым іншае: купляць «ЛіМ» у кіёску будзе даражэй, не кажучы пра турботы.**

**Будзьма разам?**

# Зь Дзядамі



Што такое жыцьцё і як шмат яго трэба цаніць.
Пра гэта музыка восені, залаты яе сум на сьвята Дзядоў.

...Жыць дзеля таго, каб вярнуцца.

Дзяды, вядомыя нам і невядомыя... Яны жывуць у кожным з нас, складаюць часьцінку душы.
Іх вера, любоў знаходзяць працяг свайго існаваньня ў нашых традыцыях, звычаях, сьвятах.
Празь Дзядоў мы, як галіны дрэва, належым цэламу роду; карані яго ў глыбіні стагодзьдзяў.
На сьвята Дзядоў прачынаецца памяць. Тая памяць, што робіць нас людзьмі.

Жадаем вам усьцешыцца думкаю,
што некалі й нашыя нашчадкі будуць уважаныя за імя, намі ім перададзенае.

Dainova

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Нават дзеці ведаюць, што вярнуцца назад, у маладосць, можна толькі ў казцы. Як бы ні вабіла кагосьці «сытае» і «спакойнае» жыццё ў «адзіным і непарушным» — дарогі назад няма, колькі б новых сюжэтаў ні падкідвалі айчынныя і замежныя казачнікі. Усялякая ідэя яднання — бесперспектыўная, бо разламаць мог адзін, а каб адбудаваць, трэба высілкі талакі — усіх народаў, што зваліся братамі. Дамовіцца ж пра нешта цяжка нават двум, а тым больш — дванаццаці... Пасля аддзялення трох прыбалтыйскіх краін, ніхто не адважыцца сказаць астатнім: годзе «будаваць» адзін на ўсіх паветраны замак, давайце навядзём для пачатку парадак у сваіх занядбаных хацінах. Бяссэнсавая гульня ў «саюз» працягваецца.***

## САМІТ ТЫДНЯ

Падводзячы вынікі сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД у Маскве, нашыя газеты канстатуюць: яна была адметная тым, што ў Беларусі на ёй «прарэзаўся ўласны голас». Як яму не прарэзацца, калі пытанні, што абмяркоўваліся на саміце, непасрэдным чынам чаплялі інтарэсы Беларусі. Кіраўнікі краін, скажам, прынялі рашэнне аб стварэнні Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта са штаб-кватэрай у... Маскве. Такім чынам, Мінск практычна страціў статус сталіцы СНД. Больш таго, старшынёй наваствoранага камітэта Б. Ельцын прапанаваў прызначыць... Вячаслава Кебіча. Вось дзе, аказваецца, «усплыў» лепшы сябар расійскага прэм'ера В. Чарнамырдзіна. Наш прэзідэнт успрыняў гэта як асабістую абразу. Але справа да выхаду Беларусі з СНД не дайшла: «кандыдатура» была знята з абмеркавання. Не падтрымана і ідэя Н. Назарбаева аб утварэнні Еўразійскага саюза... Усяго разгледжана 10 пытанняў. Аднак на думку большасці лідэраў дзяржаў, для іх важнейшымі вынікамі паездкі ў Маскву былі двухбаковыя сустрэчы і перамовы з кіраўнікамі Расіі. Перспектывы МЭКа — такія ж туманныя, як і многіх ранейшых наддзяржаўных новаўтварэнняў. Дык ці варта было з'язджацца?

## ДАТА ТЫДНЯ

Учора, 27 кастрычніка, споўнілася 100 дзён з часу інаўгурацыі нашага першага Прэзідэнта. Не намі, само сабою, прыдуманы гэты сімвалічны пераваламчны «юбілей», пасля якога з Прэзідэнта спрос — на ўсе сто. Завядзёнка такая нарадзілася ў тых краінах, дзе прэзідэнцкая традыцыя — даўняя, у не адзін дзесятак гадоў. Аднак жа і мы, са з'яўленнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, таксама далучыліся да яе, гэтае завядзёнкі. І ў гэты першы прэзідэнцкі юбілей віншуем спадара Лукашэнку, зычым яму плённай канструктыўнай, лепш сказаць стваральнай, дзейнасці і... не падстаўляцца, што дагэтуль, як ні прыкра гэта гаварыць у святочны дзень, ён рабіў досыць часта...

## «ПЕРШЫНЕЦ» ТЫДНЯ

Газета «Свабода» ці не часцей за іншыя нашы выданні паведамляе пра своеасаблівыя беларускія «сенсацыі». Пра адну з такіх «радасных» неспадзевак паведамляецца і ў апошнім нумары штотыднёвіка. Здарылася яна ў Мастоўскім раёне. Тут калгас з неўміручай назвай «Ленінец» купіў друкарскую машынку з — дайце веры! — беларускім шрыфтам! А заадно паведамляецца і аб тым, што ў такі цяжкі час калгас не пашкадаваў грошай і на стварэнне этнаграфічна-краязнаўчага музея. Каб жа такія светлыя галовы ды ў кожны калгас і саўгас! І ўявіць немагчыма, як бы мы зажылі...

## ТАКСА ТЫДНЯ

Вядома ж, гаворка не пра сабак адлаведнай пароды. Гаворка пра таксы ў рублёвым вымярэнні, што нам зараз і ў снах спакою не даюць. Бо маюць адну бесперапынную тэндэнцыю — росту. Якую паслугу ні прыгадай — такса за яе, трасца на нашу галаву, расце ды расце. І розніцы аніякай, ці тая паслуга, так бы мовіць, матэрыяльная — у выглядзе, скажам, набойкі на абцас, ці «духоўная» — у выглядзе канцэрта ці божага блаславення перад апошняй дарогай. Дык вось, як паведамляе друк, кошт білетаў на канцэрты заслужаных артыстаў Беларусі Я. Паплаўскай і А. Ціхановіча дасягнуў 18 тысяч рублёў (з-за гэткай дарагоўлі і не адбылося іх выступленне перад рабочымі Асіповіцкага завода аўтаагрэгатаў), а за адляванне нябожчыка ў Слонімскай царкве ўсталявалася такая такса: 50 тысяч рублёў.

## НАВІНА ТЫДНЯ

У хуткім часе грамадзяне Беларусі будуць атрымліваць заробак новымі купюрамі вартасцю ў адну мінімальную зарплату: 20 тысяч рублёў. На іх будзе выява будынка Нацыянальнага банка і — увага: новаўвядзенне — уласнаручны подпіс старшыні Нацбанка С. Багданкевіча. Такім чынам «зайчык» набудзе ўсе знешнія прыкметы нацыянальнае валюты.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Агенцтва РіД распаўсюдзіла паведамленне, што Кабінет міністраў і Нацыянальны банк рыхтуюць сумесную пастанову, якая павінна ўрэгуляваць выдачу наяўных грошай фізічным асобам і асобам, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю. На справе гэта будзе азначаць амаль поўнае абмежаванне магчымасці абнаяўлівання грошай, на якім нажываліся многія «камерсанты», асабліва — льготнікі з ліку інвалідаў, чарнобыльцаў і інш. Пастанова слушная. Адно незразумела: навошта было шырока абвяшчаць пра яе ў друку на стадыі «распрацоўкі»?

## АДМОВА ТЫДНЯ

Не верыцца, але Канстытуцыйны суд засведчыў сваю адданасць законам Рэспублікі Беларусь. На мінулым тыдні ён даў ацэнку звароту некаторых нефармальных арганізацый да Вярхоўнага Савета аб правядзенні ўсенароднага рэферэндуму па пытаннях: аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў, дзяржаўнасці рускай мовы, змене дзяржаўнай сімволікі Беларусі, і Канстытуцыйны суд прызнаў, што першыя два пытанні супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. І вярнуў зварот яго аўтарам.

## «РАДАСЦЬ ТЫДНЯ»

Кабінет міністраў распрацаваў новую сістэму аплаты жылля і камунальных паслуг грамадзянамі Беларусі, якую прэм'ер-міністр М. Чыгір назваў ні больш ні менш — рэвалюцыяй... Што ў ёй новага? Ды нічога, усё тое ж павышэнне коштаў. Калі сёння мы аплачваем да 5 працэнтаў выдаткаў дзяржавы на ўтрыманне жылля, то з 15 лістапада будзем аплачваць да 35 працэнтаў, з новага года — да 50, а потым і ўсе 100. Гэта азначае, што менш чым за год кошт камунальных паслуг узрасце ў 20 разоў. Па сённяшніх мерках, каб аплаціць звычайную двухпакаёўку, журналісту «ЛіМа» не хопіць месячнага аклада. Такі вось рынак нас чакае.

## «ЛЕТУЦЕННІКІ» ТЫДНЯ

Яшчэ адно аб'яднанне, якое ставіць сабе за мэту аб'яднанне славянскіх рэспублік у адну дзяржаву, створана днямі. На гэты раз летуценнікі сабраліся ў Смаленску і ўтварылі садружнасць пад назовам «Прыдняпроўе». Беларусь прадстаўляла віцебская філія СС «Белая Русь». Лідэр жа СС М. Сяргееў тым часам пабываў у Маскве, дзе падзяліўся прапановай аб стварэнні новай саюзнай дзяржавы з трох славянскіх рэспублік. Калі ж Украіна «не будзе гатова» да стварэння такой дзяржавы, сказаў ён, то «можна» спачатку стварыць яе «на базе» Расіі і Беларусі. Самае прыкрае, што беларускі друк па-ранейшаму называе ўсе «саюзы», «сaборы», «садружнасці», якія выступаюць з падобнымі прапановамі — патрыятычнымі, а не шавіністычнымі. Якой логікай кіруецца наш друк — невядома. Але ж не марксісцка-ленінскай...

# ДАЙ БОГ НАШАМУ ЦЯЛЯЦІ...

## З НАГОДЫ ЎРАДАВАЙ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

Няхітры сюжэт аднаго з рэкламных кліпаў, што запаланілі сёння тэлеэкран, прысвечаны пакупцы акцый не помню ўжо якога АТ. У пакой, дзе сабралася ўся сям'я, убягае малады мужчына і са шчаслівай усмешкай на вуснах абвяшчае, што акцыі тыя купіў! «Колькі?» — хорам пытаюцца дамачадцы. У адказ ён працягвае маці кіпу паперак, на што тая з выдыхам вымаўляе: «Молодец! Это что-то!..» «Это что-то!» — у той сцэнцы мяне асабліва замілоўвае. «Что-то» — значыць, нешта няпэўнае і неакрэсленае. Але чамусьці маецца на ўвазе — што не благое, што тоіць у сабе пэўныя надзеі. Як СНД, акцыі якога, на жаль, без прыкметнага поспеху рэкламуюцца вось ужо хутка тры гады.

Садружнасць Незалежных Дзяржаў, што пасля Віскулёў прыйшла на змену эсэсэсэру, па ідэі павінна была, забяспечыўшы поўны суверэнітэт былых саюзных рэспублік, захаваць эканамічныя сувязі паміж імі, сувязі, што закладваліся не адно дзесяцігоддзе і ўтваралі, калі гэта вызначыць чыста эканамічнымі паняццямі, механізм з адзіным кровазваротам.

І калі з суверэнітэтам суб'ектаў СНД сяк-так атрымалася (па нейкіх параметрах — у поўнай меры, а па нейкіх — чыста сімвалічна), дык з эканамічным узаемадзеяннем ці не з самага пачатку справы зайшлі ў тупік. Што і прывяло ў значнай меры да глыбокага заняпаду эканомікі, якога не пазбегнула ніводная краіна.

Нельга, вядома, гаварыць, што для пераадолення такога становішча не прымалася ніякіх захадаў. На шматлікіх СНДэўскіх сустрэчах былі прыняты дзесяткі дакументаў, ды, на жаль, каэфіцыент карыснага дзеяння большасці з іх быў ніжэйшы, чым у старога паравоза. Самае пікантнае, што ўсё гэта пасля чарговага саміта не перашкаджала яго ўдзельнікам вяртацца дадому з самымі аптымістычнымі прагнозамі: маўляў, ну вось цяпер усё пойдзе на лад.

Прыблізна такі настрой панаваў і сярод членаў Кабінета міністраў Беларусі, якія суправаджалі прэзідэнта краіны А. Лукашэнку ў час яго паездкі ў Маскву і якія ў панядзелак сустрэліся з журналістамі на чарговай урадавай прэс-канферэнцыі.

Дакументы і падрабязнасці маскоўскага саміта апублікаваны ўжо ў штодзённых газетах, і гэта пазбаўляе мяне патрэбы спыняцца на іх, таму дазволю сабе падзяліцца толькі некаторымі думкамі з нагоды гэтай прэс-канферэнцыі, у якой прынялі ўдзел прэм'ер-міністр М. Чыгір, міністр замежных спраў У. Сянько, міністр па знешнеэканамічных сувязях М. Марыніч і міністр па сувязях з краінамі СНД У. Заламай.

Усе яны, і ў першую чаргу М. Чыгір, значную частку сваіх выступленняў прысвяцілі нараджэнню на маскоўскай сустрэчы новага органа, якому, па іх словах, суджана адыграць ці не ролю панацэі ад усіх эканамічных і іншых бядот, што абрынуліся на СНД. Маецца на ўвазе стварэнне міждзяржаўнага эканамічнага камітэта (МЭК), які будзе мець функцыі наднацыянальнага органа, але, як падкрэсліў прэм'ер-міністр, пры абавязковай згодзе на гэта ўсіх краін Садружнасці. У першую чаргу сфера дзейнасці МЭКа — — аб'екты транснацыянальнага характару: чыгуначны і паветраны транспарт, сувязь, тэле- і радыёкамунікацыі і г. д.

Ну што ж, прынцыповых пярэчанняў тут, як быццам, быць не можа. Калі мець на ўвазе існуючыя рэаліі, патрэба ў эканамічнай інтэграцыі ўсіх краін Садружнасці наспела даўно. М. Чыгір расказаў пра некаторыя сумныя эпізоды з нашага сённяшняга быцця, якія насілі сапраўды ірэальны характар і былі вынікам існуючых узаемаадносін паміж краінамі СНД. У якасці прыкладу былі прыведзены пастаўкі ў Беларусь пладоваагародніннай прадукцыі з Малдовы, пастаўкі, на шляху якіх Украінай, праз якую транзітам яны ішлі да нас, былі пастаўлены амаль непераадольныя мытныя і іншыя перашкоды, у выніку чаго значная частка прадуктаў псавалася. Стварэнне адзінай транспартнай сістэмы з адзінымі тарыфамі дасць магчымасць, па задуме аўтараў МЭКа, пакласці канец падобным фактам. МЭК, які будзе мець кантрольна-распарадчыя функцыі, дазволіць скаардынаваць і ўзаемныя разлікі паміж дзяржавамі. Акрамя ўсяго іншага, на новае ўтварэнне будуць ускладзены абавязкі пошуку сярод членаў Садружнасці «прадаўцоў» і «пакупнікоў». Адзін з прыкладаў, нагаданых М. Чыгіром: «Туркменістан вельмі зацікаўлены ў набыцці беларускіх трактароў. Мы ж маем патрэбу ў іх газе. Пакуль што такая «стыкоўка» інтарэсаў нам удавалася слаба. Цяпер спадзяёмся на лепшае».

Спадзяванне — рэч, вядома, добрая, але я слухаў гэта меркаванне прэм'ера і не мог не ўспомніць, што пяцццю хвілінамі раней ён сказаў: менавіта Туркменія не падпісала дакумента аб стварэнні МЭКа.

Журналісты, якія прысутнічалі на прэс-канферэнцыі, пацікавіліся, калі той МЭК канкрэтна запрацуе? Тут, на жаль, нічога суцяшальнага спадары міністры паведаміць не змаглі. Усё знаходзіцца яшчэ ў арганізацыйнай стадыі. А, галоўнае, не падабраны чалавек, які мог бы гэты орган узначаліць. Вядома, што Б. Ельцын прапанаваў на гэтую пасаду кандыдатуру былога старшыні ўрада рэспублікі В. Кебіча, але супраць гэтага рэзка запярэчыў прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, сказаўшы, што ўспрымае такую прапанову асабістай абразай як кіраўніка дзяржавы і ўсяго народа Беларусі.

Дарэчы, сваю інфармацыю на прэс-канферэнцыі М. Чыгір пачаў са слоў захаплення паводзінамі прэзідэнта А. Лукашэнкі на саміце, якія, па словах прэм'ера, выклікалі да яго агульную цікавасць і павагу. Адна з прысутных журналістак у сувязі з гэтым нагадала прэм'еру інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча маскоўскім карэспандэнтам, дзе ён, расказваючы пра сваю прынцыповую і смелую пазіцыю на сустрэчы з расійскім бокам, у якасці ілюстрацыі спаслаўся на М. Чыгіра, які прысутнічаў пры гэтым і ў якога ад страху заняло дыханне. М. Чыгір не без гумару адказаў, што з дыханнем ён урэшце справіўся, бо інакш не змог бы прысутнічаць на гэтай прэс-канферэнцыі, але прызнаў, што сапраўды спачатку яго крыху напалохала наступальная манера ў паводзінах нашага прэзідэнта ў Маскве. Але хутка ён упэўніўся, што менавіта так і павінен сябе паводзіць кіраўнік суверэннай, незалежнай дзяржавы. Вядома, нікога пры гэтым не абражаючы.

Ну што ж, як кажуць, дай Бог нашаму цяляці воўка з'есці...

**Міхась ЗАМСКІ**

# ДНЮ АБАРОНЫ АЙЧЫНЫ — БЫЦЬ

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Й ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Па Беларусі прайшло вялікае свята — 480-я ўгодкі Перамогі Беларускага войска над маскоўскім пад Воршаю. У 1514 годзе нашы рыцарываяры-ваяводы й военачальнікі, шляхта й люд паспаліты адстаялі незалежнасць нашай дзяржавы — Вялікага княства — і паказалі прыклад служэння Бацькаўшчыне.

У гісторыі беларускага народа Аршанская бітва мае выключна важнае значэнне. На доўгі час яна спыніла маскоўскую агрэсію. Хаця мы і страцілі частку спрадвечных усходніх беларускіх земляў, але была ўстаноўлена стабільная мяжа паміж дзвюма дзяржавамі, якая захоўвалася на працягу стагоддзяў. Беларусь набыла аўтарытэт паміж еўрапейскімі народамі. Былі скасаваны намеры Маскоўскага княства і Германскай імперыі падзяліць старадаўняе Беларускае Гаспадарства.

Бітва спрыяла яднанню нацыі вакол ідэі дзяржаўнасці й незалежнасці. Аршанская Перамога засталася ў гістарычнай памяці народа. Пра яе спяваюць песні да сёння, складаюць вершы, расказваюць паданні. Яе героі ўвекавечаны ў творах беларускага жывапісу. Яна адлюстравана ў еўрапейскім выяўленчым мастацтве, зафіксавана ў беларускіх і рускіх летапісах, замежных хроніках і запісках дыпламатаў. Вопыт Аршанскае бітвы вывучалі ў розных вайсковых установах, у тым ліку і расійскіх, як майстэрства перамагаць меншымі сіламі.

Ужо чатыры гады, як сумеснымі намаганнямі мы аднавілі традыцыю святкавання Аршанскае перамогі. І гэта стала паказальнаю з'яваю ў часе Адраджэння і Абароны Беларускае Дзяржавы, культуры і нацыянальнай самасвядомасці.

Сёлета патрыятычныя арганізацыі Беларусі аб'ядналіся дзеля святкавання Перамогі пад Воршаю. Як і ў мінулыя гады, пры падрыхтоўцы й правядзенні ўрачыстасцяў яны сутыкнуліся з супрацьстаяннем варожых беларускай дзяржаве сілаў, антынароднымі дзеяннямі некаторых мясцовых органаў улады, асабліва ў гор. Воршы. Труслiва й крывадушна павёў сябе Менскі гарвыканкам, каторы напачатку дазволіў быў урачыстае шэсце, а за два дні да свята адмяніў сваё рашэнне, чым парушыў дзейнае заканадаўства. Эфір Беларускага радыё і старонкі газеты «Советская Белоруссия» сталі арэнай знеслаўлення ўласнай гісторыі і святой памяці змагароў за Бацькаўшчыну.

Тым не менш беларускі народ не ўдалося запалохаць, прымусіць паверыць у хлусню розных «соборов» і «союзов». На свята выйшлі дзесяткі тысячаў жыхароў беларускай сталіцы і гасцей з іншых гарадоў краіны. Свята набыло агульнанацыянальны характар. Урачыстасці прайшлі на Крапівенскім полі пад Воршаю, у самой Воршы, Віцебску, Магілёве, Гомелі, Гародні і іншых мясцінах Беларусі. І гэта сведчыць пра вяртанне гістарычнай памяці нашага народа, Адраджэння беларускай нацыі й дзяржавы.

З мэтай увекавечання гераічнага подзвігу нашых продкаў Аргкамітэт выступае з наступнымі прапановамі:

1. Прыняць рашэнне Вярхоўнага Савета аб наданні дню 8 верасня дзяржаўнага свята «Дзень Абароны Айчыны».
2. Вярхоўнаму Савету Беларусі прыняць рашэнне аб пабудове Мемарыяла Славы ў гонар Перамогі 1514 года на Крапівенскім полі пад Воршаю, музея і дыярамы.
3. Збудаваць помнікі Канстанціну Астрожскаму і Юрыю Радзівілу ў Воршы й Менску.
4. Усталяваць ордэны вайсковай славы імя Канстанціна Астрожскага і Юрыя Радзівіла.
5. Вуліцам і плошчам Менска, Воршы і іншых гарадоў надаць імёны слаўных К. Астрожскага і Ю. Радзівіла.
6. Менскаму сувораўскаму вучылішчу надаць імя Канстанціна Астрожскага і рэарганізаваць яго ў вайсковы каледж.

**Аргкамітэт па святкаванні 480-х угодкаў Перамогі Беларускага войска пад Воршаю**

# ТУТ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ



Гайнаўка — невялікі гарадок на ўсходзе Польшчы. Тут, і ў навакольных гарадках і вёсках, спрадвеку жывуць беларусы. І не проста жывуць, а ашчадна захоўваюць мову, звычаі, традыцыі. Садзейнічае гэтаму Беларускае культурнае таварыства і праваслаўная царква. Культура і духоўнасць — што можа лепш аб'ядноўваць людзей?

Клапоцячыся аб захаванні гісторыі нацыі, стварылі тут, у Гайнаўцы, Беларускі музей, для якога ўзводзіцца спецыяльны будынак. Часовую ж экспазіцыю ўжо сёння наведваюць шматлікія госці. Узначальвае музей і камітэт па яго будаўніцтве (у ім трыста чалавек) Канстанцін Майсеня — чалавек, які за мэту свайго жыцця зрабіў стварэнне музея еўрапейскага ўзроўню.

Няшмат тут можна было б зрабіць па захаванні беларускай культуры без дапамогі праваслаўнай царквы. Свяшчэннік сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы айцец Міхаіл Негярэвіч, адзін з самых актыўных членаў Беларускага культурнага таварыства, прымае ўдзел у жыцці беларускай абшчыны, кіруе хорам сабора Святой Тройцы.

Жывуць у Гайнаўцы беларусы. Пастаянна цікавяцца жыццём нашай краіны, перажываюць за стан спраў у ёй і шчыра жадаюць нам поспехаў. Бо яны — часцінка беларускай зямлі.

**Яўген КАЗЮЛЯ,**
**БЕЛІНФАРМ**

*На здымках: Канстанцін Майсеня (справа) знаёміць наведвальнікаў музея з гісторыяй быту сялян; найбагаты роспіс упрыгожвае інтэр'ер сабора.*

*Фота аўтара*



# БОН І МІНСК — ПАБРАЦІМЫ

З 19 па 25 кастрычніка ў сталіцы нашай дзяржавы прайшлі Дні культуры Бона. Заяўка на правядзенне іх была зроблена па сутнасці год назад, калі ў верасні 1993-га ў рамках фестывалю «Бонскае лета» знайшлося і месца Дням культуры горада Мінска. Тады перад патрабавальным нямецкім гледачом, дэманструючы высокае прафесійнае майстэрства, выступілі нашы лепшыя танцавальныя, харавыя, музычныя калектывы. Тады ж быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж Бонам і Мінскам, згодна якому гарады-пабрацімы абавязваліся падтрымліваць самыя розныя, у тым ліку і культурныя стасункі.

Урачыстае адкрыццё Дзён адбылося ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі, дзе размясцілася экспазіцыя твораў 35 нямецкіх мастакоў. Дарэчы, з Мінска яна накіруецца ў Стамбул, а затым у Анкару.

Бургаміст Бона Ота Кранц падкрэсліў, што для яго і яго калег высокі гонар удзельнічаць у такіх важных мерапрыемствах, як Дні культуры. Такой думкі былі таксама пасол ФРГ у Рэспубліцы Беларусь Готфрыд Альбрэхт, старшыня Федэральнага Саюза мастакоў Бона Вольфганг Хунеке. Спадар Кранц падарыў мэрыі Мінска карціну, прысвечаную 2000-годдзю з дня заснавання Бона.

Аб далейшых культурных стасунках паміж гарадамі-пабрацімамі ішла гаворка на сустрэчы афіцыйнай бонскай дэлегацыі з прадстаўнікамі Мінгарвыканкама. На ёй старшыня гарвыканкама А. Герасіменка падкрэсліў, што добрыя ўзаемаадносіны Беларусі з Германіяй дапамогуць нашай дзяржаве заняць належнае месца сярод цывілізаваных краін Еўропы.

Праграма Дзён была разнастайнай — спектаклі, выстаўкі, канцэрты.

Адна з выставак у Белдзяржфілармоніі мела назву «Дом-музей Бетховена». На ёй былі прадстаўлены будынак, у якім у 1770 годзе нарадзіўся вялікі кампазітар, водгукі на яго музыку, партрэты. Пасля знаёмства з экспазіцыяй з нейкай асаблівай асалодай успрымалі прысутныя творы Бетховена ў час канцэрта.

**Н. К.**

Без каментарыяў

***Галоўнаму рэдактару газеты «Літаратура і мастацтва» М. С. Гілю***

***Паважаны Мікола Сымонавіч!***

***Прашу Вас размясціць мой адказ на артыкул Генрыха Далідовіча, надрукаваны 14 кастрычніка ў газеце «Літаратура і мастацтва» N 46.***

***З павагай,***
***Начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі***
***Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь***

***А. І. Фядута***

# З АДКРЫТЫМ ЗАБРАЛАМ

## АДКРЫТЫ АДКАЗ ПІСЬМЕННІКУ ГЕНРЫХУ ДАЛІДОВІЧУ

Добры дзень, паважаны Генрых Вацлававіч! Вось ужо ніколі не думаў, што Вы вырашыце ўступіць са мною ў перапіску. І не таму, што я далёкі ад эпісталярнага жанру, зусім не. Проста пакуль усе наспеўшыя пытанні мы з галоўнымі рэдактарамі газет і часопісаў вырашалі альбо пры асабістых сустрэчах, альбо па тэлефоне. Калі да мяне не маглі дазваніцца асабіста, пакідалі каардынаты сакратару ў прыёмнай, тады званіў я сам. Прызначалі сустрэчу і сустракаліся ў рэдакцыі. Не люблю я адкрытых пісьмаў, якія публікуюцца раней, чым адбылася асабістая размова на тую ці іншую тэму. Прыгадайце, як Прэзідэнт ахарактарызаваў тых, хто кінуўся крытыкаваць у друку і з парламенцкай трыбуны прапанаваныя ім неадкладныя антыкрызісныя меры, але каб вырашыць пытанне канструктыўна нават пальцам не паварушыў. Ён ім адно-адзінае пытанне задаў: «А што ж вы свае разумныя думкі ў групу распрацоўшчыкаў не прынеслі? Крытыкаваць заўсёды лягчэй, чым ставіць подпіс пад рашэннямі».

Рашэнні, пра якія Вы, Генрых Вацлававіч, пішаце мне ў сваім адкрытым пісьме, пакуль не толькі не прыняты, але і не сфармуляваны. Ёсць пакуль толькі думкі ўслых Вашага пакорнага слугі, а тыя, хто з ім не згодны, набіраюць нумар тэлефона і ўдакладняюць, ці так яго зразумелі. І калі атрымалася, што так, тады хутчэй за ўсё — чаго граху таіць! — крыюць у хвост і ў грыву, але ж у асабістай гутарцы, каб пачуць у адказ аргументы, а не проста стрэліць у паветра. Часам скардзяцца Прэзідэнту, і ён мяне папраўляе. А ціснуць артыкульчык у друк яшчэ да высвятлення адносін на дуэлі з часоў Булгарына лічылася дрэнным тонам, блізкім да палітычнага даносу. Маўляў, глядзі, беларуская інтэлігенцыя, дзе твой вораг! Але паколькі жанр і форму нашых адносін выбралі Вы, мне застаецца звярнуцца да Вашай жа зброі.

Такім чынам, што ж за прапановы рыхтуе на разгляд Прэзідэнту гэты крыважэрны Аляксандр Фядута? Літаральна наступнае:

1. Улічываючы, патрабаванні грамадскасці дэманапалізаваць сродкі масавай інфармацыі, прапануецца: з шасці газет, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца цэнтральныя рэспубліканскія органы ўлады, пакінуць тры. Гэта — «Народная газета», за якой застаецца статус парламенцкай. «Рэспубліка» — урадавай, а «Звязда» набывае статус прэзідэнцкай. Прапануецца пакінуць яе беларускамоўную спецыфіку (магчымы рускамоўны ўкладыш), а ў якасці сузаснавальніка захаваць працоўны калектыў.

2. Захаваць дзяржаўныя датацыі дзіцячым выданням незалежна ад статуса іх заснавальніка. Пад гэты пункт падпадаюць газеты «Зорка», «Раніца», часопісы «Вясёлка», «Бярозка» і «Пралеска».

3. Захаваць дзяржаўныя датацыі навуковым і навукова-метадычным часопісам, што заснаваны з удзелам дзяржаўных органаў кіравання, адукацыі, навуковых і навучальных устаноў.

4. Захаваць дзяржаўныя датацыі выданням, асноўны тыраж якіх ідзе за межы Беларусі, — газета «Голас Радзімы» і часопіс «Беларусь».

5. Прапанаваць міністэрствам, якія з'яўляюцца аднаасобнымі заснавальнікамі і не падпадаюць пад пункты 1—4 выданняў, разгледзець пытанне аб іх лёсе з улікам меркаванняў працоўных калектываў.

У якім з гэтых пунктаў Вы, Генрых Вацлававіч, убачылі пагрозу нашай культуры? Ёсць і клопат пра дзяцей, і клопат пра навуку і пра адукацыю, і ўвага да замежных нашых суайчыннікаў. Ёсць і дрэнная звычка Вашага пакорнага слугі — «адпускаць» толькі папярэдне заплаціўшы доўг, і з улікам меркаванняў калектыву. Паколькі Вы, Генрых Вацлававіч, нагадваеце, як «выкінулі на вуліцу» былыя выданні ЦК ЛКСМБ, не грэх успомніць пра гэта і мне.

У жніўні 1991 года Вярхоўны Савет ледзь не прыпыніў дзейнасць камсамола. Потым разабраўся, адмяніў уласнае не зусім законнае рашэнне, у многім дзякуючы дэпутатам Шушкевічу С. С., Лукашэнку А. Р., Булахаву Д. П. Але пункт пастановы аб дэпартызацыі парламент не адмяніў. На падставе гэтага пункта былыя камсамольскія структуры па ўсёй рэспубліцы былі ўцягнуты ў працэдуру перарэгістрацыі заснаваных з іх удзелам камерцыйных структур. Адначасова выканкамы проста прымушалі тагачасны камсамол адмаўляцца ад правоў заснавальніка. І новае кіраўніцтва Саюза моладзі апынулася перад адказам на пытанне: як утрымліваць шэраг перыядычных выданняў, не закрываючы пры гэтым арганізацыю? І ніхто нікога не выкінуў. Спачатку заплацілі даўгі (па адной толькі газеце «Знамя юности» па стану на люты 1992 года доўг склаў 3 мільёны рублёў). Потым пайшлі за кансультацыяй да Міністра інфармацыі, які запэўніў нас, што ніхто не прападзе (дзякуем, Анатолю Іванавічу Бутэвічу, які тады ўсё правільна зразумеў, дапамог і мне, і Вам!). Потым сустрэліся з сузаснавальнікамі. Я асабіста вёў перагаворы з Васілём Васільевічам Зуёнкам, які зразумеў наша становішча і пагадзіўся з прапанаваным варыянтам «разводу». Потым сустрэліся з кіраўнікамі «адпускаемых» выданняў, шчыра сказалі ім аб усім і прапанавалі што акажам садзейнічанне ў пошуку новага заснавальніка. Ірына Уладзіміраўна Угольнік можа пацвердзіць, паколькі яна аб гэтым прасіла, што ЦК СМБ дапамагаў «Піянеру Беларусі», як мог.

Так што не трэба пужаць чытача жудасным Фядутам, які не ўмее цывілізавана паводзіць сябе з прэсай. Умее, смею Вас запэўніць, нават калі Вам вельмі хочацца даказаць адваротнае. Але Вы маеце права спытаць ужо не ад імя «грамадскасці», бо гэта самая «грамадскасць» пазвоніць мне па тэлефоне і ўдакладніць усё, што яе цікавіць, ад уласнага імя: «Што ж будзе з часопісамі «Маладосць»? І тут я павінен прызнаць, што праблема ёсць.

Праблема ёсць, калі ўлічваць сярэдні ўзрост аўтараў, то часопіс «Маладосць» — ні дзіцячы, ні маладзёжны. Хутчэй за ўсё, такім з'ўляецца часопіс «Першацвет», таму што на яго аўтараў пашыраецца дзеянне Закона аб асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Навуковым ён таксама не з'яўляецца, а дарэмна: беларускія навуковыя часопісы попытам у свеце карыстаюцца. Возьмем, напрыклад, часопіс «Дыялог. Карнавал. Хранатоп», які выходзіць у Віцебску, рэцэнзіі на нумары якога я чытаў нават у амерыканскай спецыялізаванай прэсе. І знаходзяць жа выдаўцы гэтага часопіса грошы на выданне тыража (2000 экземпляраў на рускай мове, 500 на беларускай), і чытача, які ганяецца паляваннем за гэтым тыражом па ўсяму СНД.

«Пачакай!» — скажаце Вы. — «Яны ж і на рускай мове выходзяць, а мы толькі на беларускай!» А я адкажу: «Так, але ж гутарка ідзе пра навуковы часопіс, а ў дадзеным выпадку — пра літаратурна-мастацкі». А Вы, Генрых Вацлававіч, не горш за мяне ведаеце, што ва ўсім свеце мастацкая літаратура фінансуецца альбо чытачом, альбо мецэнатам-спонсарам. Дзяржава ва ўмовах эканамічнага крызісу быць усеагульным спонсарам не можа, тым больш калі гаварыць аб мастацкай літаратуры. Дай Бог, каб яна хоць на працэнтаў 70 за паліва заплаціла. Не хочацца, ведаеце, буржуйку ставіць і кнігамі распальваць. На кнігу я і сам грошы знайду. Калі гэта добрая кніга. І калі я знайду ў кнігарне гэтую кнігу. Таму што не ляжыць у магазіне кніга У. Караткевіча, В. Быкава, Я. Брыля. Не відаць аповесцей В. Адамчыка. Пытаецца чытач і І. Шамякіна, М. Танка.

Маладыя пісьменнікі мяне, хутчэй за ўсё, асудзяць: якіх мэтраў памінае, куды нам да іх! Ну, папершае, я ўпэўнены, што і Анатоля Сыса, і Адама Глобуса кнігі раскупяць. А па-другое, спадары: Пушкін першыя кнігі таксама за свой кошт выдаваў, як і Багдановіч, калі памяць мне не здраджвае, як і Скарына. Толькі б кнігі былі добрыя.

Нам усім трэба жыць па сродках. І краіне ў цэлым, і асобным сацыяльным катэгорыям. А ў Вашым пісьме праглядваецца крыўда за мінулыя часы, калі Вы, пісьменнік, жылі ўжо амаль пры камунізме, атрымліваючы гарантаваныя ганарары. Вы не можаце папракнуць мяне тым жа, паколькі мая камсамольская біяграфія складвалася ў асноўным у іншыя часы, як справядліва заўважыла нават газета «Свабода», якая выходзіць на беларускай мове і не патрабуе ніякіх датацый. Правільна адказаў на сесіі прэм'ер-міністр на пытанне, як будуць існаваць творчыя саюзы: «Як будуць працаваць, так і будуць існаваць». Па творчасці жыць будуць.

І не трэба, Генрых Вацлававіч, хавацца за праблему мовы. Сорамна, калі пісьменнік прызнаецца, што сярод дзесяці мільёнаў ён не знаходзіць свайго чытача. Тым больш, у краіне, дзе мова — дзяржаўная! Вы не Шалом-Алейхам, чыя мова не мела такога статуса, але які чытача свайго знайшоў.

Аднак я забыў — Вы ж і сапраўды не Шалом-Алейхам...

Прабачце.

З павагай да Вас

**Аляксандр Фядута**

*Друкуецца ў адпаведнасці з арыгіналам.*

# НАВЕДАЙЦЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**10 лістапада (пачатак а 15-й гадзіне) адбудзецца пасяджэнне «круглага стала» на тэму «Маладая крытыка: стан і перспектывы яе развіцця».**

**Творчая вечарына пісьменніка Вячаслава Стомы запланавана на 16 лістапада. Пачатак — у 18 гадзін 30 мінут.**

**17 лістапада ў 15 гадзін збіраецца секцыя перакладу, каб паразважаць на тэму: «Серыя «Скарбы сусветнай літаратуры»: набыткі і пралікі».**

**Вечарына «Сыноўняя вернасць» (17 лістапада, у 18 гадзін) прымеркавана да 80-годдзя Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча і 35-годдзя Літаратурнага музея Якуба Коласа.**

**20 лістапада (пачатак у 15 гадзін) на секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва пачнецца абмеркаванне новых кніг выдавецтва «Юнацтва» і тэматычнага плана на 1996 год.**

**Пры жаданні бліжэй пазнаёміцца з творчасцю Алеся Масарэнкі не забудзьце прыйсці 23 лістапада, калі ў 18 гадзін 30 мінут пачнецца прэм'ера яго кнігі «Пакуль не завялі кветкі».**

**На 15 гадзін 24 лістапада запланавана пасяджэнне секцыі паэзіі.**

**Спектакль «Містэрыя» паводле рамана У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ў пастаноўцы народнага тэатра чытальнікаў «Жывое слова» можна паглядзець у 18 гадзін 30 мінут 29 лістапада.**

**Два наступныя мерапрыемствы адбудуцца ў 17 гадзін 30 мінут у БЕЛАРУСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ КУЛЬТУРЫ, у аўдыторыі 114: 17 лістапада вечарына, прысвечаная 182-ім угодкам з дня нараджэння Паўлюка Багрыма, а 24-га — 95-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова пад назвай «Летапісец векапомнага».**

# І СЛОВАМ, І ПЕСНЯЙ

**віншавалі Артура Вольскага ў сувязі з яго 70-годдзем шматлікія паплечнікі, сябры і проста ўдзячныя чытачы, што сабраліся на юбілейны вечар, які праходзіў у Доме літаратара. Адкрыў яго і вёў старшыня Саюза пісьменнікаў В. Зуёнак. Верш, прысвечаны Артуру Вітальевічу, прачытаў М. Аўрамчык. Цёплыя словы гаварылі прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» У. Ліпскі, прадстаўнікі — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны В. Вільтоўскі, Дэмакратычнага згуртавання ветэранаў — Л. Севасцянчык, А. Дзеружынскі, М. Вяршынін.**

**І, вядома ж, вітаў юбіляра калектыў тэатра юнага гледача, з якім Артура Вітальевіча даўно звязвае сумесная творчая праца. Выступілі дырэктар ТЮГа І. Андрэеў, мастацкі кіраўнік М. Абрамаў, народны артыст Беларусі М. Пятроў, заслужаная артыстка В. Кавалерава, Ю. Вута.**

**Гучалі песні Р. Суруса на вершы А. Вольскага, спявалі барды Л. Вольскі і К. Камоцкая. І, канечне ж, было дадзена слова самому Артуру Вітальевічу.**

# ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

**Утвораны Арганізацыйны Камітэт па святкаванні 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Аргкамітэт заснавалі Беларускі народны фронт «Адраджэнне», Мартыралог Беларусі, творчая суполка мастакоў «Пагоня», Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Беларускае краязнаўчае таварыства, Згуртаванне беларускае шляхты, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, культурны асяродак «Беларусь» г. Алматы, Беларускі фонд імя Л. Сапегі, Асацыяцыя вольных сродкаў масавай інфармацыі.**

**Старшынёй Аргкамітэта абраны прафесар Мікола Савіцкі. На сваім першым пасяджэнні Аркамітэт пастанавіў працягнуць вывучэнне гісторыі Слуцкага Збройнага Чыну, лёсу ягоных кіраўнікоў і жаўнераў; святочныя мерапрыемствы і ўшанаванне памяці герояў паўстання правесці ва ўсіх найбольш важных паселішчах краіны, звязаных са збройным змаганнем за Беларускую Народную Рэспубліку. Аргкамітэт заклікаў грамадства Беларусі шырока адзначыць чарговыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну.**

# Анатоль ВЯЛЮГІН



Беларусь страціла аднаго са сваіх адданых сыноў, таленавітага працаўніка на ніве нацыянальнай культуры. 24 кастрычніка 1994 года перастала біцца сэрца Анатоля Вялюгіна — паэта, перакладчыка, кінадраматурга, мудрага настаўніка творчай моладзі.

Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін нарадзіўся 27 снежня 1923 года ў вёсцы Машканы Сенненскага раёна на Віцебшчыне. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся на рабфаку ў Віцебску, на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, спалучаючы вучобу з працай у рэдакцыях газет «Звязда», «Чырвоная змена». Тады ж надрукаваў у рэспубліканскіх выданнях свае першыя вершы.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны з 1942 года — у Чырвонай Арміі, пасля заканчэння Лугінскай авіяшколы — на Сталінградскім фронце. У 1943 годзе быў цяжка паранены, доўгі час лячыўся ў шпіталях.

У Мінск вярнуўся ў маі 1945 года. У 1948 г. скончыў завочна Мінскі педінстытут, працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» (1945—46 гг.), а пасля з невялікімі перапынкамі да 1984 года — у часопісе «Полымя» рэдактарам аддзела паэзіі.

Сваімі першымі кнігамі вершаў «Салют у Мінску» (1947), «Негарэльская арка» (1949), «На подступах» (1952) А. Вялюгін сцвердзіў сябе як выдатны майстар паэтычнага слова, мастацкай дэталі. Асабліва ярка яго талент раскрыўся ў кнігах «На зоры займае» (1958), «Насцеж» (1960), «Верасовы ўзятак» (1974), «Песня зялёнага дуба» (1989). За паўвека творчай працы ім выдадзена каля двух дзесяткаў паэтычных кніг (з іх пяць — для дзяцей), напісаны сцэнарыі мастацкага двухсерыйнага тэлефільма «Рэха ў пушчы», мастацкага фільма «Глядзіце на траву» і 40 дакументальных фільмаў, у якіх апаэтызавана прыгажосць роднай зямлі, веліч і мужнасць яе людзей.

У славянскім свеце шырока вядомы і як перакладчык. Дзякуючы майстэрству А. Вялюгіна на беларускай мове загучалі М. Лермантаў, А. Міцкевіч, У. Бранеўскі, Ю. Тувім, У. Маякоўскі, М. Нагнібеда, П. Варанько, Д. Белавус.

Узнагароджаны ордэнамі Айчынай вайны І ступені, «Знак Пашаны», многімі медалямі. Яму прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы, Дзяржаўнай прэміі БССР.

А. Вялюгін быў не толькі выдатным паэтам, але і мудрым, добразычлівым настаўнікам літаратурнай моладзі. Ён умеў разгледзець у маладых сапраўдны талент, своечасова падтрымаць яго і выпеставаць. Цэлую кагорту беларускіх паэтаў блаславіў ён на творчае жыццё.

Паэтычная творчасць А. Вялюгіна, як і яго пераклады і кінасцэнарыі — гэта неацэнны ўклад у нашу нацыянальную культуру, гэта тая спадчына, якою будзе вечна ганарыцца Бацькаўшчына. Усім сваім творчым лёсам, самаадданым служэннем паэзіі А. Вялюгін здабыў пачэснае месца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў.

**В. Ганчар, А. Бутэвіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, П. Панчанка, М. Танк, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, В. Адамчык, С. Андраюк, М. Аўрамчык, Г. Бураўкін, В. Вітка, А. Вярцінскі, М. Гіль, Г. Грахоўскі, Г. Далідовіч, А. Дудараў, А. Жалязоўскі, А. Жук, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Каваленка, К. Камейша, Н. Кіслік, А. Красінскі, А. Кудравец, А. Лойка, М. Лужанін, П. Макаль, І. Навуменка, В. Нікіфараў, У. Някляў, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, П. Прыходзька, І. Пташнікаў, А. Русецкі, Б. Сачанка, Ю. Свірка, Я. Сіпакоў, В. Супруичук.**

# ПАКЛОН ВАМ, МАЙСТРА І НАСТАЎНІК...

Сама беларуская прырода, трывушчы і цягавіты генны код вялюгінскага роду адарылі яго надзвычай шчодра, і здавалася, што ніколі не будзе зносу гэтаму магутнаму, нібы адчэсанаму з камля бронзавай барвой сасны, гэтаму прыгожаму і сваёй паставаю, і добрым сэрцам, і адкрытаю, разнасцежанаю, чуйнаю душою чалавеку. Ды пастукалася, як заўжды нечаканая, жалобная, чорная вестка — памёр Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін...

Кожны чалавек па-свойму унікальны, а тым больш творца, паэт. Анатоль Вялюгін адметны і ў самой беларускай пісьменніцкай грамадзе сваёй самабытнай, непаўторнай, годнай постаццю, сваім арыгінальным мысленнем, сваёй здзіўляючай здольнасцю да заўсёднага творчага абнаўлення. Гэта ясна бачылася заўжды і асабліва выразна высвечваецца цяпер — на спавітых смуткам і жальбою агледзінах усяго, што зроблена Майстрам. Яго літаратурны талент не быў абмежаваны пэўнымі рамкамі: палымяны і мудры публіцыст, дасведчаны і тонкі крытык, удумлівы і ашчадны перакладчык паэзіі многіх народаў, арыгінальны і высокапрафесійны кінадраматург. Але найперш Анатоль Вялюгін — паэт з божае ласкі. Вольна, свежа, хораша дыхаецца на «мурожным і росным» мацерыку вялюгінскай паэзіі, якая палоніць кожнага сваім сакавітым, надзіва зямным і такім нечаканым словам, якое свеціцца, звініць, радуе сэрца і ўзвышае душу. Томікі яго выбраных вершаў і паэм, якія ўвабралі і першыя маладыя радкі, і напісанае сталаю рукою, настолькі вагомыя, што назаўсёды застануцца ў духоўнай скарбніцы нашага народа.

Застанецца як унікальная з'ява і вялюгінская літаратурная школа, якую прайшлі многія пакаленні беларускіх паэтаў, дзе яны вучыліся ў Майстра не толькі агранцы слова і радка, але і чалавечнасці, дабрыні, самаахвярнасці.

Некалькі дзесяцігоддзяў свайго жыцця Анатоль Сцяпанавіч аддаў часопісу «Полымя», працуючы ў рэдакцыі, а затым з'яўляючыся членам рэдакцыйнай калегіі, нашым глыбока дасведчаным, клапатлівым дарадцам і настаўнікам. Кожны паэт ведае, што надрукавацца ў часопісе пры ім было як няпроста, так і ганарова. Якім шчасцем затое свяціліся вочы маладых творцаў, з якой радасцю гаварылі яны, што іх вершы ўхваліў сам Вялюгін. Да апошняга дня Анатоль Сцяпанавіч заставаўся верным, адданым «палымянцам», уважліва чытаў кожны нумар часопіса, і хваліў, і крытыкаваў, даваў заўсёды слушныя, патрэбныя парады.

Ён апантана любіў Беларусь, шмат пахадзіў яе разгоністымі бальшакамі і ціхімі сцежкамі, выдатна ведаў нашу гісторыю, пільна ўглядаўся ў нашу будучыню.

У сваёй аўтабіяграфіі, якая змешчана ў кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі», саракагадовы паэт назваў беларускую літаратуру «народным апалчэннем». Гэтая ацэнка і дакладная, і справядлівая. Сапраўды, уся гісторыя нашай літаратуры — гэта апантанае, мужнае і знясільваючае змаганне за Беларусь, за адраджэнне нацыянальнай годнасці, за рэстаўрацыю духу і характару суайчыннікаў. Так было, так, на вялікі жаль, і засталося. І балюча ўсведамляць, што ў гэты бязладны, разбэрсаны, няпэўны і непрадказальны час, калі сілы рэакцыі і цемрашальства зноў вядуць масіраваны наступ на нашы святыні, на родную мову, культуру, а дэнацыяналізаванае, знямелае і аглухлае грамадства не здольнае ім супраціўляцца, наша народнае апалчэнне страціла свайго выпрабаванага, загартаванага, самаадданага і мужнага ваяра.

Што і казаць, натрудзіліся за ўсё жыццё, дарагі Анатоль Сцяпанавіч, Ваш высокі і ясны розум, Вашы працавітыя рукі аратага і сейбіта, Ваша гарачае і шчырае сэрца, якія так шмат зрабілі для народа, для роднай зямлі. Хай жа яна — наша ўсіхная маці — беражліва прытуліць свайго сына, каб спакойна спалася Вам пад «зялёным ветразем» беларускіх сосен, пад крылом вечнасці. Спачывайце, і ведайце, што мы, пакуль жывём, неаднойчы ўспомнім Вас тым жа добрым словам, на якое Вы заўсёды былі такім шчодрым для нас.

Паклон Вам, Майстра і Настаўнік...

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# НА ЗОЛКУ ДНЯ

*Памяці*
*Анатоля ВЯЛЮГІНА*

**Калі зара даспелаю рабінай**
**Барвовы цвет пранесла па зямлі**
**І, пратрубіўшы ростань над краінай,**
**У вырай адляцелі жураўлі, —**

**На золку дня пад восеньскай лістотай**
**Закончыў ты апошні свой паход...**
**Але не можа стаць самотнай слотай**
**Табой набыты плён за многа год.**

**Ад Машканоў сваіх нёс людзям згоду**
**Ты цеплынёю кожнага радка.**
**Як твой уральскі танк у час паходу,**
**Пакінуў на шляху след мастака.**

**Не змоўкнуць ні на міг тваё званіцы —**
**У спелых летах спелыя бары.**
**І мы заўсёды прыйдзем пакланіцца**
**Табе на ўсходзе вогненнай зары.**

**Туды, дзе ззяюць зорамі нябёсы,**
**Ўплятаюць іскры ў залаты вянец,**
**Дзе ты свае закошваў вёсны**
**Як нестамлёны малады касец.**

**Там будзе сонца, ціхі пошчак ветру,**
**Што праляціць над роднаю зямлёй.**
**І ўсё, што ты стварыў —**
**не кане ў рэтра, —**
**Пакліча ў заўтра песняю тваёй.**

*25 кастрычніка 1994 г.*

**Калектыў выдавецтва «Мастацкая літаратура» глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Вялюгіна Анатоля Сцяпанавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

***Батанічны сад... Каму з мінчан і гасцей нашай сталіцы невядомы гэты дзівосны аазіс зеляніны, цішыні, спакою і замілавання? Хто, хоць раз пабываўшы тут, не памятае ягоных цяністых алеяў маньчжурскага арэха і серабрыстага клёна, чарэшчатага дуба і бярозы павіслай, ягонага «лебядзінага возера» з адмысловым птушыным дамком, духмянага бэзавага саду, маляўнічага, багатага — пяром не апісаць! — россыпу красак — ружаў і гладыёлусаў, ліляй і касачоў, вяргіняў і півоняў, хрызантэм і гваздзікоў, цюльпанаў і нарцызаў, астраў і ляўкояў, флёксаў і цыніяў!..***

***Ды, пэўна, мала хто з нас, нават і з яго неаднаразовых наведнікаў, задумваецца аб тым, колькі чалавечай працы, разумовай і творчай энергіі трэба было затраціць, каб узнік, нарадзіўся ў Мінску гэты цуд прыроды, не кажучы ўжо пра тое, як нялёгка падтрымліваць і зберагаць яго, асабліва сёння, ва ўмовах нашага бязладнага эканамічнага і палітычнага жыцця, у сённяшні рэзрухавы пераходны час, калі нават невялікія гаспадарчыя і іншыя клопаты і турботы вырастаюць да аграмадных, цяжкіх і невырашальных праблем...***

***Наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам Цэнтральнага Батанічнага саду АН Рэспублікі Беларусь, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, доктарам біялагічных навук, прафесарам Яўгенам Антонавічам СІДАРОВІЧАМ.***

# СУМНЫЯ ФАРБЫ БАТАНІЧНАГА...

**— Яўген Антонавіч, напачатку, для запеўкі, так бы мовіць, раскажыце, калі ласка, пра гісторыю стварэння Батанічнага саду, яго структуру, асноўныя мэты і задачы.**

— Скажу сцісла, сапраўды, для запеўкі, як вы кажаце, каб трошкі ўвесці чытачоў вашага штотыднёвіка ў курс справы. Батанічны сад быў заснаваны больш за шэсцьдзесят гадоў назад, у 1932 годзе.

**— Выбачайце, «Літаратура і мастацтва» таксама нарадзілася ў 1932 годзе...**

— Равеснікі, значыць? Вельмі прыемна... Дык вось. Заснаваны сад быў на тэрыторыі былой сельскагаспадарчай выстаўкі. За гэтыя гады ён ператварыўся ў адзін з вядучых батанічных садоў былога СССР як спецыялізаваная навукова-даследчая ўстанова. У 1972 годзе Дзяржпланам СССР нам быў нададзены статус навукова-даследчага інстытута — за поспехі ў развіцці інтрадукцыі раслін і за ўкараненне іх у народную гаспадарку. Мы маем сёння унікальную калекцыю раслін, вырашчаных нашымі супрацоўнікамі з семені цягам доўгай, карпатлівай працы — у гэтай калекцыі больш чым дзесяць тысяч найменняў. З іх больш за дзве тысячы відаў, форм і гатункаў трапічных і субтрапічных раслін, якія знаходзяцца ў аранжарэйна-парніковых комплексах пад шклом. Яны даюць досыць поўнае ўяўленне пра багацце расліннага свету тропікаў і субтропікаў. Гэта пальмы, бамбукі, бананы, масліны, кіпарысы, лімоны і грэйпфруты, ананасы і многае, многае іншае. У нас надзвычай багатая; прадстаўнічая калекцыя сукулентаў, адных кактусаў — больш за тысячу відаў, самых розных па форме і памеры.

**— Сапраўдны трапічны лес пад шклом! Уяўляю, якога стараннага догляду ён вымагае!**

— Што праўда, то праўда. У аранжарэях — свой мікраклімат. Там створана царства святла і цяпла, вечнага лета. Дамагчыся гэтага вельмі і вельмі нялёгка. Дастаткова сказаць, што ёсць расліны, якія нават пры тэмпературы плюс 18 градусаў скідваюць лісце. Альбо іншы прыклад. Ёсць расліны, якія загінуць, калі іх толькі аднойчы паліць не падагрэтай, а звычайнай водаправоднай вадой. Утрымліваць такія расліны і раней было не проста, а сёння — неймаверна цяжка. А што будзе зімой? Ад гарадскіх улад прыйшло папярэджанне, што сёлета тэмпература вады ў ацяпляльных сістэмах не будзе перавышаць 50 градусаў. Гэта азначае, што тэмпература паветра ў нашых аранжарэйных комплексах ледзьве дацягне да 10—12 градусаў, што пагражае пагібеллю нашым калекцыям. Само сабою, дапусціць такое мы не можам. Значыцца, давядзецца нам, як і летась, запальваць «буржуйкі» і такім чынам ратавацца. Зараз старанна нарыхтоўваем дровы. І ратуе нас у сённяшніх цяжкіх стасунках энтузіязм, самаадданасць супрацоўнікаў. Нам сёння не пад сілу трымаць сезонных рабочых, ды яны і не ідуць да нас, на такія мізэрныя заробкі. Людзі навучыліся зарабляць грошы іншым шляхам, лягчэйшым, навучыліся і старэйшыя, не кажучы пра моладзь. Вось і даводзіцца кандыдату навук, старэйшаму навуковаму супрацоўніку абуваць гумавыя боты, браць у рукі рыдлёўку ці матычку і ісці на сваю дзялянку...

**— Можа, дзе-небудзь энтузіязм і прыносіць пэўны плён, хоць на кароткі час, але ў навуцы?..**

— Вось, вось! Толькі не ў навуцы! Вучонаму, даследчыку трэба мець магчымасць і час папрацаваць у бібліятэцы, пагартаць навуковыя часопісы, папоўніць свой запас неабходнай інфармацыі. Дык жа зараз і тут невырашальныя праблемы! З-за адсутнасці валюты з нашых бібліятэк зніклі замежныя навуковыя часопісы, мы сёння пазбаўлены публікацый пра апошнія дасягненні сусветнай навукі. А ці ж можа навуковы работнік жыць без гэтага? Не можа навука стаяць на месцы. Горка пра гэта гаварыць, але ж праўда: мы страчваем пазіцыі, гэта адчуваецца на выніках нашых даследаванняў, напрыклад, па праблеме інтрадукцыі раслін. А яшчэ ж трэба дадаць, што мы павінны працаваць не на асфальце, а на прыродзе, у экспедыцыях: на Далёкім Усходзе, на Курылах, Каўказе, у Сярэдняй Азіі, там, дзе ёсць яшчэ не адкрыты раслінны матэрыял. Менавіта там, у экспедыцыях, мы можам вывучаць характар і паводзіны раслін, праводзіць першасную апрабацыю іх на прадмет экалагічных асаблівасцей ва ўмовах Беларусі, гэта значыць, зразумець, як яны прыжывуцца ў нас, вывучыць іх біяхімічныя, гаспадарчыя, экалагічныя адметнасці.

**— Гэта ўжо стала амаль традыцыяй папракаць навукоўцаў за іх адарванасць ад жыцця, няўвагу да яго, жыцця, практычных патрэб. Думаю, што не памылюся, калі скажу, што падобныя папрокі вельмі часта робяцца не без падстаў. Кажу гэта не ў крыўду вам, Яўген Антонавіч, але, тым не менш, хацелася б спытаць, ці маюць усе гэтыя навуковыя вышукі, пра якія вы так красамоўна расказваеце, шырокі выхад за вароты Батанічнага саду? Скажам так — што маем ад усяго гэтага ўсе мы?**

— Можна назваць цэлыя групы раслін, якія маюць сельскагаспадарчае, медыцынскае, экалагічнае, дэкаратыўнае прызначэнне. Не будзем далёка хадзіць па прыклады. Вось, скажам, блакітныя елкі, туі, ядлоўцы, якія можна ўбачыць у горадзе на кожным кроку, — усё гэта выйшла з варот Батанічнага саду. Тое, што расце ў Мінску на плошчах Перамогі і Незалежнасці, на алеях, клумбах, у парках — усё гэта ад нас. Мы даём саджанцы, насенне, даём парады, як іх вырасціць, размножыць, як даглядаць іх. І гэта тычыцца не толькі сталіцы. Вынікі нашай работы закранулі так званае зялёнае будаўніцтва ўсёй рэспублікі. У азеляненні многіх буйных прамысловых прадпрыемстваў — скажам, у Гродне, Светлагорску, Наваполацку — прымалі ўдзел нашы супрацоўнікі. Мы аддавалі туды ўсё лепшае, каб нейкім чынам аздаравіць, палепшыць страшэннае навакольнае асяроддзе, што непазбежна стваралася вакол колісь хвалебных гігантаў хіміі. Напрыклад, у Светлагорску, вакол завода штучнага валакна. Памятаю: сядзіш у кабінеце дырэктара, і праз нейкіх дзесяць хвілін у цябе раптам пачынае балець галава. Ад чаго? Ад нясцерпнага смуроду хімічных выкідаў. А там жа працуюць і пастаянна жывуць тысячы людзей... Мы там высадзілі сотні і сотні дрэў — пірамідальных дубоў, елак, ядлоўцу. Стварылі зялёную ахоўную зону, адгарадзілі раслiннаю сцяною вытворчасць ад жылых масіваў. Паедзьце туды зараз, паглядзіце. Наўрад ці паверыце, што ўсё тое створана рукамі чалавека — уражанне такое, быццам гэтак было заўсёды.

**— Адна з нашых самых вялікіх сённяшніх бядот — дэфіцыт лекаў. Я не кажу ўжо пра шалёныя цэны амаль на ўвесь існуючы аптэчны асартымент. Большасці хворых многія лекі проста не па кішэні. Асабліва імпартныя. Але ж народная медыцына заўсёды з вялікай карысцю выкарыстоўвала лекавыя травы, якіх, дарэчы, на Беларусі заўсёды хапала. Нават экзатычны жэньшэнь, я ведаю, добра сябе адчувае ў нашых прыродных умовах. Мабыць, у вырашэнні лекавай праблемы сваё важкае слова мог бы сказаць і Батанічны сад? Ці я перабольшваю вашы магчымасці?**

— Пытанне сапраўды вельмі надзённае. Тут і другая праблема. Мы прызвычаіліся карыстацца лекамі хімічнага паходжання. А яны ж часта адмоўна ўздзейнічаюць на арганізм чалавека. А мы ж маем нямала раслін, якія з поспехам можна выкарыстоўваць як сыравіну для вытворчасці таго ці іншага медыцынскага прэпарата. І сыравіны гэтай у нас больш чым дастаткова. Зараз у Беларусі больш за паўдзесятка саўгасаў вырошчваюць лекавыя травы.

**— А якая роля тут Батанічнага саду?**

— Ад нас — пачатак, так бы мовіць. Наша задача — знайсці гатунак, вывесці яго, інтрадуцыраваць, даказаць, што менавіта вось гэтая расліна карысная для народнай гаспадаркі. А ўкараняць яе ў практыку, вырасціць дастатковую колькасць сыравіны для фармацэўтычнай прамысловасці — гэта задача і абавязак гаспадарак пэўнага профілю.

**— Паміж навуковым вынаходствам ці адкрыццём і яго практычным увасабленнем, як правіла, пралягае дыстанцыя вялікага памеру. Я думаю, што і вы маглі б пацвердзіць гэта не адным прыкладам.**

— Вы маеце рацыю. Прабіць нешта вартае ў нашых умовах, пры нашых парадках бывае архіцяжка. Не ведаю, ці чулі вы пра такую расліну, як амарант. Расліна — цуд! Яна мае і харчовае, і кармавое, і медыцынскае значэнне. З семя амаранта атрымліваюць спецыфічны алей, які па сваіх лекавых якасцях не саступае абляпіхаваму, а да таго яшчэ ўдвая за яго таннейшы. Амарант — расліна непераборлівая, яна цудоўна расце і развіваецца ў нашых умовах. Дае да 800 цэнтнераў зялёнай масы з гектара. Амарант утрымлівае да 28—32 працэнтаў бялка — як аніякая іншая расліна, ёсць у ім і асабліва незаменныя кіслоты, надзвычай патрэбныя для нармальнага развіцця чалавека і жывёлы. Нездарма ААН рэкамендавала высяваць амарант у афрыканскіх краінах, найперш там, дзе пануе голад, дзе насельніцтва пастаянна зведвае востры недахоп прадуктаў харчавання. А ў нас амарант так, па сутнасці, і не прыжыўся.

**— Яўген Антонавіч, я так разумею, што біялагічны шлях — больш перспектыўны для вырашэння многіх эканамічных, прыродаахоўных задач, чым, скажам, меліярацыя, хімізацыя і г. д.?**

— Я, бадай, пагаджуся з гэтым, хоць, можа, і не трэба ставіць пытанне гэтак катэгарычна. Што нам дала меліярацыя ці тая ж хімізацыя? На жаль, яны прынеслі з сабою і нямала негатыўных момантаў. І таму я — за больш шырокае выкарыстанне раслін. У свеце іх — больш за 250 тысяч відаў, а чалавек навучыўся выкарыстоўваць толькі дзесяць працэнтаў з іх. Прыгадаем, напрыклад, такія расліны, як журавіны і буякі. Журавін было асабліва шмат на Палессі, на балотах. Асушылі балоты — журавіны амаль зніклі. Попыт жа на іх — незвычайны! Восенню, калі самы час выбіраць бульбу, буракі, моркву, тысячы людзей мкнуць на балоты па журавіны. А між тым высветлілася, што журавіны можна вырошчваць на плантацыях. Высадзіў плантацыю і збірай ураджай сто гадоў. Але, але, я не агаварыўся — тэрмін эксплуатацыі плантацыі — сто гадоў. І ўраджайнасць не 250 кілаграмаў з гектара, як у нашых абарыгенных журавін, а 6—8 тон. У Амерыцы даўно закладзены 10 тысяч га плантацый буйнаплодных журавін, яны сваімі журавінамі забяспечваюць не толькі сябе, але і іншыя краіны.

**— А ў нас ёсць энтузіясты вырошчвання буйнаплодных журавін?**

— Мы сур'ёзна вывучылі гэтую праблему. Аказалася, што паўднёвыя раёны Палесся прыдатныя для вырошчвання плантацыйных журавін. Найперш для гэтага падыходзяць рэкультаваныя тарфянікі. А ў нас жа іх — тысячы гектараў! Неяк узяў я вядзерца журавін, вырашчаных у нас, у Батанічным садзе, і паехаў да былога міністра меліярацыі СССР Васільева. Быў такі міністр, які выхваляўся, што жытам, вырашчаным на тарфяніках, засыпле ўсю краіну. А не выйшла ў яго нічога з таго. Вось, каб замаліць грахі, пабег ён з тымі журавінамі да Гарба-



*Фота А. МАЦЮША*

*(Працяг на стар. 12)*

## СПОЎНІЛАСЯ СЕМДЗЕСЯТ ГАДОЎ

**Беларускаму таварыству інвалідаў па зроку. Гэтай даце прысвечаны чарговы, дзевяты нумар грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса «Зрок». У ім змешчаны самыя розныя матэрыялы, што адлюстроўваюць паўсядзённую дзейнасць таварыства. Тут жа публікуюцца заканчэнне гутарак М. Ермаловіча «Аб усім, што баліць», а на трэцяй старонцы вокладкі адзін з яго вершаў; апавяданне М. Лук'янава «Сэрца дзявочае», інтэрв'ю А. Бачылы з генеральным дырэктарам культурна-асветнага цэнтра БелТІЗ М. Драздовым «Духоўнае жыццё таварыства», вершы Г. Шутэнкі і В. Кудлачова, вершаваныя фельетоны М. Вяршыніна, артыкул А. Курыльчыка «Нялёгкімі дарогамі»...**

## СУЧАСНЫ ПОГЛЯД

**прапануюць па шмат якіх праблемах удзельнікі «круглага стала», праведзенага рэдакцыяй часопіса «Адукацыя і выхаванне». Але найперш яны тычацца філасофскага кірунку. У гэтым можна пераканацца, калі пазнаёміцца з матэрыяламі згаданага мерапрыемства, апублікаванымі ў дзевятым нумары часопіса. Сваімі развагамі дзеляцца М. Латыш, В. Салееў, В. Старжынскі і іншыя, а публікацыі аб'яднаны загалоўкам «Мысліць глабальна, дзейнічаць аптымальна». Сярод іншых матэрыялаў нумара, несумненна, зацікавіць заканчэнне даследавання У. Гніламёдава «Янка Купала. Новы погляд». Не лішнім будзе пазнаёміцца і з працягам праграмы курса «Асновы сусветнай культуры».**

## ВЕЧАР-СПРАВАЗДАЧА

**пісьменніка і навукоўца, крытыка, літаратуразнаўцы Якуба Усікава, прысвечаны яго 75-годдзю, адбыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце імя А. Куляшова. Даклад аб жыцці і творчасці Якуба Кірылавіча зрабіў дэкан філалагічнага факультэта Я. Клімуць. Сакратар абласнога аддзялення СП Беларусі І. Аношкін уручыў юбіляру Ганаровую грамату творчага саюза. Я. Усікава віталі таксама паэт В. Карпечанка, празаікі У. Дуктаў і А. Кандрусевіч, прарэктар інстытута А. Радзькоў, заслужаны работнік культуры В. Ермаловіч, студэнты...**

**Якуб Кірылавіч падзяліўся творчымі планамі, адказаў на пытанні прысутных.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## І ПАДРУЧНІК — СВОЙ

**Настаўнік геаграфіі сярэдняй школы N 1 з Пастаў Ігар Пракаповіч, як вядома, з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, часта выступае ў друку з вершамі. З яго творчасцю знаёмы і лімаўскія чытачы. А да ўсяго не забывае ён і пра свае, так сказаць, прафесійныя абавязкі. І не толькі старанна рыхтуецца да ўрокаў, а і клапоціцца пра тое, каб вучні знаёміліся і з мясцовым матэрыялам. А паколькі ў падручніках па геаграфіі, безумоўна, пра кожны рэгіён падрабязна расказаць немагчыма, І. Пракаповіч вырашыў напісаць уласны дапаможнік. Сказана — зроблена. Цяпер вучні (ды і настаўнікі таксама) могуць карыстацца падручнікам «Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна».**

## З НАРОДНАЙ СКАРБОНКІ

**Што ні куточак Бацькаўшчыны, дык гаворка тутэйшага люду па-свойму адметная, непаўторная. У першую чаргу, безумоўна, у вяскоўцаў. Слухаць іх размову — адно задавальненне. Часта сустракаюцца словы, якія, як кажуць, пашукаць!**

**Гродзенскі раён у гэтым сэнсе не выключэнне. А наколькі мясцовы люд з павагай ставіцца да слова, ведае цану яму, можна даведацца з кнігі-слоўніка, «скарбы народнай мовы», складзенага А. Цыхуном. Прадмову да слоўніка напісаў П. Сцяцко, а выдадзены ён Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы.**

Алег ЖДАН

# МРОІ НА РЭПЕТЫЦЫІ

## НАТАТКІ ПЕРАКЛАДЧЫКА І ЎВАЖЛІВАГА ЧЫТАЧА

### I

Літаратары майго пакалення памятаюць еўрапейскую дыскусію шасцідзесятых гадоў пра лёс рамана. Дакладней было б сказаць — пра лёс рэалістычнай прозы. Раман памёр, раман жыве — так амбівалентна вызначалася літаратурная сітуацыя. Даўно ўжо ясна, што гаворка ішла не пра канстатацыю таго ці іншага стану рэалістычнай прозы, а пра шляхі яе развіцця. Зразумела, што тая дыскусія была распачата не чытачамі і нават не крытыкамі ці літаратуразнаўцамі. Яна была справакавана самімі празаікамі. Тым часам з'явіліся ўжо доследы «новага рамана» ў французскай літаратуры — Н. Сарот, М. Бютора, Ж. Пэрэка, абсурдысцкія творы С. Бэкэта і Іянэскі, не кажучы ўжо пра музыку, кіно, жываліс. З'явіліся падобныя творы і ў рускай (часцей — у «маскоўскай» і «ленінградскай») літаратуры, у краінах Балтыі. Напэўна, мелі яны месца і ў іншых рэспубліках Савецкага Саюза — пра гэта я меркаваць не магу.

Беларуская літаратура, аднак, цалкам працягвала развівацца ў рэалістычнай традыцыі. Прычыны розныя — і ў плённых набытках рэалізму, і ў тым, што «як у Маскве круцяць вушы, дык за Масквою адкручваюць галовы»... Гэта значыць, ёсць прычыны і больш глыбокага характару, звязаныя з нацыянальнай свядомасцю, характарам і г. д. Але ж мяняецца час, мяняецца і свядомасць. Той час адышоў, а часова ці канчаткова — пакажа будучыня.

На такі доўгі і навукападобны ўступ мяне натхнілі дзве прыкметныя публікацыі апошняга часу: «Мроі» Б. Пятровіча («Маладосць», N 6, 1993) і «Няўжо я памру?» А. Асташонка («Культура», N 4, 1994).

А перадусім невялічкая ода перакладчыку.

Ніхто не чытае творы пісьменнікаў так уважліва, як перакладчык. Што чытач? Калі яму што-небудзь не даспадобы, ці, скажам, зазвоніць тэлефон, ці зойдзе сусед з бутэлькаю гарэлкі, ці прастукае міма вакна абцасікамі прыгожая жанчына, ён закрые твор на нейкай там старонцы і, магчыма, ужо ніколі больш не вернецца да яго. Перакладчык вернецца. І самы нязначны хіб аўтара, яго патаемныя намеры, надзеі, узлёты і падзенні — усё відаць перакладчыку, як на далоні. Ніхто так несправядліва не чапляецца да твораў, як перакладчык, ніхто так не здзекуецца з нікчэмнага радка, банальнай думкі, але ж ніхто так і не захапляецца свежым словам, незвычайным паваротам сюжэта, кожнай творчай знаходкай. І ніхто так не жадае твору поспеху ў новай моўнай стыхіі...

Гэта я пра сябе. (У маім перакладзе «Мроі» Б. Пятровіча надрукаваны пад назвай «Видения» ў «Нёмане», N 3, 1994).

І яшчэ гэтак жа ўважліва, прыдзірліва чытаюць пісьменніка ягоныя сябры. Мажліва нават — больш уважліва, таму што ведаюць ранейшыя яго творы, ранейшыя поспехі і няўдачы, а галоўнае, ведаюць яго не толькі па літаратуры. Сябры ведаюць душу і ўвогуле стасункі аўтара з гэтым журботным жыццём.

Гэта я зноў, выбачайце, пра сябе. І пра Алеся Асташонка. Некалькі ягоных апавяданняў у маім перакладзе, спадзяюся, яшчэ ўбачаць свет на рускай мове.

Аднак хопіць уступаў. Пачнём, мусіць... Першым да бар'ера выклікаю сябра. Я б не сказаў, што становішча крытыка ў такім выпадку — лепшае: я стаю ля бар'ера з пісталетам, наважыўся страляць, а ён — велікадушна падняў свой пісталет угору. Страляй, браце, вось я перад табой, як ліст перад травой...

Мабыць, хтосьці мне запярэчыць, што некарэктна аналізаваць творы, напісаныя ў жанры абсурду, традыцыйнымі метадамі. Але ж крытыка абсурдысцкай быць не можа. Іншага інструмента, апроч традыцыйнай логікі, у яе няма. Акрамя таго, галоўнае для крытыкі — што і як. А калі абсурдысцкае не азначае бессэнсоўнае, то можна й паспрабаваць.

Калі б да вас падышоў саракагадовы дзяцюк і спытаўся: «Няўжо я памру?» Што б вы падумалі пра яго?

Менавіта такое пытанне вынес у назву адной са сваіх публікацый А. Асташонак. І, відаць, каб апраўдаць гэтае пытанне, ён адразу прапануе эцюд «Формула асобы» — маўляў, гаворка пойдзе не пра натоўп.

Сфармуляваць, што ёсць асоба чалавека, спрабавалі многія. Не будзем прыгадваць імёны. Цікавасць да самога сябе, жаданне быць цікавым для ўсіх — менавіта яны найперш сілкуюць тую «энергию заблуждения», якая ўрэшце можа прынесці немалы плён.

Што такое асоба па Асташонку? Гэта, калі я правільна зразумеў яго разважанні, бясконцасць. Але ж і бясконцасць павінна мець вызначэнне. І Асташонак яго прапануе:

«Бясконцасць:
...$(я_1 + я_2)_n$, дзе $n \to \infty$».
Не зразумелі? Дык вось вам:
$(я_1 + я_2)_1$: снег і пясок;
$(я_1 + я_2)_2$: лёд і туман;
$(я_1 + я_2)_3$: сквапнасць і шчодрасць;
$(я_1 + я_2)_4$: прыгажосць і пачварнасць;
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
$(я_1 + я_2)_{11}$: Джэсі Оуэнс і Бэн Джонсан;
і г. д.»

Ну, а конча формулы асобы будзе выглядаць так:

$$\sum_{n=1}^{\infty} (я_1 + я_2)_n = Я$$

Скажу шчыра: мне, гуманітарыю, незнаёмаму з вышэйшай матэматыкай, хочацца іранізаваць над «матэматызацыяй» чалавечай асобы. Я ж таксама асоба, а прыкласці гэтую формулу да сябе? Канечне, прыемна ўсведамляць сваю бясконцасць, але ж...

На шчасце, аўтар вырашыў растлумачыць, што ёсць «я».

«...я < цябе;
... я > цябе;
... я < Вас;
... я > Вас...»

Гэта, дзякуй Богу, трохі іншая рэч. Прагучала тэма знаёмая, класічная, без якой нельга зразумець ні сябе, ні чалавецтва: яна і я.

«... Я ў я — нашая адвечная блізкасць.
... я ў Я — нашая бясконцая далячынь».

Так здараецца перад сімфанічным канцэртам, калі ў бязладдзі гукаў раптам прагучыць урывак знаёмай шчымлівай тэмы.

«... Я і Бог.
... Бог і я.
... Я ў Богу.
... Бог ува мне.
Кожнае «я» ўва мне мае свайго Бога?»

Апошняя думка, як быццам, цікавая... «Кожнае «я» — зразумела. А «свайго Бога»? Як быць з той высновай, што Бог — адзін?

Увогуле, цікава... Але ж мы, уважлівыя чытачы, прызвычаіліся да паглыблення аўтараў у жыццё, а тут адно дэкларацыі: Я ў Богу, Бог ува мне... Вядома, вабіць прабегчы вачыма газетную паласу з гэткаю эфектнаю публікацыяй, аднак... Хто твой чытач, сябра? Той, што, спацелы, імчыць ад газетнага кіёска да аўтобуса? Ох, нехта там, у «Культуры», у «ЗНО», псуе таленавітага хлопца...

На гэтым А. Асташонак пошукі формулы асобы спыняе. Шукайце, маўляў, калі хочаце, далей самі. Аўтар зрабіў сваю справу і можа перайсці з адной сцэны на другую — туды, дзе праходзіць... «Рэпетыцыя».

«Рэпетыцыя» мае падзагаловак — вопыт тэатра абсурду. Што такое тэатр абсурду, мы ўжо больш-менш ведаем. Але ж калі нават рэалістычны ці, скажам, паэтычны тэатр кожны акцёр, рэжысёр і глядач-чытач разумеюць па-рознаму, то тым больш — тэатр абсурду, у якім менш традыцый, менш непарушных законаў драматургіі. Як жа разумее яго А. Асташонак?

«— Пінжак?
— Спіна.
— Я бачу плямы...
— Трэба, каб сусвет цераз космас.

Часопісы ў верасні

# А НАЙЦЯЖЭЙШАЯ — ПРАЎДА

Не згодзен з тымі, хто сцвярджае (часцей у вусных размовах, бо ахвотнікаў займацца так званай бягучай крытыкай чамусьці з кожным днём з'яўляецца ўсё менш і менш), быццам цяпер у нашых часопісах няма чаго чытаць. Маўляў, не тое, што раней, калі ці не кожны чарговы нумар радаваў нейкім адкрыццём. Як сказаць! На маю думку, ужо той факт, што ў вераснёўскай кніжцы «Маладосці» надрукавана новая аповесць А. Федарэнкі «Ланцуг», сведчыць на карысць плённасці намаганняў сучасных літаратараў па асэнсаванні блізкай ім рэальнасці. Што да аповесці А. Федарэнкі, то, калі б у нас прысуджалася прэмія года за лепшы твор, «Ланцуг» быў бы варты яе.

Па-мастацку дасканалай аповесць атрымалася ва ўсіх адносінах. Па-майстэрску скампанаваны сюжэт — кампазіцыйна-стройны, часам як бы з элементамі дэтэктыву. Ва ўсякім разе, чытаецца аповесць, як кажуць, на адным дыханні. Надзіва псіхалагічна-пераканаўча выпісаны характары персанажаў, а ў першую чаргу, безумоўна, галоўнага героя твора, маладога ўрача Вінярскага. А яшчэ ў «Ланцугу» падаецца — зноў жа праўдзіва, аргументавана — само грамадства ў тым яго зрэзе, калі на паверху выступае ўсё негатыўнае, якое, аднак, імкнецца паўстаць як вартае існавання, паколькі яно носьбітамі ўсяго гэтага прыстасаванства, амаральнасці, душэўнай спустошанасці (канечне, найперш тым жа Вінярскім) падаецца ледзь не ўменнем жыць па-сучаснаму.

Вінярскі А. Федарэнкі — тып. У творы ён па прафесіі медык, але сутнасць мала ў чым змяніцца, калі б ён быў, скажам, інжынерам, настаўнікам, журналістам... Дый — будзем праўдзе-матцы ў вочы прама глядзець — і пісьменнікам. Здаровым, упэўненым, нахрапістым, для якога іншых людзей проста не існуе.

«Вінярскі даўно ненавідзеў гэты статак тупых жывёлаў вакол. І гэтых п'яных, і тых, каго ён цяпер абганяў, і тых, што яго абганялі, і тых, што панабівалі сабою, як селядцы бочкі, аўтобусы і тралейбусы і ездзілі ў іх туды-сюды па праспектах і вуліцах... Ва ўсіх вачах, што на яго глядзелі, ён чытаў толькі прасцейшыя жывёльныя інстынкты: убіцца, неяк упліснуцца ў тралейбус, дабрацца да ларка, да таннага, разбаўленага, прапахлага мачою «піва», «набухацца», атупець яшчэ больш — гэта ў мужыкоў; у жанчын, растаўсцелых к сарака гадам, як пацукі на кармавых дражджах, — дабрацца да нейкай чаргі, адстаяць, пасварыцца, схапіць урэшце ў руку чаканую сінюю палку крухмальнай варанай каўбасы, ад аднаго выгляду якой нармальнага чалавека павінна зблажыць».

Ненавідзеў, як ненавідзяць і іншыя, яму падобныя, каму засціла вочы жаданне любой цаной, вырваўшыся наперад, нават сярод сабе падобных, а іншых, больш слабых проста адштурхнуўшы, як нешта непатрэбнае, нявартае ўвагі, а пасля — праўдамі і няпраўдамі — выехаць за мяжу, а там... Там зноў барацьба за выжыванне — ён і на гэта згодзен, абы толькі ў рэшце рэшт дамагчыся свайго: «А там — свой домік, сад, прыслуга, машына. Больш нічога не трэба. Нідзе не трэба кідацца ў вочы. Мне і гэтага хопіць на ўсё жыццё. Галоўнае — будзе акуратны гарадок, дахі з чырвонай чарапіцы, клумбы з ружамі, чыстыя вуліцы, ціхі вечар і людзі, якія ўмеюць радасна смяяцца — як гэты, каля кіёска, — не баючыся, што на іх будуць азірацца і круціць пальцамі каля скроняў...».

Быццам і звычайнае чалавечае жаданне. Нікому ж не забараняецца хацець жыць лепш. Але справа ўся ў тым, якімі мэтамі гэта дасягаецца. Страшна не столькі адмаўленне Вінярскім усяго і ўсіх, страшна, што людзей ненавідзіць урач, прадстаўнік ці не самай гуманнай прафесіі. А ад бесчалавечнасці, нігілізму, пастаяннай зайздрасці, жадання любой цаной займець грошы, каб і здзейсніць мару аб паездцы за мяжу — паўкрока і да злачынства. Яго і здзяйсняе Вінярскі. Але, калі зроблена зло, магчымы і яго працяг. Атрымаецца як бы нейкая «ланцуговая рэакцыя» паміж людзьмі, якія гэтаксама, як Вінярскі, не надта думаюць аб сумленні, высокіх маральных крытэрыях. Гэта праз некаторы час прыводзіць да таго, што ўкрадзеныя Вінярскім грошы, прайшоўшы праз

— Насусвецішся тут: учора нажлукціліся, як свіння гразі.

— А ты не будзь... свіннёю.

— На ферме?

— Будан пабудуй. Я вось пабудаваў.

— Маўчы ты са сваім буданам!»

Чаму асобныя пісьменнікі звяртаюцца да гэтага няўдзячнага жанру? Менавіта няўдзячнага, бо які тэатр будзе ставіць такую п'есу, які чытач стане ламаць галаву над рэбусамі, што пляце аўтар? Пэўна, ад непрыняцця літаратурных законаў і традыцый звяртаюцца. Ад жадання пабудаваць свой будан не на той вуліцы, дзе ўжо стаяць іншыя, часам і прыгожыя, буданы, а на той, дзе яшчэ няма аніводнай хаціны. Але ж ці не ёсць гэта спроба той самай дэфларацыі грунту, пра якую ўспамінае А. Асташонак? З другога боку, якая ўжо там дэфларацыя... Цнота рэалістычнай драматургіі згублена так даўно, што ўжо й невядома — ці была?

«— Ці то, ці то, ці то.

— То ці, то ці, то ці.

— Оціт, оціт, оціт.

— Ціцо, ціцо, ціцо.

— Пастаў чайнік, я табе кажу!»

Пры першым чытанні «Рэпетыцыі» ўражанне адно: Т = А → ∞, дзе Т — твор, А — аўтар, ∞ — як вядома, знак бясконцасці. Нейкі быццам тэатр нібыта рэпеціруе нейкую п'есу і нехта (акцёры, рэжысёры?) гавораць невядома пра што... Аднак пры чытанні больш уважлівым у прыцемках дыялогаў узнікаюць няпэўныя постаці. Рэальнасць прабіваецца скрозь абсурд. Ні аўтар, ні тэатр абсурду не можа існаваць без рэалістычнага папярэдніка. «Адсутнасць думкі па мізансцэнах не расставіш... Усё роўна канфлікту няма... У Бэкэта і Іянескі менш складана... У гэтай п'есе, як у акварыўме, — вось дзе ключ...» Нейкая таемная самаіронія ёсць у дыялогах гэтага эцюда. І — дзякуй Богу. Бо А. Асташонак, як вядома, і сам не ўнікае няхай дэфлараванай, але ж плённай рэалістычнай драматургіі.

Невялічкі эцюд пад назвай «Асацыяцыі» заканчваецца пастскрыптумам: «... А можа, усё гэта адзін толькі знак-след — іржавы ланцуг сталасці?» Мажліва. Шмат каму вядома адчуванне ланцугоў і жаданне разарваць іх. Але — навошта? Каб скаваць новыя мо й больш бліскучыя, аднак такія ж моцныя ланцугі?

Дадазім: меней прывабныя для людзей.

Вядома, абсурду ў нашым жыцці дастаткова. Можа, нават больш, чым мы сабе ўяўляем. Мы прызвычаіліся да традыцыйнай логікі, як прызвычаіліся, скажам, да трохмернай прасторы, да разумення паступовасці часу, да... Шмат можна нагадаць прыкладаў. Аднак здараюцца сітуацыі, калі логіка побыту можа прывесці адно толькі да абсурду, як у эцюдзе «Двое» («ЛіМ», N 21, 1994). Няма ні пачатку, ні канца ў гэтым адвечным дыялогу мужчыны і жанчыны, паэта і следчага, шчырасці і падазронасці. Першапачатковая тэма размовы перакручваецца, і ўжо ніколі ім, двайм, не прыйсці да паразумення... Эцюд удалы. Аднак заўважым, што абсурдныя тут стасункі герояў, а мастацкія сродкі даволі традыцыйныя. Таму і пранікае абсурдная сітуацыя ў рэалістычную свядомасць чытача.

Што да высноў з усяго сказанага, — паспрабую зрабіць іх крыху пазней.

II

Скажу адразу, зварот Б. Пятровіча, аўтара кнігі апавяданняў «Ловы», да авангардысцкай прозы быў для мяне нечаканы. Калі часопіс «Нёман» прапанаваў мне перакласці «Мроі» на рускую мову, я доўга вагаўся, перш чым сесці за стол. Да таго мне давялося перакладаць такіх пісьменнікаў, як М. Сяднёў, В. Хомчанка, В. Адамчык, В. Гардзей... І раптам — абсурдызм. Нават назвы эцюдаў, якія склалі публікацыю, — не якая-небудзь «Формула асобы» ці «Асацыяцыі», а — версіі. Версія «А», «версія «Б», версія «В» — і гэтак далей да канца алфавіту. А калі не хапіла літар — версія І, версія 2... Ну, вядома, натуральны рад лікаў канца не мае, аўтар спыніўся на версіі 25. Не, гэта не для мяне.

Але ж... Штосьці адазвалася ў душы. Што?

Пачуцці спачатку — пры чытанні — былі розныя: буду перакладаць — не, не буду — буду — не буду... Урэшце я асцярожна ўзяў ліст паперы.

Калі-небудзь я напішу артыкул пра стасункі пісьменніка і перакладчыка. Няхай творцы не памыляюцца: не проста сесці за такую працу. Адважыцца — гэта значыць правесці адзін на адзін шмат дзён, тыдняў, а мо й не адзін месяц. Успамінаць яго, аўтара, зранку, думаць пра яго ўвесь дзень, а мо й трызніць уначы. Дзякуй Богу, калі суразмоўнік цікавы ці хоць бы памяркоўны, а калі размова не атрымліваецца? Грошы?.. Выбачайце, не захочаш і грошай. Дый якія цяпер грошы, спадарове?..

Аднак я зноў адхіліўся ад тэмы.

Версія «А» пачынаецца як быццам знаёма. Сядзіць на дрэве пугач і думае нейкую думу. Думае ён, відаць, пра нешта значнае. Настолькі значнае, што калі пад дубам распачалі валтузню мышы, «пугач схамянуўся, зглынуў сліну, падняў крылы і прыкрыў імі вушы». Аднак няблага, падумаў я. Відаць, буду перакладаць... У дваццаці радках аўтар чатыры разы напамінае пра тое, што пугач — думаў. Згодна логіцы пад канец трэба ўсё ж распавесці, пра што ён думаў. Ці хоць бы паабяцаць даць адказ пазней, недзе напрыканцы. Але ж... «Пугач страпянуўся, узмахнуў крыллем і зляцеў з дуба.

Я не ведаю, пра што ён думаў».

Быў час, калі я швэндаўся па два-тры разы на тыдзень на ўсялякія больш-менш значныя інструментальныя і сімфанічныя канцэрты. З таго часу і з'яўляюцца адпаведныя асацыяцыі. Вось і тут. Нешта падобнае я адчуваў, калі музычная п'еса пачыналася знаёма, мірна, ды раптам нейкі дысанансны гук узломваў яе павольнае развіццё. Ён, гэты гук, імгненна знікае, але ты ўжо ведаеш — абавязкова паўторыцца. У гэтым гуку — сэнс.

Доўга чакаць не давялося. Адна за другой пайшлі версіі, пераказваць змест якіх ці фабулу не буду — не дазваляе плошча. Ды як перадаць, прыкладна, змест версіі «Б», дзе лірычны герой (назавём яго па асацыяцыі «Гадо», паколькі ў Бэкэта ён так і не з'явіўся) прапанаваў знаёмай пайсці у ДК на нейкі фантастычны кінафільм... Білеты не спатрэбіліся: правадніца пусціла іх у ц я г н і к не спытаўшыся пра білеты. А ў цягніку яны, прыладкаваўшыся да бліжэйшага стала, пачалі чакаць, калі падыдзе афіцыянт. Афіцыянт з'явіўся, прапанаваў выпіць, і яны, напіўшыся сцюдзёнай крынічнай вады, павесілі берасцяную конаўку на д р э ў ц а і пайшлі далей, не нагінаючыся да грыбоў і ягад, што раслі абапал сцяжыны. У трэцім вагоне зноў спыніліся, селі, аднак афіцыянт не спяшаўся. А што да кіно, дык яго глядзелі крэслы без гледачоў...

Да Кіева «Гадо» так і не даехаў.

Што хацеў сказаць аўтар? Проста агаломшыць чытача?

Але ж, але... Карыстаючыся памянёнымі музычнымі асацыяцыямі, не-не дый прабіваліся ў тэксце знакі рэалістычнай літаратуры: неўміручы муштук дзеда Лаўрэна, дзяўчына на шаснаццатым паверсе ля вакна, якая «распраналася доўга, як капуста», хворы хлопчык, які назірае за ценню мухі на сцяне — «вялізнаю, быццам мыш», паэтычныя ўспаміны пра вішні ў вёсцы і г. д.

Трэба зазначыць, што далёка не ўсе версіі вытрыманы ў паэтыцы абсурдызму. Дакладней было б, як і ў выпадку з А. Асташонкам, гаварыць пра авангардысцкія імкненні гэтых аўтараў. Прыкладна, ёсць у «Мроях» версіі, напісаныя ў жанры літаратуры жахаў (версія «Г» — пра хворага хлопчыка і голую жанчыну, якая ператварылася ў лужыну крыві; версія «Е», дзе кветкі мрояцца герою пачварамі і г. д.). Ёсць цікавыя сучасныя казкі: версія «Я» — пра тэлеграфны слуп, апору высакавольтнай лініі і іх дзіця — маленькі слупок, дарожны знак; версія 12 — пра маладзенькі ветрык, які «пакаўзнуўся на дзіцячай коўзанцы і амаль бязгучна ляснуўся на лёд, праехаўся трохі на спіне і лёгка падхапіўся, падняўся да вершалінаў дрэў...»

І чым далей ад «чыстага» абсурду, чым бліжэй да больш-менш традыцыйных жанраў, тым хутчэй, на мой погляд, аўтар дамагаецца поспеху. Мне ўсё ж здаецца, што абсурдызм (ва ўмовах нашага славянскага менталітэту) можа існаваць адно як жанр іранічны. Няма іроніі ў версіі «Б», і што атрымалася? Нічога, акрамя абсурду. Ёсць яна ў версіі 22 — напісалася весела, вынаходліва, дасціпна.

Цікава, што часам развагі і пошукі Б. Пятровіча і А. Асташонка ідуць побач. Але ж, калі А. Асташонка, як і належыць рамантыку, хвалюе найперш «формула асобы», то скептыка Б. Пятровіча — агульначалавечае, этычнае.

«А < Б, але і

Б < А, пры

А = Б, а Б = А

Разам — новая рэлігія, для мяне Я — Нішто, Ты — мой Бог; для цябе Ты — Нішто, Я — твой Бог. Гэта і ёсць, мажліва, вырашэнне найвялікшай хрысціянскай формулы: не зрабі бліжняму таго, чаго не хацеў бы, каб зрабілі табе».

Здольны Б. Пятровіч агаломшыць чытача і гэткім назіраннем:

ККК

ЛЛЛ

МММ

О!

Колькі ні ўглядайся, як ні чытай, прыгадваючы розныя абрэвіятуры, нічога не ўспомніш, не ўбачыш. Аўтару захацелася пажартаваць. Ну і няблага. Пачуццё гумару, калі яно скіравана найперш на сябе, больш высакароднае, чым як на бязвіннага чытача. Ну, а сэнс у такім эксперыменце, відаць, толькі графічны.

Ёсць у «Мроях» і чыста філалагічныя экзерсісы.

«Кволае ранішняе сонца нясмела сачылася скрозь густую спелую лістоту.

Спелае ранішняе сонца густа сачылася скрозь нясмелую кволую лістоту...»

У гэтай версіі аўтар, пасмакаваўшы розныя пабудовы фразы, раптам пачынае губляць па слову, як губляе дрэва ўвосень лісце. Іх, слоў, на сцябле сказа застаецца ўсё менш, менш, пакуль...

«Скрозь лістоту сачылася сонца.

Сонца скрозь лістоту.

Сонца скрозь.

Скрозь».

Так, вынаходліва. Аднак, калі маладым літаратарам такая арнаментальная проза можа й цікавая, то сталейшым і тым, хто знаёмы з рускай літаратурай першай чвэрці веку, — значна менш.

Я ўжо зазначыў, што калі А. Асташонка падштурхоўвае ў яго пошуках рамантызм, эмацыянальнасць, то Б. Пятровіча — малады скепсіс. Што ж, па еўрапейскай літаратуры мы ведаем, што скептыцызм плынь плённая. У асобныя перыяды ён — адзінае ўратаванне культуры. Але ж як паэтыку «Мрояў» аб'яднаць з паэтыкай «Ловаў»?

«Мы сляпыя краты. Мы бачым роўна столькі, колькі дазволена.

Мы глухія цецерукі. Мы чуем роўна столькі, колькі дазволена».

Гэтая версія невыпадковая. Гэта — праграмнае абвінавачванне, скіраванае і на самога сябе і на ўсіх нас.

«Мы носім аднолькавыя маскі. Далучайцеся да нас. Смейцеся з намі».

Жорсткія словы. Але ж у «Ловах» аўтар бачыць і чуе шмат цікавага і пра маскі аніякай гаворкі няма, ёсць адкрытая душа мастака...

Кожны пісьменнік так ці інакш уяўляе сваю рэферэнтную групу. Для адных гэта больш-менш шырокія колы чытачоў, для другіх — прафесійны асяродак. Але ж і прафесійны асяродак — розны. Асабіста мне цікава чытаць Б. Пятровіча і А. Асташонка, аднак адчуваю, што ў гэтую «рэф-групу» я не ўваходжу. Я стаю на другой дарозе і з цікавасцю пазіраю на двух спадарожнікаў. Куды яны наважыліся? Выпадкова аказаліся на гэтай пятляючай, непратоптанай сцежцы ці свядома? Мо проста надакучыла ісці ў натоўпе па той дарозе, па якой ідзе большасць, падтрымліваючы, а калі і моцна папіхаючы ў плечы суседзяў?

Так, мы даўно ведаем, што непрыкметная сцяжынка з часам можа стаць гасцінцам. На такім шляху таксама можна дамагчыся поспехаў. Але ж тут трэба пакласці ўсё жыццё.

Ці варта?

Мне здаецца — не. Пакуль што авангардысцкая проза прыносіць менш плёну. І — галоўнае — у гэтай плыні трэба працаваць тым, для каго іншага шляху не было й няма. Для каго авангарднае мысленне — адзіны спосаб асэнсаваць свет.

Вядома: не толькі мы пішам кнігі, яны таксама пішуць нас. Гэта і ёсць галоўная небяспека. Рызыкоўна на нейкі час пераскочыць на другую дарогу, каб потым павярнуць назад. І ў жыцці, і ў літаратуры — імклівая плынь.

многія рукі, зноў вяртаюцца назад, да яго. Спрацоўвае свайго роду бумеранг.

У чытача, які будзе ўважліва знаёміцца з аповесцю, магчыма, можа ўзнікнуць пытанне, а як жа сталася, што крадзяжом гэтых самых долараў не зацікавілася міліцыя, і чаму, калі Вінярскі грошы ўсё ж вярнуў, у жонкі памерлага Стэльмаха не ўзнікла падазрэння, а якім жа чынам яны ў яго апынуліся. Што на гэта можна адказаць? Ды, бадай, адно. Відаць, усё ж чыталі вы аповесць не вельмі ўважліва. Бо калі з творам знаёміцца ўважліва, падобных пытанняў узнікнуць не можа. Недарэчнымі яны пададуцца, настолькі ў А. Федарэнкі ход і развіццё падзей прадуманы і лагічна апраўданы. Таму і трэба верыць: так было. Няма патрэбы сумнявацца...

І ўвогуле, дзевяты нумар «Маладосці» — вельмі змястоўны. Часопіс пачаў друкаваць аповесць А. Асіпенкі «Выканаўца», змясціў апавяданне В. Хомчанкі «Эшалон», творы, якія прыцягваюць увагу ўменнем аўтараў знайсці новы паварот тэмы, што прываблівае не столькі сваёй сённяшняй надзённасцю, колькі вечнымі праблемамі чалавечнасці і зла, сутыкненнямі іх. Я. Хвалей прадстаўлены фрагментамі драматычнай аповесці «Рэгіна». Безумоўна, па невялікім урыўку цяжка атрымаць уяўленне аб усім творы, але відавочна, што аўтар, заглыбляючыся ў беларускую даўніну, у 1784 год, асэнсоўваючы тагачасныя падзеі з вышыні сённяшняга дня, застаецца аб'ектыўным і ўважлівым да тагачасных калізій. І ў гэтым прывабнасць «драматычнай аповесці», ды і вобразы галоўных персанажаў — начальніка каралеўскай аховы Тамаша Яворскага і яго каханай, прыдворнай балерыны Рэгіны — атрымаліся запамінальнымі. А яшчэ ў «Маладосці» — вершы С. Роўды, В. Куртаніч, У. Васько, М. Мельнікава, вянок трыялетаў А. Лісіцкага.

... Сталыя чытачы «Полымя» ведаюць: вераснёўскі нумар абавязкова адкрываецца новымі творамі М. Танка. На шчасце, і сёлета гэтая завядзёнка не парушана. Яўген Іванавіч, як і ў мінулыя гады, папрацаваў плённа. І справа не ў колькасці напісанага (хоць, пагадзіцеся, звыш сарака твораў — нямала). Тое, што з'явілася з-пад пяра М. Танка, уражвае ранейшай аўтарскай мудрасцю, філасофскай напоўненасцю радка і нязменнай цікавасцю да жыцця, настойлівым жаданнем сказаць сваё слова пра хуткаплынную сучаснасць і адначасова, па меры неабходнасці, азірнуцца назад. Балазе, ёсць што ўспомніць, прыгадаць, ёсць над чым задумацца. Ды М. Танк, у адрозненне ад многіх, зусім не схільны займацца суцэльным адмаўленнем. Для яго важней штосьці ўдакладніць, нешта выверыць, а да чагосьці вярнуцца ў чарговы раз. За ўсім гэтым — душа чулая, а лірычны герой — АСОБА. І імкненне да праўды і толькі праўды. А як даецца яна, пра гэта — невялікі верш, што так і называецца — «Праўда»:

**Які цяжкі тапор у лесаруба!**
**Ды за яго цяжэйшы плуг аратага.**
**А за яго — рыдлёўка далакопа.**
**А за яе — цяжэй сляза дзіцяці.**
**А за яе — хіба пустая лыжка.**
**І найцяжэйшая за ўсё на свеце —**
**Праўда.**

Не абмінае М. Танк і магчымай спрэчкі з будучымі апанентамі. Тымі, хто лічыць, што пісаць свабодныя вершы лёгка. Адказ даецца ў вершы «Рыфма»: «Ты можаш быць//і Мікельанджэлаўскім//ударам кулака//у ашчэр//яго славутага «Сатыра».//І можаш быць //ты фігавым лістком,//за якім еўнухі// скрываюць сваю немач».

Парадаваў невялікай аповесцю (хоць, памойму, гэта ўсё ж апавяданне) Ф. Сіўко. «Трое», як і «Ланцуг» А. Федарэнкі, — гэта і востры сюжэт, і адметныя героі (уцекачы з турмы, рэцыдывіст Сякач і малалетні Юрка). А яшчэ — драматычнасць калізій, і трагедыя, а за яе ўжо давядзецца расплачвацца не ў малой ступені і Юрку. Але гэта ўжо знаходзіцца па-за творам.

Змястоўным у «Полымі» атрымаўся раздзел «З літаратурнай спадчыны». Няхай і са спазненнем (летась адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння) ушанавана памяць адной з пачынальніц беларускай дзіцячай літаратуры, жонкі М. Гарэцкага Леанілы Чарняўскай. На жаль, імя яе згадваецца не так часта, як таго хацелася б. А яна ж не толькі ўласныя творы пісала, а і склала некалькі чытанак «Родны край», што ў свой час карысталіся вялікай папулярнасцю. Пра ўсё гэта можна даведацца з артыкула Г. Гарэцкай «Знак святой любові». Увазе чытача прапануюцца мемуарныя запісы Л. Чарняўскай «Успаміны пра знаёмства і сустрэчы з Якубам Коласам», «Памяці сына» і апавяданне «Кутніца». У гэтым жа раздзеле апублікавана і першая частка незакончанай аповесці Я. Маўра «Дзяўчына-маці», рукапіс якой захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі-архіве літаратуры і мастацтва. Дзень сённяшні паўстае з такіх публікацый, як п'еса В. Ткачова «Блакада ў Кругліцы» — пра жыццё паслячарнобыльскай Беларусі, вершы А. Вольскага, В. Макарэвіча, М. Скоблы, А. Хатэнкі, Н. Гальпяровіча (сапраўды ўжо, што ні паэт, дык індывідуальнасць). Згадкі Б. Бур'яна «І пакідае ўспамін пра сябе», магчыма, каму-небудзь пададуцца лішнімі. Маўляў, пра Канстанціна Паустоўскага, а гэта ж цяпер — заграніца. Ды варта прачытаць іх, каб зразумець, чаму трэба пра К. Паустоўскага пісаць. Асабліва, калі так напісана! Лёгка з адначаснай узважанасцю кожнага радка. Роздумна, але разам з тым і з патрэбнай засяроджанасцю на найбольш важным, істотным і характэрным. Эмацыянальна і ў той час цвяроза-аб'ектыўна, хоць, зноў жа, які аўтар абыдзецца без уласных ацэнак, а значыць і меркаванняў суб'ектыўных...

Ці неадзінкавы за сёлетні год выпадак, калі ўсе чарговыя нумары часопісаў з'явіліся своечасова. Адным словам, выбірай, што чытаць. У «Беларусі», напрыклад, традыцыйна моцныя публіцыстычныя старонкі. Гэтым разам прываблівае глыбінёй праблемнага аналізу рэпартаж У. Бацкалевіча і В. Жыліна (фота) «Соль і раны Салігорска», актуальнымі атрымаліся дыялогі Т. Бондар і старшыні Саюза жанчын Т. Дудко «Тут працуюць тыя, у каго ў душы ёсць што аддаваць», А. Шабаліна і Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі М. Ганчава «Крушэнне ідэалогій — гэта шлях да адзінства чалавецтва...», Я. Конева і дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Г. Ткацэвіча «Мы хочам аднавіць старажытную Беларусь». На паэтычных старонках — Н. Гілевіч і К. Камейша. У. Калеснік вяртаецца ў гады вайны — працягваецца публікацыя яго дакументальных запісаў «Блакада», пачатых у жнівеньскім нумары. Змешчана заканчэнне ўрыўка з аповесці І. Шамякіна «Бумеранг».

Дзякуючы М. Шэлехаву ў «Нёмане» цудоўна прадстаўлены паэзіяй А. Звонак, М. Лужанін, П. Пруднікаў. Кожны аўтар, да ўсяго, згадвае аб перажытым у гады сталінізму, дзеліцца развагамі аб дні сённяшнім. Шкада толькі, што цяпер наклад часопіса, у параўнанні з мінулымі гадамі, вельмі малы і слаба ён разыходзіцца за межамі Беларусі. Таму і атрымліваецца, што ў асноўным з ім знаёмяцца ўласныя рускамоўныя чытачы.

**М. АНДРЭЭНКА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## НЯМЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Кнігі коштам 730 тысяч нямецкіх марак 18 кастрычніка былі афіцыйна перададзены ў падарунак беларускім бібліятэкам Паслом Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску Готфрыдам Альбрэхтам. Іх атрымалі 13 навуковых бібліятэк, сярод якіх бібліятэкі Акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Мінскага лінгвістычнага універсітэта, а таксама бібліятэкі навучальных устаноў Брэста і Наваполацка. Гэты падарунак — частка праграмы нямецка-беларускага супрацоўніцтва ў галіне адукацыйнай палітыкі.**

**Апошнія гады да беларускіх бібліятэк, нават арыентаваных на навуковую літаратуру, не даходзілі замежныя вузка-спецыялізаваныя кнігі і часопісы з прычыны, вядома ж, матэрыяльнай. Літаратура, перададзеная як акадэмічным бібліятэкам, так і бібліятэкам вышэйшых навучальных устаноў, што падтрымліваюць сувязі з аналагічнымі нямецкімі інстытутамі і універсітэтамі, дазволяць стварыць у рэспубліцы такую неабходную навукова-інфармацыйную базу. Бібліятэкі мелі магчымасць самастойна выбраць навучальную і навуковую літаратуру. Больш палавіны кніг ахопліваюць галіны гісторыі, мовазнаўства, эканомікі, менеджмента і маркецінга, філасофіі і палітыкі, якія маюць найбольшую неабходнасць да аднаўлення. Вялікім попытам карысталіся таксама кнігі па тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплінах, лексіконы і бібліяграфічныя даведнікі. Нямецкі бок дапамог і ў абсталяванні бібліятэк: дадаткова былі перададзены 4 высакаякасныя капіравальныя апараты.**

**Праграма дапамогі бібліятэкам краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы была распачата Нямецкім бібліятэчным інстытутам у Берліне ў 1992 г. 300 навуковых выдавецтваў Федэратыўнай рэспублікі прапаноўваюць свае кнігі па спецыяльна заніжанаму кошту. Акцыя садзейнічае расшырэнню культурных кантактаў паміж краінамі і паглыбленню навуковага супрацоўніцтва.**

## «БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ СШЫТАК»

**На пачатку верасня г.г. у Беластоку выйшаў з друку першы нумар «Беларускага гістарычнага сшытка». Выйшаў ён на польскай мове. Большасць матэрыялаў прысвечана беларуска-польскім адносінам у XX стагоддзі. Выдала «Сшытак» Беларускае гістарычнае таварыства, створанае год назад у Беластоку.**

**Пра што ж пішуць маладыя беларускія гісторыкі з Беласточчыны? Ірына Матус — пра бібліятэкі і крэдытнае таварыства на Падляшшы на пачатку гэтага стагоддзя; Яўген Мірановіч — пра беларуска-польскія дачыненні ў 1918 — 1925 гадах; Юры Каліна — пра Брацтва беларускіх сялян у 1921 — 1922 гадах; Веслаў Харужы — пра дзейнасць Грамады на Беласточчыне; Яўген Вапа — пра ўзнікненне кааліцыі беларускіх арганізацый Цэнтрасаюз і ўдзел яе ў парламенцкіх выбарах у 1930 годзе; Славамір Іванюк — пра адміністрацыйную адзінку ў структуры Прэзідыума Ваяводскай рады ў Беластоку ў 1950 — 1953 гадах, якая займалася школамі з няпольскай мовай навучання; Аляксандр Карпюк — пра Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў 1956 — 1970 гадах...**

**Апавяшчаючы аб выхадзе «Беларускага гістарычнага сшытка», беластоцкая «Ніва» паведамляе таксама, што сябры БГТ мяркуюць выдаваць два «Сшыткі» ў год, а ў дадатак яшчэ і асобныя манаграфічныя працы.**

## ВЫДАДЗЕНА Ў ЭМІГРАЦЫІ

**Трыццаць чацвёрты год выходзіць у беларускай эміграцыі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Беларуская думка». Нядаўна на Бацькаўшчыну прыйшоў яго трыццаць дзевяты нумар, на вокладцы якога значыцца Нью-Йорк — Саўт-Рывер. У ім — артыкул Р. Завістовіча «76-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі», вершы А. Грыцкевіч, І. Бурдзейка, М. Скоблы, С. Багданкевіч, У. Паўлава, М. Маляўкі, Г. Вайтовіч, успаміны С. Шаўцова «Цётка Мар'я», развагі У. Брылеўскага «Перачытваючы «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, разнастайная інфармацыя з жыцця Бацькаўшчыны і замежжа.**

Паэзія

Алесь БАДАК



•

**Зялёныя аблокі дрэў
Застылі стомлена над намі.
У іх жыве птушыны спеў,
Бяздомны вецер спіць начамі.**

**Яны ўсё ведаюць пра нас,
І спазнаюць вякі былыя,
Калі карэннем кожны раз
П'юць сокі горкія зямныя.**

**Тут, дзе і тлум, і смерць, і грэх,
Што іх трымае ў дні цяжкія —
Зялёныя аблокі дрэў,
Цнатлівыя і маладыя?**

**О так! Вось-вось яны, відаць,
Карэнне выцягнуўшы з глебы,
Спакойна, ціха паляцяць
У неба, ласкавае неба!**

•

**Нібы ў нечым я моцна цяпер вінаваты,
Толькі вось не магу здагадацца — у чым.
Ўсё далей і далей да бацькоўскае хаты,
Хоць даўно і жыву я на месцы адным.**

**Прывыкаю. І меней з гадамі сумую,
І пра многае ўжо забываю. Ды ўсё ж
І адгэтуль я часам усё яшчэ чую,
Як у вёсцы шуміць
на надворку ў нас дождж.**

### УЛАДАР ВЕТРУ

**Кожную зіму
у маім коміне жыве вецер.
Калі на двары дужа холадна,
ён пачынае жаласна, па-сабачы скуголіць.
Тады я выходжу на двор
набраць дроў,
каб выпаліць у печцы,
і ён са страхі
кідаецца мне пад ногі,
удзячна ліжа твар і рукі.
Калі ж мяне часам
разбірае лянота,
і я, захутаўшыся ў старэнькі кажух,
дапазна адзінока валяюся на канапе,
ці за сталом чытаю кнігу,
тады жаласнае сабачае скуголенне
паступова ператвараецца
ў раздражнёнае воўчае выццё.
Нарэшце раз'юшаны вецер
скочваецца са страхі,
і вось ужо калючая завіруха
намятае вялізныя, па самыя платы,
гурбы снегу,
ломіцца ў дзверы, у вокны,
шалее,
нібы збіраецца перакуліць маю хату.
Я гляджу ў акно
і ўсміхаюся:
мне падабаецца быць
уладаром зімы,
уладаром ветру.
Пасля неахвотна выходжу на двор,
набіраю дроў
і падпальваю ў печцы.
Вецер сціхае.
Непрыкметна надыходзіць вясна.
Узрадаваны вецер
вылазіць з коміна
і падоўгу на страсе
вылежваецца на сонцы.
Цяпер яму непатрэбна мая дапамога,
цяпер ён можа начаваць
пад любым кустом,
у любым застрэшку.
Мне становіцца крышку сумна,
але мы з ім ведаем,
што хутка будзе новая зіма,
і хутка я зноў зраблюся ўладаром
гэтага смешнага і капрызнага гарэзы.**

Людка СІЛЬНОВА



### МЕСЯЧНАЯ НОЧ

*«Мой грустный товарищ,
махая крылом...»*
*Аляксандр ПУШКІН*

**Звыкла кажу: «Мая хата...»,
а гэта —
не хата.
Кубік кватэры, турма.
За шурпатымі
кратамі
Месяц плыве
па бязмежнай прасторы
нябёсаў
Шарыкам зыркім,
вандроўнікам,
вольным зайздросна.**

**Знізу глядзіць на яго
скрозь ваконныя
краты
Шарык другі —
зыркі дух мой! —
адбіткам ці братам...**

•

**Маленькі верш
Ты мне ў зубах, як кветачку, нясеш —**

**Фальклорнай птушкай...
І так цябе люблю ж я!**

**Ўсё гэта птаства —
Мая радня і царства!**

### МАРЫЙКА

*А адно толькі трэба.*
*БІБЛІЯ*

**Гэта не хвароба —
Да Цябе дарога.**

**Гэта не каханне —
З роднымі расстанне.**

**Многа ў свеце зыкаў...
Мяне — Бог паклікаў.**

•

**Да цябе падысці —
Будзе ўсё, як сад, цвісці!**

**А з табой загаварыць —
Быццам сонца запаліць!**

**Дакрануцца да рукі —
Засінеюць васількі**

**У жытнёвым полі,
Дзе мой дух сваволіць...**

•

**Каханы, ты дом мой,
Я — дым.
Мы разам — у вечнае неба ляцім**

**Старажытнай, наіўнай ракетай
У глыбокія далі Сусвету.**

•

**Я цябе цалую вершамі...
Не рукамі, а радкамі...
Ты апошні мой... ты першы мой...
Бог — і з намі!**

### БРАТ

*Д.*

**Ты — брат мой,
бо ты трошачкі сястра —
Жанчына,
што падобнай узышла
(Як Сонца,
побач з Месяцам маім)
На небе гэтым,
вечна залатым...**

Проза

Я думаю, што я жыву...

Дрэвы і трава выражаюць зямлю, сонца высвятляе прастору... А што акрэслівае сабою чалавек?..

Апошнім часам мне бывае сорамна за тое, што я нейкі там паэт... Апынуўшыся ў коле простых, добрых і, здавалася б, разумных людзей, як здаля ўслухваешся ў іх гамонку, пакуль раптам нехта не скажа з іроніяй у голасе: «Вось тут сярод нас беларускі паэт... хай падзеліцца... цікава...» І я тады наліваюся чырваню і горычна думаю: о Гасподзь, ну чаму я не такі, як усе, за што я такі «пракажоны»?! І чаму яны не пашкадуюць мяне і не паспагадаюць мне за гэтую, Богам прызначаную кару — маю адзіноту сярод людзей?..

Той-сёй з паэтаў спрабуе давесці, што ён піша толькі для сябе, толькі для асалоды ўласнай душы... Дарэмныя высілкі гэтай маскіроўкі...

Усе, хто піша вершы, пішуць іх хоць для нейкага адзінага чытача ці слухача, калі ўжо так сорамна — за вершы? — прызнацца, што пішаш для людзей.

Навошта траціць паперу і час для пісання? Навошта пісаць для самога сябе?

Можа, самыя геніяльныя паэты так і памерлі ў літаратурнай невядомасці, не занатаваўшы для нашчадкаў ані радка...

Бо верш — гэта твая душа, дух твой, твая зямная сутнасць, твае чалавечае апраўданне перад небам (Богам). І калі паэзія ёсць у табе, то яна адзіная і непаўторная, як ты сам. Нерукатворная, як твой дух. Таленавіты чалавек і ёсць дасканалы верш сам па сабе, ёсць вытлумачэнне самому сабе сваёй боскай прыроды і спрадвечнай зямной гармоніі.

І калі пачынаеш паслоўна выцягваць верш з сябе на паперу, шукаць клей тым паасобным словам — форму, стыль, рытм, рыфму, — каб надаць ужо маючаму быць літаратурнаму вершу былую прыродную гармонію сябе-верша, то тут і здараецца, калі не поўная, то пэўная страта паэзіі. Верш ужо робіцца, ён становіцца рукатворным. Вершам не для сябе, а — з сябе, для некага...

Які б ні быў талент — пішучы, ён страчвае... Але траціць сябе дзеля ўслаўлення Вечнага, няхай і губляючы пры гэтым долю асабістай Паэзіі, хіба гэта не боскае прызванне?!

Ноччу свет сцінаецца да святла настольнай лямпы. Але ты і яго тушыш...

Паэт-маладзён піша на крутыя сексуальныя тэмы. Аднак заўважаеш, што нават словы ў яго радках СТАЯЦЬ не так як трэба...

Як толькі я забываю пра сябе — свет становіцца лепшым.

У мяне было прадчуванне, што цяжка захварэе маці... Так і здарылася. Як я сябе ненавіджу!

Гультайства маё — ад сумнення. А ці так, а ці тое, а ці патрэбна? І вершы таксама адгуль. Таму іх — патрэбных — так мала.

У мяне суседзі па кватэры — каханкі без грамадзянскага шлюбу. Ёй — семдзесят, а яму — пяцьдзесят гадоў. Сварацца п'яныя на балконе пятага паверха. Яна: «Ну, скачы, маць тваю! Скачы, дакажы, што любіш!!!» На гэты раз не скочыў... Але мабыць-такі даказаў, бо па часе супакоіліся... І гэтак ажно тры разы ў месяц — у аванс, зарплату і пенсіён!

Час нялітасцівы! Юнацтва ўжо ўспамінаецца, як чужое жыццё...

Прыйшлі выпадковыя словы і тлумачаць мне сэнс жыцця...

Словы таксама бываюць вечныя і смяротныя. Напрыклад — жыта і серп.

Цераз ноч пасля смерці Караткевіча прыязджаў да мяне Уладзя Арлоў. Я спаў, а калі быў ім разбуджаны, то аказаўся не ў форме... Спачуваючы маёй хваробе, ён дапамог мне акрыяць. І вось, праясніўшы свой розум, ужо за вёскай на лясной дарозе, я сказаў яму пра смерць Караткевіча. Нягледзячы на мой стан, вячэрняя радыйная інфармацыя не выветрылася з маёй істоты. Уладзя ўтрупянеў і паглядзеў на мяне, як на апошняга алкаша з «белымі» трызненнямі, і перапытаў... Я зноў сказаў тое ж самае... У хуткім часе ён сабраўся і паехаў...

Уяўляю на той жа лясной дарозе ці на будучым аўтабане двух інтэлігентных людзей нашага тагачаснага ўзросту гадоў гэтак праз... Адзін кажа другому: «Слышал, сегодня по шестнадцатому каналу переда-

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

Леанід ГАЛУБОВІЧ



ли, что умер белорусский писатель, то ли Горлов, то ли Горлович?» «Да?! — здзівіцца другі. — А разве у нас был еще и белорусский писатель?! Странно... Для кого же он писал?..»

Усё можа быць. Прабач, Уладзя, за згадку...

Зіма... Каламутны снег... І я тапчу гэтую брудную кашу на мінскіх вуліцах амаль бессэнсоўна і маркотна думаю: а што, калі б я зараз памёр, ці паменела б у свеце самоты і жалю?.. Калі б ведаў, што — так, то — памёр бы...

Памяць — гэта своеасаблівае «выбранае» з нашага жыцця. На вялікі жаль, не ўсё там людскае...

Прыехаў да хворае маці і — саракатрохгадовы мужчына — не змог сказаць ёй нейкіх цёплых, пяшчотных, самых-самых слоў. Мыкаў, гаварыў нешта: «Не хварэй, маці... беражыся...» Гэтак, мабыць, бывае толькі пры першым каханні, чыстым і светлым... Калі кахаеш і любіш, а слоў гэтых вымавіць, ну, аніяк не можаш, быццам яны могуць парушыць тую светласць і чысціню душы. Лягчэй з аддегласці напісаць гэта ў лісце або ў цыдулцы, як пішу я зараз у сваім нататніку, ужо пасля ўсяго выказанага нутром: я люблю цябе, маці... Дасць Бог, заспее прачытаць.

Дашкольніцы-аднагодкі, мая дачка і суседская, гуляюць у двары. Сяджу непадалёку на лаўцы, чытаю...

Чую іх галасы з кустоўя, што нарасло каля самага пад'езда. Суседская: «Ксения, смотри, какая веточка красивая! Давай обломаем...»

Мая: «А вось, каб ішлі якія-небудзь дзядзькі і сказалі: паглядзі, якая ў гэтай дзяўчынкі ручка прыгожая! Давай адкруцім...»

О Гасподзь, думаю: выхаванне — жончына, а літаратурны троп — мой...

Размова ў жаночым гурце наконт прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Вядомая паэтэса наіўна-прабачальна ўстаўляе: « А вы ж ведаеце — у мяне сабака... І ўсё так дорага... А тут суседка, дай ёй Бог здароўя, цэлы тыдзень ні з таго, ні з сяго косткі стала прыносіць, ды такія добрыя, сытныя... А заўчора заадно прынесла і падпісны ліст за прэтэндэнта ад кампартыі... Ну, што ты зробіш? Аддзячыць жа чалавеку нейк трэба... Падпісала... Шкада сабаку...»

Кахаю і люблю... Цяжка вызначыцца ў трактоўцы і разуменні гэтых слоў, амаль сінонімаў. Кахаю — гэта я цябе хачу, а люблю — гэта я ўжо цябе маю?! Заўжды быў прафанам у падобных вызначэннях, як, спадзяюся, і многія іншыя, апроч моваведаў, не дай Бог, такіх жа пунктуальных у інтымных пытаннях, як і ў моўных...

Дзіўны народ — беларусы. Вось і Адамовіч — паехаў змагацца за дэмакратыю ў Маскву, а пахаваць сябе папрасіў у таталітарнай Беларусі.

Пра жыццё я цяпер думаю, як пра нешта вызначанае і акрэсленае... Таму часцей за ўсё я разважаю пра смерць, якую хацелася б зразумець і ўсвядоміць...

Няма людзей бяднейшых за паэта, але і паэта няма бяднейшага за людзей.

Ноч... А на вуліцы ўсё нехта крычыць немым голасам... Ці не мяне ён кліча?! Не кліч, не крычы, браток. Усе мы — адны...

Перад самай смерцю бацька ўсё важдаўся з дзвярыма. Паправіў дзверы ў сенцах, зрабіў яшчэ адны (падвойныя) у пограб, падладзіў і падфарбаваў весніцы ў двары... Цяпер, калі прыязджаю ў вёску і адчыняю тыя дзверы, заўжды застыгла насцярожваюся на думцы: што хацеў зачыніць за сабою бацька, адыходзячы ў той свет?..

Калі бацька памёр, то мне давялося дапамагаць суседцы абмываць яго. У вёсцы жылі толькі старыя і немачныя. Ён быў маладзей іх, і яны, пэўна, мелі спадзеў на яго сілу. Хто цяпер будзе араць і касіць іх агароды, рабіць ім труны і капаць магілы?

Я ж сам і галіў яго. Цела было ўжо схаладзелае, нацятая скура добра давалася лязу. Аднак унутрана я адчуваў небяспеку так, як бы галіў сябе, сам дарэшты агаляючыся перад яго памяццю.

Жонка прывяла дачку з садка і тая, кідаючыся мне на шыю, усхвалявана і пакрыўджана ўзахлёб распавядае, як у яе баляць жывоцік і галоўка, таму што падчас гульні яе моцна і наўмысна стукнуў гэты «дрэнны хлопчык Юрка»... Вось тут, па ножцы!..

І ты яскрава ўспамінаеш, як і дзень, і другі балела ўся твая чалавечая істота ад аднаго абразлівага слова...

Баліць — не нешта, а баліць — таму што...

Гарадскі сталічны васемнаццацігадовы хлопец, сын маіх былых аднавяскоўцаў, хоча застацца жыць у дзедавай вёсцы і быць там конюхам. Дзедава хата якраз каля самай канюшні. Хлапчуком ён там заўжды праводзіў летнія вакацыі і падпрацоўваў у калгасе, тое-сёе падвозячы на фурманцы... Коней, пэўна, бачылі ўсе і мала хто іх не любіць, але не ўсе, тым больш сённяшнія ды яшчэ гарадскія, хочуць жыць у вёсцы і даглядаць тых коней. Мабыць, дзед ці мясцовы конюх не праміналі абагрэць яго гарадскую душу ў капе свежага пахучага сена альбо саломы... Сур'ёзны хлопец — і такое! Камп'ютэры дзесьці далі збой у яго выхаванні... А мне вось чамусьці ўсцешна...

А ў самім «трэцім Рыме» — Маскве — жыве яшчэ адна мая трыццацігадовая сваячка. Халасцякуе, але ўжо мае сваю прыватызаваную двухпакаёўку. З дзяцінства да гэтага часу займаецца коннай выездкай. Конская спартыўная збруя, скураная, пахнучая вясковым выганам, са шматлікімі бляшанымі ўпрыгожаннямі, вісіць на сцяне ў пярэдняй яе сталічнай кватэры... Нядаўна яна скончыла заалагічны ці то падобны на гэты інстытут. Ведаю, што абараняла дыплом па мушках, жучках ды ўсякіх чарвячках...

Ну, што тут скажаш!? Непрыкметная мая вёска Вароніна не дае дарэшты урбанізавацца сталіцам. Дарэчы, дзед таго юнака, што хоча быць конюхам, і бабка гэтай маскоўскай верхавой наезніцы з'яўляюцца роднымі братам і сястрой маёй бабкі Алімпы.

Я таксама многа пішу пра коней, хоць конюхаў у нашым родзе не было спакон веку. Дзіўная рэч генеалогія! Куды яна нас вывезе!?

Наша пісьменніцкае. Увесь час хочам спасцігнуць глыбіні ўласнай душы. А там усё так мелка і каламутна...

Каб пісаць вершы, больш таго тварыць паэзію, трэба жыць надзвычайным, неардынарным жыццём, перш за ўсё ўнутраным. І дух, і быццё, у рэшце рэшт, павінны быць на ўзроўні паэтычнай метафары...

У наш час гэтаму адпавядаюць у пэўнай меры, бадай, толькі Сыс ды Разанаў... Адпавядалі Стральцоў ды Караткевіч...

Упершыню на пісьменніцкім з'ездзе я здзівіўся такой агромністай масе беларускіх літаратараў. І што ні твар — то своеасаблівы каларыт... Увогуле мне падалося, што тут разам сышліся на нейкі міфічны карнавал ці сучаснае «шоу» вядомыя і невядомыя беларускаму чытачу прататыпы герояў беларускай літаратуры. Не пісьменнікі, а менавіта прататыпы сваіх літаратурных герояў...

Адны гоняцца за славай, носячы «сталінскі» фрэнч ці галіфэ, другія — вечна падбітае вока, трэція — пляшку гарэлкі, чацвёртыя — разладжаную гітару...

А я сяджу з ёй побач на кухні і п'ю каву, час ад часу пішучы гэтыя зацемкі. Слава — жанчына высакародная і не любіць тых, хто дамагаецца яе сілком...

Праўда, Мантэнь сцвярджае адваротнае: «Славалюбства не сумяшчальна з адасобленасцю. Слава і спакой не могуць ужыцца пад адным дахам». Дзеля справядлівасці скажу, што гэта я вычытаў у Брыля, а не ў Мантэня. Аднак ці не сам Брыль і абвяргае гэтыя словы Мантэня?..

У мяне ўжо няма таго, што было. І пэўна ж, не будзе і гэтага, што пакуль яшчэ ёсць... То што ж я буду мець у выніку свайго жыцця, адыходзячы на той свет? Ат, як той казаў, лепш адысці налегцы, чым з цяжарам, спадзеючыся, што недзе ж тое некаму засталося...

Жонка перад сном не праміне ўпікнуць, што ў мяне заўжды халодныя рукі. І гэта — святая праўда.

Так вось заснеш, а цябе незнарок прымуць за нябожчыка... І не шмат у чым памыляцца...

Самы трывожны час — перад сном, калі навіслы дзённы цяжар схіляе цябе над цёмнай безданню ночы...

У горадзе ўсе дзённыя гукі зліваюцца ў бессэнсоўную какафонію... Нешта канкрэтнае нельга вылучыць для ўласнага слыху. А вось ноччу... Там, за домам, прастукаў на стыках рэек трамвай... Недзе за вуглом падвывае на павароце вуліцы тралейбус... Вуркоча, абмінаючы калдобіны, аўтобус... Шпарка, з шыкам прашмыгнула, як мышка, легкавушка... Шоргае па тратуары падэшвамі і нешта бубніць, шморгаючы носам, шарамыга «пад шафэ»... А вось — цокае, выбіваючы дробны, паспешлівы, палахлівы такт, загулялая маладзіца на абцасіках... А гэта — расхвалявана грукае тваё сэрца...

Ноччу ўсё выказваецца больш выразна і больш асабіста. Дзень — нівеліруе, ноч — увасабляе...

О Гасподзь, хто я і што я?! Позняй гадзінай сяджу, абхапіўшы галаву рукамі, і пакутую ад няведання сутнасці сваёй... А ты пасміхаешся, бо — ведаеш... хоць сутнасць тая, у рэшце рэшт, прыцісне каменем да зямлі нас абодвух...

Не так доўна памёр мой сябар, вясковы пагодак Пеця. Пеця Платонікаў — так называлі яго ў нашай вёсцы, дадаючы імя бацькі. Але я тут не пра смерць і нават не пра сябра канкрэтна.

Хоць калі я ўпершыню прывёз сваю жонку да бацькоў, то яе вельмі ўразіў гэты самы мой сябар — нізенькі ростам, неабдымна-тоўсты, круглякаваты, з сінюшна-апухлым тварам, на якім вытыркаліся ледзь бачныя жывыя гузікі вочкаў... Саракагадовы халасцяк, п'яніца, добры, душэўны чалавек сам па сабе, якога за бязладнасць лёсу да пашаноты любілі ўсе вясковыя бабы...

А ўразіла жонку тое, што гэты забыты Богам мужычок называў яе, жонку свайго сябра, намнога малодшую за яго, не іначай як Верай Іванаўнай і звяртаўся да яе толькі на «вы».

У нашай вёсцы да 1939 года панавала шляхетная культура грамадскіх паводзін. А вось тое, што ўжо добра памятаю я — савецкае ад сярэдзіны пяцідзесятых, — было трохі іншае. Набірала моцы п'янства, і як следства — лаянка, бойкі, хамства... Асабліва ў сем'ях.

Але помніцца і тое, што, да прыкладу, большасць людзей старэйшага пакалення як толькі выходзілі за весніцы свайго двара, усіх вяскоўцаў, акром родных і вельмі блізкіх сваякоў, называлі па бацьку: як жывяце, Платонавіч, Філарэтавіч, Макаравіч?.. А то: гэта ж, мабыць, прыехаў у госці Лёня Мішы Філарэтавага... Гэта значыць, я — сын Мішы, у якога бацька зваўся Філарэтам... Ці так: вунь Лёня Зоні Паўлюковай пайшоў... Гэта значыць, зноў я — сын Зоні, у якой бацька зваўся Паўлюком...

Бацька майго памерлага сябра Платон называў мяне толькі «Міхайлавічам» і на «вы», хоць я быў пагодкам яго сына.

Дык вось, ён часта «пасвіў» мяне ў сваім гародзе. Іду я гэта раненька росным цвярозным выганам да крамы ведама чаго... А ён — тут як тут, з-за слупка акоранага вытыркнецца, шапку з галавы і: «Добрай ранічкі вам, Міхайлавіч! Ці не ў магазынь вы часам? А то ў мяне ад хатняга рэвізора, ведаеце ці не, колькі капеек у калашыну закацілася... Гэтая курвіза маракуе, раз ёй венік даверылі, то яна можа ўсё вымесці...»

Прапанова, ад якой адмовіцца, не пакрыўдзіўшы чалавека, нельга. Бярэш тых капеек сорак... Ідучы назад, не заўважаеш яго як ні ўглядаешся, і ўжо цешыш сябе кволай надзеяй размінуцца, аднак ён вырастае перад табою, бы з-пад зямлі, са шкалікам і зялёнай цыбулінай у руках...

Такія вось мужыкі цябе і пад лішняй чаркай будуць усё адно называць на «вы» і «Міхайлавічам». Але толькі да той пары, пакуль гэтыя шляхцюкі ад культуры (і бацька мой у тым ліку) пераступалі мяжу свайго двара і надзейна зашчэплівалі за сабой весніцы. Вось тут ужо яны адчувалі сябе самадзержцамі. Грубая лаянка, аплявуха, а то і добрая зубатычына жонцы, ды трапіўшым пад гарачую руку дзецям... Рэжым у сям'і трымалі таталітарны. Асабліва нападпітку.

...І якія ж свецкія мужчыны выходзілі назаўтра ранкам на вуліцу з гэтых двароў! Мой бацька, настаўляючы нас, трох сыноў, часта з гонарам заяўляў: я за ўсё сваё жыццё на вуліцы нават кураня не зачапіў! Але ж колькі качак затаптаў на ўласным падворку!

...Большасць з іх ужо на тым свеце. Пухам вам, Платонавічы, Філарэтавічы, Макаравічы... зямля! Вы ўсё ж яе любілі, абраблялі і ўпрыгожвалі...

І ты, Вяруня, не засмучайся. Верай Іванаўнай цябе яшчэ, спадзяюся, назавуць, хоць бы ў гарадской установе...

Бацька мой захварэў нечакана і цяжка. Памёр, лепш сказаць згарэў, хутка. Рак... Пакутаваў ён апошнія дні свае жудасна. Да таго ж — баяўся смерці. А награшыў ён дастаткова, каб мець гэты страх, але і добрага зрабіў шмат, каб не губляць спадзеву на боскую літасцівасць... Пакуты і страх не адпускалі яго. Усёй сілай волі ён кантраляваў сваё, ужо ні на што не здатнае, цела. Таму мозг і сэрца жылі, вочы жылі — бяссонныя, ён баяўся заснуць, глыбокія, зазіраючыя некуды далёка-далёка...

Мы з братам паехалі ў раённую бальніцу да знаёмага тэрапеўта, свайго аднавяскоўца, каб той што параіў ці даў якіх сродкаў для аблягчэння цялесных пакут. Ён ведаў бацьку, яго безнадзейны стан, і даў нам некалькі аднаразовых шпрыцоў ды чатыры ампулы з морфіем. Расказаў, як і калі рабіць тыя ўколы.

Прыехаўшы, брат не надта ўмела, а мо і баючыся, зрабіў укол. Бацьку неўзабаве палягчэла. Ён прыдрамаў... Заснуў... І ўжо больш ніколі не прачынаўся... Ён, нечакана для сябе, разняволіўся. Выпусціў тыя пазафізіялагічныя лейцы, якія ўвесь час напружана трымаў напагатове, не адпускаючы. І — памёр. Не было каму кантраляваць прагу жыцця.

Як усчувала нас маці і як мы бясслоўна дакаралі адзін аднаго! Ён бы яшчэ жыў дзень ці гадзіну, але — жыў бы... Няхай і ў неймаверных пакутах. Мы, здаровыя, спачуваючы чужым мукам, не разумеем у той час галоўнага — самакаштоўнасці жыцця. Кожнага яго імгнення. Пэўна ж, ён яшчэ і развітаўся б, і сказаў бы нешта такое,.. аб чым найбольш шкадавала маці. Урэшце і пакуты яго былі асабіста ягонымі, прадаўжэннем і лагічнай высновай яго ўласнага зямнога жыцця. Мы паскорылі яго сустрэчу са смерцю, якую ён адцягваў як мог. Мы падштурхнулі яго да таго, чаго ён баяўся і не хацеў.

Гэта — вялікі грэх. Яго не замоліш, як не вернеш тых бацькавых, адабраных намі, імгненняў жыцця.

Змілуйся, прабач нам, бацька. І Ты, Гасподзь, не асуджай нас дачасна, але ў свой час... Мы ўсе вартыя тваёй кары і... спагады...

Я нарадзіўся, каб ведаць, што я памру. І гэта самае існае з таго, што я ведаю...

*1991—1994 гг.*
*г. Мінск — в. Вароніна*

## БОЛЬШ ЗА ЎСЁ — НА СЯБРОЎ?

**13 кастрычніка расійскі прадпрымальнік Грыгорый Фіглін кідае ўсе справы, каб... апынуцца ў Гомелі на адкрыцці сезона «Незалежнага тэатра» і... адзначыць дзень свайго нараджэння. Адметна. Колісь, тры гады таму, рэжысёр і кіраўнік тэатра Якаў Натапаў падгадаў адкрыццё якраз пад дзень народзінаў сябра і фундатара тэатра (фундатара і пастаяннага ўтрымоўцы), трупа зразумела і падтрымала такі элегантны жэст дый падтрымлівае. Яшчэ адна вабная завядзёнка «Незалежнага тэатра» — прымяркоўваць да адкрыцця сезона прэм'еру. Штогод. Сёлета падставаю для прэм'еры зрабілася п'еса А. Валодзіна «Маці Ісуса»; спектакль інтрыгуе іншаю назваю: «Ператварала ваду ў віно або не?». Якаў Натапаў для ажыццяўлення сваёй задумы запрасіў з Мінска... сяброў: мастака Яўгена Волкава і кампазітара Барыса Сярогіна; жанр сцэнічнага твора пастаноўшчыкі вызначылі як эцюд на біблейскую тэму. Дарэчы, жанравая палітра сцэнічных прапаноў «Незалежнага тэатра» — ад трагікамедыі да рамантычнае драмы. У сталым пракаце сёння — тры спектаклі, якія суправаджаюць пастаянныя аншлагі. Паводле Якава Натапава, на аншлагі, магчыма, уплывае колькасць месцаў тэатральнага памяшкання (іх дзвесце). Але куды больш верагодна — магчымасць паглядзець добрыя п'есы ў добрым выкананні (паводле класіка): «Цыліндр» Э. дэ Філіпа, «Спадарожнікаў у ночы» паводле «Аўтобуса» С. Страціева, «Дон Жуана» Л. Жухавіцкага... Цэнтральную ролю ў апошнім спектаклі, дарэчы, выконвае маскоўскі акцёр Эмануіл Вітарган, — без перабольшання, і самаму вядомаму, і самаму занятаму акцёру найдаражэй тэатральная незалежнасць... «Незалежнага тэатра». Нялішне будзе паведаміць, што ў спектаклі «І пагасне святло» паводле братоў Стругацкіх даў згоду працаваць Леў Дураў...**

**Натуральна, перадусім тэатр спавядае незалежнасць творчую і не быў бы супраць статуса «дзяржаўны». Бо менавіта ўстанове з такім статусам лацвей і прасцей разумецца са спонсараваю дапамогаю: на баку дзяржаўных утварэнняў — уся лагода й літасцівасць закона... Пра ўключэнне гомельскага «Незалежнага тэатра» ў спіс дзяржаўных устаноў культуры хадайнічала Міністэрства культуры і друку. Супраць былі толькі старшыні раённых выканкамаў Гомеля, — тыя самыя, якіх праз які месяц пазбавіў уласнага статуса беларускі прэзідэнт. Старшыняў было шмат. Прынамсі, куды больш, чым тэатраў. І толькі незалежнасць застаецца адною на ўсіх. У тым ліку — і на дзвесце месц «Незалежнага тэатра». Тэатра, які больш за ўсё спадзяецца на сяброў і не памыляецца ў іх.**

**Ж. Л.**

## ТРЫ НАВІНЫ З МАЗЫРА

**З новаю п'есаю Сяргея Кавалёва «Трышчан і Ізота» паводле старажытных беларускіх варыянтаў знакамітага сярэднявечнага твора выправіўся ў Мазырскі эксперыментальны тэатр «Верасень» акцёр Валеры Ласоўскі. Натуральна, ставіць. Ставіць, увасабляць на сцэне «Верасня», як, напрыклад, «Янку і Ружу» Уладзіміра Ягоўдзіка (аб колішняй прэм'еры «ЛіМ» паведамляў). Тады чаму — акцёр? Проста як акцёр Валеры Ласоўскі больш вядомы, — і работамі ў Рускім тэатры Беларусі, і непрацяглаю, але заўважнаю працаю ў «Незалежным тэатры» Якава Натапава ў Гомелі, але асабліва — удзелам у самых розных мастацкіх праграмах рэспубліканскай філармоніі. Тамсама ажыццявіліся дзве самастойныя рэжысёрскія работы Валерыя Ласоўскага — літаратурна-музычныя кампазіцыі паводле П. Панчанкі ды Янкі Купалы з Якубам Коласам.**

**Другая навіна пераняла першую: менавіта Валеры Ласоўскі прапануе прыняць з назвы тэатра вызначэнне «эксперыментальны», бо мяркуе: гэтаму тэатр «Верасень» якраз не адпавядае. А трэба звычайна і зразумела: Мазырскі гарадскі тэатр. Ёсць пэўнасць, што гэтая слушная прапанова не адкінецца вераснёўцамі, якім ужо не адзін раз прапанавалі патлумачыць, у чым сутнасць эксперыментаў на ягонай сцэне і афішы. Так, праз эксперымент, дапялі і да трэцяй навіны: «Верасень» займеў новага мастацкага кіраўніка і дырэктара. Ім зрабіўся... Валеры Ласоўскі. «Я прыхільнік тэатра псіхалагічнага рэалізму, — сказаў ён на сустрэчы перад ад'ездам. Мой кумір ды ідэал рэжысёра — Таўстаногаў. Трупу «Верасня» я ведаю нядрэнна, і хоць там адбыліся змены, я маю намер як мага больш заняць у рабоце тых, хто ўтварае, утрымлівае, проста самімі сабою складае гэты тэатр. Маё захапленне шчыра аддаю калегу Андрэю Лазарэўскаму, — ягонае васьмідзесяціпяцігоддзе мусібыць святам для мазырскіх тэатралаў...».**

Жана ЛАШКЕВІЧ

Напярэдадні падзеі

***Вось ужо чацвёрты год сябры беларускай музыкі з нецярплівасцю чакаюць пачатку лістапада — чым новенькім (як вядома, добра забытым старым) парадуе аб'яднанне «Беларуская Капэла»?***

# І ЎСЁ ГЭТА — НАШЫ ІМЁНЫ...

СЁЛЕТНІ фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы» прадстаўляе айчынны музычны рамантызм. Увогуле, характэрнай рысай рамантычнай эпохі з'яўляецца росквіт самабытных нацыянальных мастацкіх школ, да ліку якіх цалкам належыць і беларуская. Імёны Міхала Клеафаса Агінскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і ягонай дачкі Камілы, Восіпа Казлоўскага, Юзафа Ігната Крашэўскага, Антона Абрамовіча, Фларыяна Міладоўскага, братоў Ельскіх, Напалеона Орды, Станіслава Манюшкі складаюць адметную старонку айчыннай музычнай культуры, да апошняга часу нам амаль невядомую. На жаль — таму што ўсё гэта былі людзі высокаадукаваныя і, як правіла, таленавітыя не ў адной галіне мастацтва, а для некаторых з іх складанне музычных твораў было адметнай часткай жыцця, але не звязанай з асноўным заняткам. Нагадаю імёны.

Паэт і драматург, акцёр, вядомы тэатральны дзеяч В. Дунін-Марцінкевіч (1808—1889) — аўтар тэксту «Сялянкі» С. Манюшкі ды К. Крыжаноўскага, твора, дзе ўпершыню з опернай сцэны прагучала беларуская мова, твора, у якім драматург сам выконваў ролю Навума Прыгаворкі. Ёсць нават падставы лічыць, што музыку да сцэны Навума ён напісаў сам.

Ягоная дачка, Каміла (1837 — пасля 1885), вядомая піяністка, вучылася ў знакамітага мінскага педагога Д. Стэфановіча і ўжо з васьмі гадоў вяла канцэртную дзейнасць на Беларусі, Украіне, у Літве. На жаль, цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і не дазволіла К. Марцінкевіч атрымаць кансерваторскую адукацыю. Каміла таксама ўдзельнічала як драматычная актрыса ў пастаноўках п'ес свайго бацькі, працавала настаўніцай у школе.

Пісьменніка, паэта, мастака, этнографа, грамадскага дзеяча Юзафа Ігната Крашэўскага (1812—1887) мы таксама больш ведаем як аўтара болей за 300 гістарычных раманаў, якога Генрык Сянкевіч лічыў сваім літаратурным папярэднікам і настаўнікам. але, паводле сведчання Адама Кіркора, «гэты дзіўны чалавек усё пісаў і пісаў, а калі вельмі стамляўся, маляваў ці іграў на фартэпіяна. У гэтых творах выяўлялася яго душа, яго сімпатыі да Літвы, да мясцовага люду». Дарэчы, малюнкі Юзафа Крашэўскага ўпрыгожваюць III том «Жывапіснай Расіі», большасць артыкулаў да якога напісаў А. Кіркор. Але Ю. І. Крашэўскі — таксама аўтар шэрагу фартэпіянных мініяцюр, выдадзеных у Варшаве.

Наступнае імя — Аляксандр Ельскі (1834—1916). Беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, перакладчык, публіцыст, ён — стваральнік літаратурна-краязнаўчага музея, першы біёграф В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама аўтар камерных музычных твораў, выдадзеных у Пецярбурзе і Варшаве.

Брат ягоны, Міхал Ельскі (1831—1904), атрымаўшы адукацыю юрыста, нейкі час працаваў у судзе, але пакінуў юрыдычную кар'еру, каб цалкам аддацца музычнай дзейнасці. Як скрыпач ён атрымаў адукацыю спачатку дома: бацька абодвух братоў, Аляксандра і Міхала — Карл Станіслававіч — быў лекар, але добра граў на скрыпцы. У сям'і наогул цікавіліся літаратурай і мастацтвам, часта музіцыравалі (узор кампазітарскіх заняткаў Карла Ельскага «Паланез» таксама прагучыць на фестывалі). Педагогамі М. Ельскага былі славуты А. В'ётан і К. Ліпіньскі. Як скрыпач М. Ельскі канцэртаваў у Мінску, Вільні, гастраляваў у Польшчы, Германіі. Ён — аўтар амаль 100 твораў, сярод якіх — два канцэрты, саната-фантазія на тэмы польскіх народных мелодый для скрыпкі, паланезы, мазуркі, мініяцюры. Збіраў і запісваў беларускія народныя мелодыі, якія выкарыстоўваў у сваіх творах. Быў вядомы як публіцыст і даследчык: рукапіс ягонай працы «Народныя танцы Мінскай губерні» захоўваецца ў Варшаўскім універсітэце. Дарэчы, даследаванні А. Капілава сведчаць, што сям'я Ельскі знаходзіцца ў сваяцтве з родам Агінскіх. Міхал Ельскі лічыў Міхала Казіміра Агінскага сваім прадзедам; ён зрабіў апісанне складу інструментарыя аркестра апошняга і сам іграў на скрыпцы з калекцыі свайго славутага продка. А калекцыю гэтую складалі ў асноўным інструменты італьянскіх майстроў, у тым ліку Гварнеры і Амаці.



*Будынак Мінскага гарадскога тэатра Полака, у якім у 1852 г. адбылася прэм'ера оперы «Сялянка». Фота сярэдзіны XIX ст.*

Імя кампазітара, палітычнага дзеяча і літаратара-мемуарыста Міхала Клеафаса Агінскага (1765—1833) знаёмае кожнаму, дзякуючы звышпапулярнаму «Паланезу a-moll». Але на сённяшні дзень вядомыя і яго 17 рамансаў, і каля 40 клавірных твораў, і опера «Зеліс і Валькур, або Банапарт у Каіры». Прадстаўнік аднаго з самых буйных і старажытных беларускіх княжацкіх родаў, М. Кл. Агінскі не лічыў сябе прафесійным кампазітарам, нягледзячы на шырокую музычную адукацыю і значныя творчыя набыткі. Зрабіўшы імклівую бліскучую кар'еру, ён на пасадзе дыпламата жыў у Аўстрыі, Галандыі, Расіі, Францыі, апошнія гады правёў у Фларэнцыі, дзе і пахаваны. Шырокаадукаваны, таленавіты, ён быў асабіста знаёмы з Гайднам, Моцартам, Віёці, Кампанэлі, а іспанскі скрыпач Эскудэра, італьянскі спявак Паліяні, а таксама настаўнік Міхала Клеафаса, кампазітар і віяланчэліст Восіп Казлоўскі выступалі і падоўгу жылі ў сядзібе Агінскага ў Залессі, дзе кампазітар стварыў большую частку сваёй музычнай і літаратурнай спадчыны. Наогул, створаны ім тут культурны асяродак быў ці не адзіным па тым часе на Беларусі культурным цэнтрам еўрапейскага кшталту. У гісторыі беларускага музычнага мастацтва М. Кл. Агінскі займае тое ж месца, што Шуберт — у аўстрыйскім: апошні класік, першы рамантык. А здзейсненыя ім крокі на шляху ператварэння паланеза-танца ў салонную камерную п'есу, музычную карціну дазваляюць лічыць яго бліжэйшым папярэднікам Ф. Шапэна (вядома, што апошні быў добра знаёмы з творчасцю Агінскага, а Трыо соль мінор «Паланеза B-dur» (ор. 71) амаль што нота ў ноту падобнае да славутага «Развітання з Радзімай» Агінскага).

АСОБНАЕ МЕСЦА ў гісторыі беларускага мастацтва займае Напалеон Орда. Піяніст, кампазітар, музыказнаўца, педагог, мастак, ён быў адным з лепшых музыкантаў свайго часу, таленавітым і шырокаадукаваным. У беларускай культуры ён — даволі вядомая асоба, але да нядаўняга часу больш вядомая толькі аднабакова: як мастак-графік (пры жыцці Н. Орды былі выдадзены альбомы ягоных твораў, ягоныя малюнкі ўпрыгожваюць «Жывапісную Расію». Музычны ж талент Н. Орды пакуль што, на жаль, застаецца незапатрабаваным.

Наш фестываль распачынаецца менавіта аўтарскім канцэртам фартэпіяннай музыкі Н. Орды, і гэтую падзею мы лічым вельмі значнай. Упершыню шырокая аўдыторыя зможа пазнаёміцца з музыкай кампазітара ў выдатным выкананні Ігара Алоўнікава. Спадчына Н. Орды налічвае больш за 20 канцэртных паланезаў, мноства мазурак, вальсаў, полек, песень; у 1873 г. выйшла ў свет яго «Граматыка музыкі», пра якую незадоўга да смерці С. Манюшка пісаў у лісце да самога аўтара: «Праца для вучняў надзвычайна карысная. Яна здаецца мне найбольш поўнай і даступнай да разумення». У сярэдзіне 1830-х гадоў, апынуўшыся ў Парыжы, ён хутка сыходзіцца з А. Міцкевічам, Ф. Лістам, Ф. Шапэнам, які сам пажадаў кіраваць музычнымі заняткамі Н. Орды. Іх звязвала шчырае сяброўства. Шапэн вёў перапіску з Ордам, прысвяціў яму многія рукапісы, цаніў яго кампазітарскі дар і часам выконваў яго фартэпіянныя творы. Між іншым, кампазітары разам выступалі ў музычных салонах Парыжа і часта выконвалі творы адно аднаго без абвяшчэння аўтарства, і вось што цікава: публіка не заўважала падмены! Дзякуючы парадзе Ф. Шапэна, Н. Орда выдаў у Парыжы свае фартэпіянныя творы, а таксама вакальныя — на вершы С. Вітвіцкага і А. Плуга.

Мы вельмі ўдзячныя Міністэрству замежных спраў Беларусі і Беларускаму пасольству ў Парыжы за атрыманыя сёлета «Беларускай Капэлай» копіі парыжскіх першадрукаў твораў Н. Орды. А дзякуючы намаганням нашых польскіх калег Парыж перажывае новую хвалю захаплення творчасцю беларускага мастака і кампазітара: там праводзяцца выстаўкі ягоных малюнкаў, у канцэртах гучыць ягоная музыка. (Дарэчы, на радзіме Н. Орды, у Варацэвічах на Брэстчыне, намаганнямі мясцовых краязнаўцаў ствараецца музей гэтай выдатнай асобы).

Якім жа вялікім аўтарытэтам быў Н. Орда ў музычнай супольнасці Парыжа, калі ў 1847 годзе яго абралі дырэктарам тамтэйшай Італьянскай оперы — і гэта ў той час, калі ў Парыжы жыў, напрыклад, маэстра Даніцэці! Толькі ў 1856 г. вярнуўся Н. Орда ў Варацэвічы, дзе працаваў хатнім настаўнікам, падарожнічаў па Беларусі, Польшчы, Украіне, Літве. Ён зрабіў больш за тысячу малюнкаў мясцін, звязаных з жыццём вядомых людзей, архітэктурных помнікаў. У 1880 г. ён стаў адным з заснавальнікаў Мінскага музычнага таварыства.

З музычнай культурай Францыі звязана таксама імя беларускага музыканта — піяніста, кампазітара, дырыжора і музыказнаўцы Фларыяна Міладоўскага (1819—1889). Выхаванец аўтарытэтнага мінскага педагога Дамініка Стэфановіча, Міладоўскі з юнацтва канцэртаваў у Мінску, Слуцку, Вільні. У 1836 г. яго запрасіў на пасаду дырыжора сімфанічнага аркестра (адначасова і як настаўніка музыкі для дачок) вядомы меламан і мецэнат граф Бенядзікт Тышкевіч у свой маёнтак Чырвоны Двор. Пад кіраўніцтвам маладога маэстра аркестр ператварыўся ў адзін з лепшых прыватных аркестраў Еўропы. Каб завяршыць музычную адукацыю, Міладоўскі паехаў у Берлін (параіў С. Манюшка, з якім ён пазнаёміўся дзякуючы заняткам у Стэфановіча). Там спатыкнуўся з Ф. Мендэльсонам, ад якога атрымліваў парады па кампазіцыі; пазней, у Францыі, пазнаёміўся з Ф. Шапэнам ды Ф. Лістам. Апошні нават змясціў «Экспромт» Ф. Міладоўскага ў зборніку «Das Pianoforte».

Калі, адгукнуўшыся на запрашэнне С. Манюшкі, Міладоўскі вярнуўся на радзіму, яго аўтарытэт сярод мінскіх аматараў музыкі вельмі ўзрос: «Ён і Манюшка да цяперашняга часу былі ў Літве дзвюма пальмамі ў выпаленай пустэльні,

пад ценем якіх музыка магла знайсці сабе прытулак», — пісаў літаратар і музычны дзеяч А. Валіцкі. Апошнія 30 гадоў свайго жыцця Ф. Міладоўскі выкладаў ігру на фартэпіяна ў Вышэйшай музычнай школе ў Сан-Клеменце (Францыя). Ён — аўтар амаль паўсотні аркестравых, камерных, вакальных, інструментальных твораў, аперэты «Канкурэнты», «Імшы Es-dur», фартэпіяннага трыо, санат, камерных дуэтаў, мініяцюр... Ён з тых музыкантаў-патрыётаў, якія заклалі асновы беларускай культуры, садзейнічалі распаўсюджванню на Беларусі музычнай адукацыі.

АЛЕ НЕ ТОЛЬКІ ў Францыю вядуць шляхі беларускіх музыкантаў. У сярэдзіне XIX ст. Пецярбург быў прызнаным еўрапейскім музычным цэнтрам і прыцягваў музыкантаў адусюль. Згадайма чэхаў Яна Багуміра Прача, Эрнста Ванжуру, Ёзафа Гунке, германцаў — А. Гензельта, братоў Р. і А. Кюндзінгераў, француза Луі Брансэна, бельгійца А. Вьётана, ірландца Джона Філда, італьянцаў А. Тамбурыні і Дж. Грызі. Большасць з іх працавалі на дзяржаўных пасадах, уключаючы прафесарскую дзейнасць у Пецярбургскай кансерваторыі. У XIX ст. у Пецярбурзе існавала і даволі ўплывовае беларускае асяроддзе. У такіх выданнях, як «Незабудка» (рэдактар Ян Баршчэўскі) і «Тыгоднік петэрсбургскі» (рэдактар Рамуальд Падбярэзскі), змяшчаліся агляды мастацкага і музычнага жыцця беларускай зямлі. Таму музычны свет менавіта Пецярбурга выказаў цікавасць беларускім музычным струменем. Тут неаднаразова праходзілі канцэрты С. Манюшкі, дзе аўтар дырыгаваў уласнымі творамі.

Дарэчы, шчырае сяброўства звязвала кампазітара з А. Даргамыжскім і Ц. Кюі. Апошні, вядомы рускі кампазітар, музычны крытык, буйны вучоны ў галіне вайсковай навукі (адзін з заснавальнікаў рускай фартыфікацыйнай школы), нарадзіўся ў Вільні. Менавіта перыяд дзяцінства, паводле сведчання самога Ц. Кюі, стаў надта важным і плённым у яго музычным развіцці. Пра свае заняткі кампазіцыяй з С. Манюшкам ён пісаў: «Магчыма ўявіць сабе маё захапленне: Манюшка з яго кампазітарскім арэолам быў богам у віленскім музычным свеце. З трапятаннем я падыходзіў да дзвярэй ягонай кватэры і цэлымі мінутамі вырашаў: ці дакрануцца да ручкі званка?.. Немагчыма сабе ўявіць захапленне 15-гадовага хлопчыка, які слухаў свой твор у чужым выкананні, ды яшчэ ў выкананні Манюшкі...» Праз Ц. Кюі Манюшка быў знаёмы з дзейнасцю «Магутнай кучкі», Ц. Кюі асабіста прадставіў свайго настаўніка М. Мусаргскаму.

Сяброўскія адносіны паміж С. Манюшкам і А. Даргамыжскім склаліся ў музычных салонах Пецярбурга. Манюшка знаёміў Даргамыжскага са сваімі творамі, прысвяціў яму сімфанічную паэму «Байку» і падарыў партытуру. Даргамыжскі прапагандаваў творчасць Манюшкі: выступіў у друку з артыкулам пра ягоныя творы, на хатніх музычных вечарынах Даргамыжскага выконваліся творы Манюшкі. Безумоўна, пад уплывам зацікаўленасці беларуска-польскай музыкай у пачатку 50-х гадоў Даргамыжскі напісаў раманс «О, милая дева!» на верш А. Міцкевіча. Даргамыжскі рэкамендаваў С. Манюшку М. Глінку. Манюшка лічыў А. Даргамыжскага сваім родным братам у музыцы.

СЯРОД ТЫХ беларускіх музыкантаў, хто доўгі час жыў у Пецярбурзе і меў пэўны ўплыў на развіццё яго музычнай культуры, — Восіп Казлоўскі (1757—1831), які ў 1799—1819 гг. служыў у Дырэкцыі Імператарскіх тэатраў (з 1803 г. — дырэктарам музыкі). Ён — першы настаўнік Міхала Клеафаса Агінскага, які ўсё жыццё з любоўю і павагай ставіўся да свайго настаўніка (на пачатак заняткаў В. Казлоўскаму было толькі 16 гадоў!). Казлоўскі — аўтар паланеза на словы Г. Дзяржавіна «Гром победы, раздавайся», які ўпершыню прагучаў з нагоды ўзяцця крэпасці Ізмаіл і потым шмат гадоў выкарыстоўваўся ў якасці расійскага гімна. Пяру Казлоўскага належаць «Reqiem», «Tedeum laudamus»; музыка для хору, аркестра і салістаў да трагедый У. Озерава «Фінгал», «Эдып у Афінах» і Ф. Княжніна «Уладзісан», шэраг героіка-патрыятычных паланезаў для хору з аркестрам, паланезы для фартэпіяна. Казлоўскі — заснавальнік жанру «расійскай песні» (каля 30), стварыў таксама шэраг італьянскіх і французскіх канцанет. Пасля інсульту ў 1819 г. вярнуўся на радзіму ў горад Прапойск (цяпер Слаўгарад на Магілёўшчыне), дзе да канца дзён кіраваў разам з дачкой-арфісткай хорам і аркестрам графа Мурамцава. Безумоўна, «стрыжнем» праграмы «Адраджэнне беларускай капэлы» можна лічыць выкананне поўнай музыкі В. Казлоўскага да трагедыі У. Озерава «Фінгал» (6 лістапада, Канцэртная зала БДФ).

З Пецярбургам звязана і імя вядомай польскай піяністкі, кампазітара, педагога Марыі Шыманоўскай (1789—1831). Выступала з канцэртамі ў Польшчы, Германіі, Італіі, Англіі, Расіі, тры апошнія гады жыцця правяла ў Пецярбурзе. Яе дом часта наведвалі А. Пушкін, А. Міцкевіч (ён прысвяціў піяністцы адзін з твораў); у музычных вечарынах дома М. Шыманоўскай браў удзел М. Глінка, які высока цаніў яе вакальныя творы «Вілія» і «Песні з вежы» на тэксты А. Міцкевіча і нават уключыў першы з іх у «Лірычны альбом» 1829 г. На вечарынах гаспадыня дома выконвала сваю музыку, а таксама знаёміла сяброў з музыкай М. Кл. Агінскага, якую чула з дзяцінства (уласнае знаёмства М. Шыманоўскай з М. Кл. Агінскім адбылося ў Італіі). Яна — аўтар амаль 20 вакальных, каля 100 інструментальных твораў.

Жыў у Пецярбурзе і Антон Абрамовіч (1811




*Тытульны аркуш першага выдання «поўнай музыкі» В. Казлоўскага да трагедыі «Фінгал» (1808 г.).*




*Вокладка «Паланеза» Ф. Міладоўскага, выдадзенага ў Мінску.*

— пасля 1854). Ён займае ў гісторыі беларускай музыкі асобнае месца. Менавіта ён лічыцца аўтарам першых твораў на нацыянальную тэматыку, які паклаў пачатак шырокаму выкарыстанню беларускага фальклору ў прафесійнай музыцы. Як прыклад — праграмная 8-частковая фартэпіянная сюіта «Беларускае вяселле», у аснове якой — сюжэт вясельнага абраду, што абумовіла выкарыстанне мелодый народных песень і танцаў, інтанацыйных і рытмічных зваротаў, уласцівых беларускаму фальклору. Сярод твораў А. Абрамовіча для фартэпіяна і для голасу — паланезы, вальсы, мазуркі, маршы, апрацоўкі народных песень. Ён — аўтар першых (пасля стагоддзяў забыцця і невыкарыстання беларускай мовы ў музычнай творчасці) рамансаў і песень на беларускія вершы («Дзеванька», «Гарэліца», сл. Я. Баршчэўскага). З 1832 г. А. Абрамовіч жыў у Пецярбурзе, быў вядомы як піяніст-выканаўца і педагог. У 1846 г. абагульніў свой педагагічны вопыт у «Школе ігры на фартэпіяна».

Сям'я польскіх музыкантаў Концкіх была таксама знаная ў Пецярбурзе. Чацвёра братоў і сястра складалі «сям'ю вундэркіндаў», якая гастралявала па гарадах Еўропы. Найбольш вядомы з іх быў Апалінары Концкі (1825—1879). Скрыпач, кампазітар, дырыжор, ён пачаў выступаць у 4-гадовым узросце. У 1833—35 гг., падчас канцэртаў у Вене, атрымаў падарунак аўстрыйскай імператрыцы — скрыпку Страдывары. У 1837—38 гадах гастраляваў у Парыжы, дзе атрымаў высокую ацэнку сваёй ігры ад Г. Берліёза, Дж. Меербера. Сам Н. Паганіні пакінуў А. Концкаму, адпаведна запавету, адну са сваіх скрыпак, а таксама некаторыя рукапісы (у тым ліку «Венецыянскі карнавал»). З 1853 г. А. Концкі — саліст Рускага імператарскага аркестра ў Пецярбурзе. У 1861 г., пакінуўшы Пецярбург, уладкаваўся ў Варшаве, дзе стаў адным з арганізатараў і першым дырэктарам музычнага інстытута (цяпер — Варшаўская кансерваторыя). Ён — аўтар шматлікіх п'ес, транскрыпцый, варыяцый і фантазій. Музыка А. Концкага прадстаўлена ў фестывальнай праграме.

Спадзяюся, гэтая інфармацыя, лімаўскаму чытачу малавядомая, зацікавіць многіх. Дадам, што большасць твораў будзе выконвацца ўпершыню ў гэтым стагоддзі, а вядомыя беларускія музыканты, якія ўдзельнічаюць у фестывалі (Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі з дырыжорам Міхаілам Сінькевічам, Акадэмічная харавая капэла імя Шырмы, Ігар Алоўнікаў, Леў Гарэлік, Рыгор Палішчук, Віктар Скорабагатаў і Ганна Каржанеўская) прывабяць публіку на канцэрты. Дарэчы, яны адбудуцца ў Зале камернай музыкі (3, 4, 5 лістапада) і ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі (6 лістапада).

Сардэчна запрашаем усіх сяброў на IV фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы».

**Наталля СОБАЛЕВА,**
**музычны рэдактар Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання «Беларуская Капэла»**

# ДА ЭМОЦЫЙ ДЫ ІНТЭЛЕКТУ

Праблемы тэатра, які працуе для дзяцей, шчыльна й моцна спалучаныя з жыццёвымі варункамі, — здаецца, гэта не вымагае асаблівых доказаў. Што толькі не ўплывае на тэатр! Што толькі не чэпіцца да нашых дзяцей, што толькі іх не абыходзіць... Як высвятляецца, псіхолаг у тэатры — не назіральнік з боку, але — дарадца рэжысёра, мастака, акцёра. Таму што тэатр і толькі тэатр з усіх найважных для нас мастацтваў яшчэ можа зарыентаваць, ацаніць, суцешыць, выхаваць ці хоць бы даць прыклад... Рэабілітаваць. Таму што мастацтва тэатра ўздзейнічае непасрэдна — перадусім на эмоцыі. Часцей за ўсё — і на інтэлект. Поспех або няпоспех сцэнічнага твора залежыць, акрамя мастацкіх дасканаласцяў, яшчэ і ад ведання тых, каму ён прызначаны, — дзяцей. Гэтаму веданню ў сучасным тэатры мусіць быць аддадзена найпільная ўвага. Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва», якую з 24 па 29 кастрычніка разам з трыенале «Тэатр — дзецям» ладзілі на базе Рэспубліканскага тэатра юнага гледача, якраз і збірала гэтую ўвагу, факусавала яе на самым наспелым, самым набалелым. Напрыклад: на праблемах дзейнасці дзіцячых тэатраў у галіне маральна-псіхалагічнай рэабілітацыі і падтрымкі школьнікаў. Або на прафесійным дзіцячым тэатры як на сродку псіхалагічнай гарманізацыі асобы дзіцяці. А ці можна абмінуць псіхакарэкцыю дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва, альбо асаблівасці мастацка-псіхалагічнай накіраванасці дзіцячага спектакля? Дванаццаць тэм для абмеркавання прапаноўвала канферэнцыя, у якой бралі чынны ўдзел прадстаўнікі Польшчы, Расіі, Украіны, Нямеччыны. Гаспадары-беларусы акрэслівалі тэмы і кірункі. Спецыялісты-псіхолагі, дактары самым сур'ёзным чынам маюць намер супрацоўнічаць з прадстаўнікамі тэатра; сярод іх — псіхолаг з Франкфурта-на-Майне Г. Гудрон, доктар-псіхатэрапеўт В. Гладкевіч, доктар псіхалагічных навук з Мінска Я. Каламінскі і псіхолаг з Кіева Н. Каламінскі, І. Мядзведзева — клінічны псіхолаг і драматург (Масква), прафесар Л. Панько і доктар псіхалагічных навук Л. Рожына, доктар медыцыны І. Хёш... Натуральна, тэарэтычныя даклады і абмеркаванні ўвечары перапынялі спектаклі, — Расійскага акадэмічнага тэатра «Наш гарадок» Б. Уальдэра і «Старадаўнія вадэвілі», трупы «Шнавль» Нацыянальнага тэатра Мангайма «Першае каханне, ці Тое, што мне належыць» Р. Фінке і «Прынцэса Блуджынела» М. Вайтышкі, Беларускага ТЮГа «Пра гэта не гавораць...» і «Тая, якая стварыла цуд» У. Гібсана.

Праграма шчыльная, складаная і адметная. Звернутая, як можна заўважыць, і да эмоцый, і да інтэлекту. «ЛіМ» плануе пазнаёміць сваіх чытачоў з усімі падрабязнасцямі і адметнасцямі трыенале і канферэнцыі ў сваіх бліжэйшых нумарах. І адзначае, што правядзенне такой адмысловай імпрэзы зрабілася магчымым дзякуючы аб'яднаным намаганням Міністэрства культуры і друку, Міністэрства адукацыі і навукі, Беларускага дзіцячага фонду, Мінгарвыканкама, Саюза тэатральных дзеячаў і Рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Пошта

# ШТО ПАКІНЕМ НАШЧАДКАМ?

Даўно мяне хвалюе адна, на маю думку, важная праблема. Доўга чакаў, што на яе звернуць увагу спецыялісты ў галіне архітэктуры, ды тыя, відаць, не лічаць яе сур'ёзнай. Размова пойдзе пра будаўніцтва новых храмаў ці, больш дакладна, пра іх архітэктурна-мастацкае аблічча і нацыянальную адметнасць.

Нашы продкі пакінулі аб сабе добрую памяць. Нават тыя нешматлікія помнікі архітэктуры, якія не знішчылі ліхалецці і наша нядбайнасць, уражваюць разнастайнасцю і прыгажосцю сваіх форм і ў той жа час нейкай асаблівай нацыянальнай адметнасцю. Не трэба быць добрым знаўцам, каб заўважыць розніцу ў абліччы старажытных храмаў Беларусі і, скажам, Закарпацця або паўночнай Расіі, хоць будаўнікі іх, відаць, абапіраліся на адны і тыя ж царкоўныя каноны. Нават познія ардынарныя «мураўёўкі» часам набывалі характэрнае мясцовае аблічча, не кажучы ўжо пра неагатычныя касцёлы, сярод якіх наўрад ці знойдзеш і два аднолькавыя.

Апошнім часам традыцыя ўзвядзення храмаў аднавілася. І дзякуй Богу. Можа, зноў нашы паселішчы займеюць архітэктурныя дамінанты, якімі заўсёды былі храмы. А нашчадкі атрымаюць у спадчыну архітэктурныя помнікі нашага часу, па якіх будуць меркаваць пра наша ўмельства і мастацкі густ.

Ды вось што трывожыць. Ствараецца ўражанне, што будаўніцтва новых храмаў пушчана на поўны самацёк, будуюць, хто як хоча і хто як умее. Вядома, цудоўна было б, калі б такая самадзейнасць садзейнічала з'яўленню разнастайных па сваім абліччы збудаванняў, якія сведчылі б пра творчы падыход мясцовых майстроў, іх жаданне найлепш увасобіць традыцыі мясцовага дойлідства. Ды, на жаль, часцей заўважаюцца іншыя выпадкі: ардынарнае капіраванне ці нятворчае пераймание традыцый іншых народаў, не кажучы ўжо пра звычайную эклектыку ў псеўдарускім стылі.

Год ці два назад у перыядычным друку прайшла нататка са здымкам царквы, узведзенай у Жодзіне. Няма слоў, будынак прыгожы. Але вось якая акалічнасць: ён амаль дакладна паўтарае ўзоры паўночнарускага дойлідства. А каб не ўзнікала сумненняў, у нататцы ясна сказана, што ўзвялі царкву ў паўночнарускіх традыцыях. Цікава, адкуль у мясцовых майстроў такая дасведчанасць у традыцыях аддаленага ад Беларусі рэгіёна? Яўна адчуваецца нейчы асабісты густ (а можа, яго адсутнасць).

Адзінкавы выпадак? Каб жа так. У газеце «Добры вечар» за 12 кастрычніка гэтага года змешчаны артыкул Г. Калевіч «Во имя спасения...». Цалкам падтрымліваю і ўхваляю асноўную ідэю артыкула пра намер узвесці мураваны храм і драўляную капліцу ў Самахвалавічах пад Мінскам. Ды вось малюнкі... Храм, безумоўна, велічны і прыгожы, але,



аказваецца, яго «здание будет походить на Иерусалимскую православную церковь. Таких храмов, кроме Иерусалима, пока нигде нет». Думаецца, іх нідзе няма таму, што нашым продкам было нецікава капіраваць вядомы помнік. Копія — яна і ёсць копія.

Не менш прыгожа выглядае і праект драўлянай капліцы са званіцай. Яшчэ б! За аснову ўзяты славуты помнік паўночнарускага дойлідства — Пакроўская царква ў Кіжах. Праўда, у артыкуле пра гэта не гаворыцца, але ж добра відаць нават не спецыялісту.

І гэта толькі прыклады, якія трапілі ў друк. Думаецца, што іх куды больш.

Дзіўна, што царква з яе парадкам і арганізаванасцю, здаецца, не звяртае ўвагі на гэтую праблему (не дапускаю думкі, што такая практыка ёю ўхваляецца). Ці ёсць які-небудзь нагляд за гэтай архітэктурнай самадзейнасцю? Няма сумнення, што спецыялісты ў галіне нацыянальнай архітэктуры і мастацтва адгукнуліся б на заклік стварыць спецыяльны дарадчы орган (архітэктурна-мастацкую раду) па разглядзе і зацвярджэнні праектаў новых храмаў. Думаецца, гэта было б толькі на агульную карысць.

Магчыма, нехта заўважыць, што не след умешвацца ў справы царквы. Але гэта не той выпадак. Мы жывём на адной зямлі, і нам не ўсё роўна, якія збудаванні яе аздобяць і што будуць думаць пра нас нашчадкі.

**Яўген САХУТА**
*Фота А. МАЦЮША*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# Віншуем! Максіму ЛУЖАНІНУ — 85

«Мая калыска хіснулася ў самым пачатку стагоддзя, і вось дацягнуў да дрэйфу ў смутныя нашы часы, ужо ў набліжэнні новага веку. Такая працягласць, магчыма, прабачальная мне: некаторы час даваліся рукаяцца пад канвоем і з іншымі абмежаваннямі. Таму лішні дзесятак пражытых гадоў — гэта як бы кампенсацыя за забраны час... З сакавіка 1933 года (выйшла апошняя кніга) па сакавік 1943 года (зноў быў дапушчаны ў друк), як бачым, прабегла 10 гадоў. Яшчэ ж столькі прапала ў пошуках заробку, кутка, прапіскі. Уласна літаратурная праца стала магчымай восенню 1956 года, калі добры жаночы голас з пракуратуры паведаміў, што ўсе мае грахі перакрэслены і адкінуты як не сапраўдныя», — так звяртаецца да чытача Максім Лужанін у дзевятым нумары часопіса «Нёман» за сёлетні год, азіраючыся на пройдзены шлях, згадваючы тое, пра што раней не гаварыў. І адначасова дзеліцца, чым жыве як творца сёння: «Закончыў кнігу прозы, але не ведаю, як назваць яе, прапанаваў у друк паэму. Кожны дзень прыносіць радкі ў вершаваны блакнот і нататкі ў вялізнае збудаванне апошніх гадоў «Неспрадкаваная хата»: думкі, замалёўкі, назіранні. І перш-наперш запісы аб тым, што ў майго вялікага народа ёсць вялікая мова, дастойная стаць у шэрагу з мовамі іншых народаў, сцвярджаючы годнасць, духоўнасць, свядомасць нацыі».

Шлях і сапраўды пройдзены вялікі. Ды і мастакоўскія набыткі, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, надзіва значныя. Прытым у самых розных жанрах. Перадусім, канечне, паэзія. Першы верш апублікаваў яшчэ ў 1925 годзе. Выдаў кнігі «Крокі» (1928), «Новая ростань» (1930), «Аднагалосна», «Галасуе вясна за вясну», «Кастрычнікам! Ліпенем! Маем» (усе ў 1931), «Першамайская вуліца» (1932), «Шырокае поле вайны» (1945), «Мовою сэрца» (1955), «Прасторы» (1958), «Росы на коласе» (1973), «Паразмаўляй са мной, зямля» (1983), «Вярнуся за ветрам» (1987) і іншыя.

Важкія набыткі Аляксандра Амвросьевіча і ў галіне прозы. Дарэчы, за кнігу «Колас расказвае пра сябе» ён атрымаў



Літаратурную прэмію БССР імя Якуба Коласа. Вядомы М. Лужанін як публіцыст, дзіцячы пісьменнік, гумарыст і сатырык, перакладчык, кінасцэнарыст.

Віншуем Аляксандра Амвросьевіча з днём нараджэння! Зычым яму яшчэ доўгіх год жыцця!

# ГЭТА БЫЛО СПАТКАННЕ...



Канчаюцца словы, пачынаецца музыка... Пасля музыкі недарэчнымі робяцца словы. Хочацца памаўчаць. Хіба толькі ўздыхнуць напаўголас: «Якая музыка была...». Хіба толькі паўтарыць радок вядомага цютчаўскага верша, які гучаў на пачатку вечара: «Продлись, продлись, очарованье!» Не бачыла-не чула гэткіх аўтарскіх вечароў у Беларускай філармоніі: нібыта дзіўны камерны спектакль, героямі якога былі Музыка, Паэзія ды мастакі-музыканты, артысты, — жыў у вялікай зале, ушанаванай прысутнасцю зусім нешматлікіх, рэдкіх ды рэдкасных, гледачоў. Воддаль ад сцэны, у промні пражэктара, чытаў вершы — трапятліва, пранікнёна — Валеры Анісенка. Голас артыста суправаджала ціхая музыка рояля, за якім, праз рамантычны вэлюм, відаць было жаночы сілуэт. Іграла Галіна Гарэлава, кампазітар, у гонар якой ладзілася гэтая тэатралізаваная вечарына...

Своеасаблівы дуэт Музыкі ды Паэзіі пераменжаўся ансамблевымі і сольнымі выступленнямі камерных выканаўцаў: Анатоля Шчарбакова ды Ларысы Максімавай, Алега Алоўнікава, Андрэя Калядзіча, Якава Гелера, Тацяны Таруцінай ды інш. А каштоўнай акаімоўкай аўтарскай праграмы Г. Гарэлавай сталася віртуознае гранне новага мінскага калектыву канцэртнага агенцтва «Music Art» на чале з маэстра і адмысловым салістам, вядомым беларускім скрыпачом Генрыхам Фуксам.

Спатканне муз, спатканне з музамі. Спатканне... Яго вянчалі кветкі, усмешкі, воплескі. Пра нейкія «шурпатасці» проста не думалася. Тым болей, што гэта, як заўважыла вядучая вечара музыказнаўца Іна Шайхатовіч, была першая спроба філармоніі наладзіць вось такі нетрадыцыйны, тэатралізаваны аўтарскі вечар беларускага кампазітара, вечар, уверцюрай да якога была — чаму б і не? — дасканалая музыка Моцарта...

С. БЕРАСЦЕНЬ

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА

# «УВЕРЦЮРА ДА ПРЭМ'ЕРЫ»

Заўтра, 29 кастрычніка, пасля дзённага выпуску навін выйдзе ў радыёэфір перадача пад такой назвай. Дакладней, ужо другая частка перадачы, якая й сапраўды сталася уверцюрай да будучай радыёпрэм'еры.

Заўтра вы сустрэнецеся з тымі, хто мае непасрэднае дачыненне да вяртання, адраджэння, новага жыцця камічнай оперы Яна Давіда Голанда «Агатка». Пра гэты музычны феномен Радзівілавага Нясвіжа «ЛіМ» неадноўчы пісаў і, пэўна ж, напіша яшчэ. А грунтоўнай для таго падставай будзе найперш сама прэм'ера «Агаткі» — прэм'ера праз 210 гадоў. Праўда, не на сапраўднай сцэне, а на ўмоўнай, на радыёсцэне. Прэм'еры папярэднічала, як вядома, праца многіх: і даследчыцы В. Дадзіёмавай, якая прывезла ноты на Беларусь — з польскіх сховаў; і літаратара У. Мархеля, які пераклаў на беларускую лібрэта «Агаткі», напісанае Мацеем Радзівілам; і музыкантаў сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі з маэстра А. Лапуновым; і саліставу-спевакоў Л. Лют, В. Скорабагатава, Р. Палішчука, Н. Галеевай, М. Жылюка, В. Кавальчука ды музычнага кіраўніка Г. Каржанеўскай; і гукарэжысёра Э. Мартэнса, які ажыццявіў запіс оперы ў радыёстудыі.

Такім чынам, занатуйце для сябе дату прэм'еры музычнага спектакля паводле оперы Я. Д. Голанда «Агатка»: 2 лістапада, 13.00, першая праграма радыё. Сцэнарый Л. Мітаковіч, рэжысёр Ю. Аўяр'янаў (ён жа выканае ролю Мацея Радзівіла), у размоўных сцэнах заняты артысты мінскіх тэатраў.

Н. К.

# СУМНЫЯ ФАРБЫ БАТАНІЧНАГА...

*(Пачатак на стар. 5)*

чова. А той сказаў: давай, працуй, вырошчвай! І закруціліся! За тры гады была зроблена серыя машын, цэлы камплект, які забяспечваў тэхналогію цалкам — ад пасадкі да ўборкі ўраджаю. Усяго за тры гады! А ў нас, у Беларусі, бульбаўборачны камбайн 20 гадоў рабілі, ды, здаецца, так да канцыы яго не давялі. Дык вось. Сёння журавіны ў нас — валютная культура. Адзін кілаграм іх каштуе да 40 тысяч рублёў. Іх за валюту з ахвотай купляюць Германія, Італія, Польшча, іншыя краіны. На Палессі ў нас журавінамі займаюцца ўжо пятнаццаць гаспадарак, некаторыя з іх аддалі пад журавіннік плантацыі па паўсотні гектараў. Журавіны, можна сказаць, сёння нашае нацыянальнае багацце. Мы — адзіная з краін СНД, якая займаецца іх вырошчваннем. Дарэчы, забыўся сказаць ці не самае галоўнае. Буйнаплодныя журавіны здзіўляюць не толькі сваёй ураджайнасцю. Яшчэ важней тое, што выхад аскарбінавай кіслаты ў іх не ўступае балотным.

Хачу запыніць увагу і на так званых буяках высокіх. Кусты іх — ад паўтары да двух метраў вышынёю, тэхналогія вырошчвання менш складаная. А між тым, гэтая культура больш чым якая іншая выводзіць з арганізма чалавека розныя шлакі, найперш цяжкія металы, ачышчае кроў. Наколькі карысны буякоры сок, сведчыць такі, мо крыху і кур'ёзны, факт. Мо чулі? Адно з перадвыбарчых абяцанняў кандыдата ў прэзідэнты ЗША Буша гучала так — калі я стану гаспадаром Белага дома, кожнае дзіця будзе штодня атрымліваць шклянку буяковага соку.

Ну а вострадухмяныя расліны? Мы іх куплялі за мяжою, плацілі валютай, а тым часам у нас дастаткова ўласных, якія па сваіх спецыфічных, біялагічных, тэхналагічных якасцях не саступаюць замежнай сыравіне.

**— Яўген Антонавіч, карціць спытаць вас і пра кветкі, якія заўсёды гэтак моцна вабяць людзей да вас, у Батанічны сад.**

— Сапраўды, летам Батанічны сад наведваюць тысячы людзей. І ідуць яны да нас без асаблівых запросін — душа просіць спачыну, адхлання, бо цяжка ёй у сённяшніх скрутных варунках. А што расказаць пра нашы кветкі, дык і не ведаю, губляюся, з чаго і як пачаць. Адных толькі цюльпанаў — 400—500 гатункаў. Гэта і цешыць, радуе, але ж гэта — і велізарны клопат. Не хапае людзей. Усё ж трэба рабіць уручную — прапалоць, назіраць за іх ростам і развіццём, своечасова выкапаць, рассартаваць. Даць навуковаму супрацоўніку ў падмогу рабочага не заўсёды маем магчымасць, бо — няма сродкаў. Тое ж самае — нарцысы: у нас іх таксама 500 гатункаў. А кожны гатунак — гэта розныя патрабаванні, гэта цяжкая, знясільваючая праца. Прыгажосць — яна і праўда вымагае працы. Гладыёлусаў — таксама ад 200 да 400 гатункаў і г. д.

Раней, да распаду СССР, наш Батанічны сад быў базавай гаспадаркай, ад нас атрымлівалі пасадачны матэрыял ці не ўсе былыя рэспублікі...

**— А якія сувязі, дарэчы, сёння ў вас з калегамі ў былых савецкіх рэспубліках?**

— Сувязі, можна сказаць, не парушыліся. Супрацоўнічаем з батанічнымі садамі краін Прыбалтыкі, Украіны, Расіі... Не можам мы жыць у замкнёнай прасторы. Як ні цяжка, а ўмудраемся нават ладзіць сяды-тады экспедыцыі. Бо як жа інакш? Інакш навука памрэ. Але, паўтаруся, усё робіцца з вялікімі цяжкасцямі.

**— Восень на дварэ, які ў вас цяпер найперш клопат?**

— Найперш клопат — як выжыць, не загінуць. Рыхтуемся, як я ўжо казаў, да зімы. Катастрафічна не хапае сродкаў. Мільёны рублёў трэба толькі на тое, каб захаваць інфраструктуру саду — гэта значыць, на ацяпленне, асвятленне, ваду (зараз яна для нас ледзь не стратэгічны тавар) і ахову. Ахова гэтая самая, так званая пазаведамасная — таксама не адзін дзесятак мільёнаў рублёў каштуе. Ды без яе — нельга, усё разнясуць, разрабуюць. Не толькі ноччу, але і днём. Быў выпадак: пад'ехалі днём на машыне і пачалі разбіраць цагляную сцяну — нікому, ці бачыце, спатрэбілася на камін цэгла...

Грошы, грошы, грошы — як у той песні... Мы рэалізуем пасадачны матэрыял. Спецыяльна на гэта працуюць людзі, каб неяк утрымацца на плыву. У нас ёсць свае магазіны, шапікі — прадаём гэты самы матэрыял дзе толькі можна. Даводзіцца адрываць супрацоўнікаў ад асноўнай работы і прымушаць займацца заробкай грошай. Дзяржаўных датацый катастрафічна не хапае. За дзевяць месяцаў зарабілі недзе з паўсотні мільёнаў рублёў. А трэба ж плаціць зарплату людзям, купляць угнаенні, арганіку, гербіцыды... Вось зараз, каб укрыць калекцыі, нам трэба дваццаць машын яловага лапніку. А адна машына на 8 гадзін працы каштуе 36 тысяч рублёў — калі заказаць яе на аўтабазе. Дзе іх узяць, гэтыя грошы? Круцімся, як можам. Выкарыстоўваем іншы матэрыял, выпрошваем пілавінне на домабудаўнічых камбінатах... Неадкладна патрэбны вялізныя плошчы плёначных пакрыццяў, а плёнка сёння, тым больш шкло, каштуе тыя ж мільёны... Прадаём цытрусавыя — лімоны, апельсіны. Плады і ўкараненыя чаранкі. Прадаём іншыя расліны — пальмы, сукуленты. Багатыя людзі купляюць — у офісы, кватэры, асабнякі...

**— «Сакраментальнае» пытанне — якія заробкі ў вашых супрацоўнікаў, калі не сакрэт?**

— Які тут сакрэт! Доктар навук, загадчык лабараторыі з вялікім стажам работы атрымлівае 82 тысячы рублёў. А дзяўчына, якая сядзіць у гарадскім шапіку і прадае рознае шмоцце, мае 150—200 тысяч. На вялікі жаль, навука ў нас сёння ў загоне, фінансуецца па даўнім рэштквым прынцыпе...

Гаварылі мы з Яўгенам Антонавічам не ў кабінеце — прынамсі, не толькі ў кабінеце. Свой аповяд ён суправаджаў, так бы мовіць, экскурсіяй па батанічнасадаўскай гаспадарцы. Паказваючы мне аб'ект за аб'ектам, ён што раз нагадваў:

— Уся наша праца скіравана на тое, каб расліна, вырашчаная ў Батанічным садзе, працавала на чалавека. Усё роўна дзе, у калгасе, саўгасе, на полі ў фермера ці на дачным участку. Сёння, беручы пад увагу нашы абмежаваныя магчымасці, мы ўзялі ў рабоце больш практычны накірунак: працуем з раслінамі, якія маюць фундаментальнае і практычнае значэнне, даём ім зялёную вуліцу, а тыя расліны, якія могуць пачакаць, мы кансервуем, а людзей арыентуем на іншыя накірункі.

І яшчэ Яўген Антонавіч падкрэсліваў неадназрова:

— У нас добры калектыў. Падабраліся людзі, улюбёныя ў справу, сапраўдныя энтузіясты і самаахвярнікі.

На развітанне мой суразмоўца, быццам падсумоўваючы нашу гаворку, сказаў:

— І яшчэ — пра пытанні экалогіі. Мы над імі, вядома ж, таксама працуем. Скажам, над пытаннямі аховы навакольнага асяроддзя ад выкідаў цяжкіх металаў, вокісаў азоту і г. д. Арганізм чалавека і расліны — не ашукаеш. І там, і тут да пары, як кажуць, збан ваду носіць. Вучоныя распрацавалі метад фітаіндыкацыі. Напрыклад, хвойная расліна мае ўласцівасць збіраць у сабе пэўную колькасць металаў, да пэўнай мяжы. Як толькі гэтая мяжа ці парог перавышаны, расліна пачынае скідваць хвою і паступова гіне. Раней лічылі: вось пабудавалі завод, дрэвы вакол растуць — значыць, усё нармальна, нічога страшнага не адбываецца. Але глядзіш — праз нейкіх пяць гадоў дрэвы сохлі, а пасля і пасохлі зусім. Каб загадзя вызначыць рэакцыю раслін на заводскія і іншыя выкіды, распрацаваны спецыяльны метад. Па Беларусі ёсць 450 стацыянарных кропак, адкуль штомесяц бярэцца хімічны аналіз на ўтрыманне ў дрэвах і раслінах цяжкіх металаў. У выніку мы складаем картаграфічны матэрыял, звяртаемся з ім у міністэрствы і ведамствы, ставім іх перад фактамі, падказваем, што і як рабіць, каб пазбегнуць нежаданых вынікаў...

А вакол пад промнямі ўжо не надта ласкавага кастрычніцкага сонца ціха і мудра драмалі кранутыя пазалотаю дрэвы. Драмаў увесь сад. Батанічны сад. Можа, нават, не драмаў, а стаяў у ціхім восеньскім одуме. І падалося — можа быць, пад уражаннем пачутага ад Яўгена Антонавіча Сідаровіча, — што одум гэты сёлета глыбейшы, чым раней, што яркія восеньскія фарбы Батанічнага маюць нейкае сумнае, журботнае адценне...

Марыя ГІЛЕВІЧ

Тэатр

# ТОЛЬКІ ПРЫБРАЦЬ ЛІШНЯЕ

## З НАГОДЫ НЕКАЛЬКІХ ЗАМЕЖНЫХ СПЕКТАКЛЯЎ У МІНСКУ

Тры буйнейшыя тэатральныя дзяржавы прадставіліся нашым гледачам увесну і ўвосень: Францыя — Бруна Абрахамам Крэмерам; Італія — Марчэла Баніні Оласам; Германія — рэжысёрам Раберта Чулі і ягоным Тэатрам на Руры з Мюльхайма, у красавіку да паказу Крэмеравага «Галема», акрамя пасольства Францыі, спрычынілася і пасольства Ізраіля; у ліпені партнёрам італьянскага «Мужчыны з кветкаю ў роце» паводле Л. Пірандэлы выступіў Асвальда Лявуцы, радца пасольства Італіі па пытаннях культуры; хваляванні дырэктара Інстытута Гётэ Веры Багальянц, а менавіта яна спрыяла Тэатру на Руры трапіць у Мінск, можна было падзяляць два вечары запар — 26 і 27 верасня.

Прымалі гасцей шчыра, добразычліва, даверліва, — паводле нашых традыцый. Не бачу прычыны, каб адкаснуцца традыцый і ацэньваючы тое, што прывезлі. Перадусім павядзе рэй наша славутая патрабавальнасць да ўзроўню мастацкіх праяў. Іх, безумоўна, аб'яднала добрая воля выканаўцаў і, па ўсім відаць, жаданне сцвердзіцца перад свежай аўдыторыяй, — з аднаго боку. З другога боку — гэткая ж безумоўная эстэтычная выпетранасць, ідэйная выпрацаванасць (вядома, я маю на ўвазе мастацкую ідэю), а то і другаснасць. І рэжысёрскіх пабудоў, і акцёрскага ўвасаблення.

Французскі ды італьянскі спектаклі ўжо прыцьмелі за часам, амаль сцерліся. І, тым не менш, уявім невялікую каржакаватую паставу французскага выканаўцы, тэкставую плынь ягонага спектакля, колькі рэчаў рэквізіту для паказу гісторыі пра Галема, асілка з гліны, якога стварылі, каб той аберагаў кагал. Галем, аднак, хутка асвойтаўся са сваёю магутнасцю, паканфліктаваў, павадзіўся са стваральнікам, а потым папрасіў у яго душу.

Монаспектакль, чыё ўздзеянне грунтавалася на тэксце і амаль толькі на тэксце, чые падзеі не перасякалі тэкставых межаў, чыя дзея, слушна спавядаючы наіўную інтанацыю расповяду, прадставіла надта кволае намаганне акцёра выявіць сваіх персанажаў, а дзеянне так і не зрушылася з месца (на нашых сцэнах няскратнасць дзеяння лічыцца вялікаю заганаю), — ці ж моцна такі спектакль адбіўся ў эмацыйнай памяці гледачоў?

Доўга размаўлялі і ў італьянскім спектаклі (маналог з Чэхава, прачытаны напрыканцы вечарыны, натуральна, спектаклем лічыць не будзем). Пры гэтым пакідаў спадзяванне шаноўны ўзрост акцёра: штошто, а нешараговасць, адметнасць, спраўнасць прафесійнага майстэрства ацаніць выпадзе! Не выпала.

Два спектаклі Тэатра на Руры, паводле іхняга стваральніка, сп. Чулі, былі вельмі й завельмі далёкія ад класічных вытлумачэнняў Горкага і Шэкспіра. Прасцей было б заўважыць, што яны далёкія як ад Горкага, так і ад Шэкспіра. Ён, рэжысёр, звярнуўшыся да класікаў, перабіў свой адметны некласічны шлях... Куды?

Я перапытваю гэта без раздражнёнай іроніі. Хапіла іроніі самога лёсу. Там сама, дзе два вечары запар агаломшаная публіка напіналася сысціся вочы ў вочы з героямі Горкага да Шэкспіра, — у Рускім тэатры Беларусі, — ёй куды раней выпалі хвіліны ўзрушанага паразумення з імі, героямі Горкага ды Шэкспіра. Паміж іншым — героямі «Дна» ды «Макбэта». Але ж ад спектакляў Б. Луцэнкі і А. Каца, якія памятаюць ці не самаю спагадліваю, самаю ўдзячнаю памяццю, можна сягаць аж да самога Кумельскага... Ад іх, спектакляў, дальбог, авангардных! Перадусім — шматстайнасцю паваротак і такою сучаснаю гульнёю адвечных думак, трактаваннем персанажаў, беззаганнасцю іх сцэнічных дачыненняў, метафарычнасцю, акцёрскімі работамі...

Авангардызм спектакля «На дне», паводле сп. Чулі, засяроджаны на празрыстай выгарадцы, якая па дыяганалі падзяляла сцэну. Сцяна (берлінская?) між светам заможных і незаможных. Заможныя (адпаведна, Кастылёў, Васіліса Карпаўна, Наташа) — у цёплым святле. У празрыстых, абрысамі ды фасонамі нагадваючы пра манернае стагоддзе, строях. Прыгожа гуляюць. Прыгожа радуюцца пад дуплістым яблыневым дрэвам (крыху пазней ніхто не адважыцца пакаштаваць садавіну спазнання з ягоных галінак). Гучыць то Вівальдзі, то нехта, не менш значны ды ўлюбёны. Час-почас у сцяне адчыняецца непразрыстая брамка і заможныя ўпырхваюць у начлежку, у свой чалавечы заапарк, як напісана ў аб'ёмнай падрабязнай праграмцы-тлумачальніку. Заапарк у сініх пакамячаных робах п'е з каністры і па сігналу падтрымлівае празрыстасць сцяны (бессэнсоўнасць працы?), працiраючы яе рукавамі...

Добра, аднак, што я не прамінула праграмку. Трыо Кастылёвых уяўляла сабою... штучныя чалавечыя ўтварэнні! Штучныя злоснікі-багацеі, якія за грошы даўно перамаглі хваробы і смерць, і тут во, на сцэне, седзячы на кукішках маляўнічаю купкаю, уважліва назіралі, як памірае Ганна... Ага! А як па паводзінах, па ўчынках, дык — шараговая распуста, сапсаванцы-вычваранцы, блытанікі жаночага і мужчынскага. Стварэнні, што паспяхова пазбыліся сутнасці, прыцягальнасці, прыроднай уладарнасці полу. За ўласную маю правінцыйную неабазнанасць часам трохі й сорамна было, калі ўсім дзівосам на сцэне не тое што рады — назвы даць не магла. Мацней бянтэжыла іншае. Толькі па рэпліках ледзь вызначыла, хто там, сярод насельнікаў у пакамячаных робах, ёсць Сацін, хто — Барон, а хто — Бубноў... Няможна было прамінуць з'яўленне Лукі, і актрысу, што выконвала ягоную ролю, заўважылі ўсе. Чаму актрысу? Праз патаемнае рэжысёрскае вырашэнне. Яно, вырашэнне, мусіць у чарговы раз вінаваціць або бэсціць заможнікаў з-за сцяны. Пакуль незаможныя не ўздымуцца, не забунтуюць, не пакусаюць заможных... Паперакусваюць нешта, з-за чаго гэтыя штучнікі сканаюць. А самі ідуць баляваць за сцяну і піць шампанскае бутэлькамі, і яблыкамі не закусваць. Яны больш прызвычаеныя есці... Ганну, з якой пасля сканання заможнікі дастаюць сэрца і носяць яго ў празрыстым слоіку, а кавалкі нябожчыцы кашлуюць усім гамузам, як сатаністы. Нечага ў гэтых скрутах не вытрымлівае Акцёр. Эфектна агаляецца, звівае сабе пятлю з адзежы і душыцца. З-за дрэва з аголеным трупам хутка з'яўляецца Лука, але ён ужо не ён, а яна, актрыса-вядучая з мікрафонам, бо наспеў час Горкаму перакінуцца ў Брэхта («Выключэнне і правіла» заняло частку другога акта). Акцёры ажывіліся. Зала таксама ажывілася: аванга-ард.

Прэм'ера спектакля, які так стаміў супрацьстаяннем заможнасці і незаможнасці, багацця й галечы, прыпала на 1992 год. Агульным месцам у разуменні і супрацьпастаўленні названага зрабіўся для нас год 1917. Наш нацыянальны досвед ужо прагне філасофскіх вытлумачэнняў і ўсё яшчэ дэмакратычных выпраўленняў становішча. Спектакль, які не дапінае да глыбіннага сэнсу супрацьстаяння, перш-наперш пазбаўлены разумнага... дзеяння. Мо яно перапыняецца сцяною? Але ж і сцяна не выдае на метафару...





«Макбэт» (ягоную прэм'еру Тэатр на Руры адзначаў у 1993 годзе) распавядаў пра побытавы ўціск асобы, пра дробную зайздрасць і вялікія наступствы яе праяў. Тры кабеты, тры спадарыні, тры ведзьмы чакаюць на авансцэне, пакуль сцішыцца зала. З побытавай балбатні вылузваецца іхняе прадказанне Макбэта. Яны адметна з'явіліся Макбэту ўжо як вядзьмаркі, — дасціпны рэжысёрскі ход. Яны па чарзе пераўтвараліся ў лэдзі Макбэт. Банка, Макдуф і Макбэт насілі галіфэ, боты і мундзіры. Дункан выходзіў у капелюшы і бездакорным гарнітуры. Адказваючы на прыхільнасць лэдзі Макбэт, ён задзіраў ёй спадніцу на вачах у мужа. Малькольм, сын Дункана, трактаваўся паненкаю. Першы забойца, — першая забойца, — працягвала Макбэту якійсьці плоцевы кавалак, — Макбэт яго каштаваў і ўзнагароджваў забойцу сваёю блізкасцю. Скрываўлены голы Дункан, трываючы сцэнічныя скразнякі, хадзіў па авансцэне і сядзеў на троне. Жанчыны спектакля, няблага адзетыя, не давалі забыцца, што пад адзеннем яны — голыя. Праявы полу, аднак, выдавалі ці то на механічныя, ці то на дзяжурныя. Праз бясполасць, механічнасць, немаштабнасць персанажаў мізарнелі звады і злачынствы, пакаранні і выракі. Рэй вяла ўсеагульная жорсткасць: пацалавацца не хацелі без болю. Пры гэтым з-пад увагі выпускалася тое, што жорсткасці ўяўныя, абазначаныя, пададзеныя замахам рукі або нялітасцівым хітаннем галавы, уражваюць мацней. Над чырванню фарбы-крыві (ёю напераменкі пэцкаліся амаль усе) паўставаў дакляраваны прывід эстэтыкі Антанена Арто, ягонага тэатра жорсткасці. У сп. Чулі жорсткасць не была ўмоўнаю пазначкаю асаблівасцяў метадалагічнай працы над ролямі, працы рэпетыцыйнай, што толькі папярэднічае самому спектаклю.

Макбэта сыграў Фрыц Шэдзіві, змушаючы час-почас і слухаць тэкст першакрыніцы. Праўда, праграмкі абодвух нямецкіх спектакляў указваюць на інсцэніроўшчыка пры драматургу. Мабыць, інсцэніроўшчыку і належыць усё тэкставае асучасніванне: цытаванне філасафаў і пісьменнікаў, а нароўні — кубачак кавы, які лэдзі Макбэт прапануе пасля забойства, і да т. п. Магчыма, у нямецкім абыходку гэткая кава з філасофіяй — з'ява шараговая, і значыць не больш чым прыстасоўванне твора да пэўнай сцэны і патрэбаў трупы. Але ж домспектакль, неабачліва давераны нетрываласці канцэптуальнага падмурку, можа абрынуцца ў любы момант, — так, што будаўнікі не выберуцца з-пад руіны. А з класікаю вадзіцца небяспечна. «Радыкальна перапрацаваная, інсцэніроўка Шэкспіра абрастае фрагментамі-чужаніцамі, — біблейскімі і паэтычнымі, натуразнаўчымі і прароцкімі, — і ператвараецца ў амаль міфічную асацыятыўную прастору. Такім чынам, дзейныя асобы ў аснове сваёй робяцца нібыта кантэляцыямі-правобразамі, сама гісторыя набывае абрысы не як паслядоўнасць розных ступеняў свядомасці, а як непазбежны згустак сілы, калі любая думка пра асвету можа толькі выклікаць усмешку», — тлумачыць сп. Чулі.

Тэарэтычна — варты спектакль! Варты і сур'ёзны, сур'ёзны і варты! Толькі... зашмат любых думак. І чырвонае фарбы. За імі, як за маляванымі парканамі, як за празрыстаю нямытаю сцяною, хаваюцца думкі не любыя, а тыя, з якімі самі драматургічныя творы перадолелі зменлівасць часу і аднолькасць прасторы. Зашмат фрагментаў-чужаніц...

Другі акт «Макбэта», дзе Фрыцу Шэдзіві, нарэшце, собіла засяродзіцца на тэксце і думках аўтара-драматурга, а з іх дапамогаю бясспрэчна выявіць і свае акцёрскія здатнасці, давёў несумненную вартасць спектакля: пра жорсткасць, помсту, уціск, гвалт, кроў і непазбежныя згусткі сілы лепш распавядаць без — жорсткасці, помсты і ўсяго пералічанага. Бо іх дэманстраванне адцягвае ад асэнсавання. Бо з намерам (слушным) спраўдзіць тэатр будучыні застаешся, у лепшым выпадку, малодшым паслядоўнікам Шэкспіра. І Шэкспіру, калі ён з'явіцца, перш-наперш давядзецца прыбіраць усё лішняе.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках: сцэны са спектакляў «На дне» паводле Максіма Горкага і «Макбэт» паводле У. Шэкспіра.*

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

# ЗАПРАШАЕ НОВЫ ЦЭНТР

Адкрыты ў верасні Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр паклікаў журналістаў для знаёмства і дэманстрацыі сваіх магчымасцей. Паказваць, скажам прама, было што: сучасная зала з сістэмай сінхроннага перакладу, памяшканні для заняткаў, гасцявы клуб, камфартабельныя гасцінічныя нумары, утульны рэстаран... Сцены аздоблены мастацкімі работамі мінскай авангарднай суполкі «Няміга». Уражвае і сам будынак, спраектаваны нямецкім архітэктарам па малюнку знакамітага Малевіча.

Тут па-сутнасці суіснуюць тры прадпрыемствы пад адным дахам: адукацыйны цэнтр, гасцінічны комплекс, рэстаран. Задача адукацыйнага цэнтра — не толькі навучанне дарослых і дзяцей дзелавой англійскай і нямецкай мовам (разам з дзелавым мысленнем), але і распрацоўка канцэпцыі эканамічнага развіцця рэспублікі. Невыпадкова адзін з першых дакладаў мае назву «Шлях Беларусі ў сусветную эканоміку», а падрыхтавалі яго відныя нямецкія навукоўцы.

Дырэктар з нямецкага боку Петэр Юнге-Вентруп назваў асноўныя накірункі дзейнасці міжнароднага цэнтра: эканамічная каапераацыя, палітыка, гісторыя, маладзёжны абмен, экалагічная работа, супрацоўніцтва канфесій. Установа, такім чынам, будзе спрыяць прагрэсу і актывізацыі партнёрскіх сувязей паміж Германіяй і Беларуссю. Жадаючым — як замежным грамадзянам, так і беларускім — будуць прадастаўлены ўсе ўмовы для правядзення семінараў і кангрэсаў, перакладчыцкія і транспартныя паслугі, атрыманне візаў, бібліятэка, відэаапаратура і інш.

«Наша арганізацыя — не ўрадавая, — падкрэсліў П. Юнге-Вентруп. — Няхай тут пануе свабодны дух супольніцтва і ўзаемаразумення. Гэты дом павінен напоўніцца жыццём».

Дырэктар і рэферэнт А. Шаўчук адказалі на пытанні прысутных прадстаўнікоў прэсы, а ў канцы пазнаёмілі гасцей з «інтэрнацыянальнай брыгадай» рэстараннай кухні і... з самой кухняй (для паўнаты ўражання, напэўна).

Сумеснае дзіця нямецка-беларускай дзелавой ініцыятывы шырока расчыняе дзверы і кажа: «Калі ласка!»

Для тых, хто зацікавіўся, паведамляем адрас: 220116 Мінск, пр. газеты «Праўда», 11 (раён Паўднёвага Захаду). Т: 70-39-94.

**НАШ КАР.**

Адгалоскі

# САПРАЎДЫ, БЕЛАРУСЬ — ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ РУСЬ...

## ГІСТАРЫЧНАЕ «ВЫМЯРЭННЕ» НАШАЙ ЭТНІЧНАЙ ПРАСТОРЫ

Мой шаноўны апанент Анатоль Любанскі (гл. ягоны артыкул «Беларусь — гэта ўсё-такі не Расія» ў N 32 за 12.VIII.1994 года) яўна памыляецца, калі сцвярджае, што ў замацаванні назвы **Белая Русь** за ўсходняй часткай тэрыторыі нашай краіны зацікаўлены акупацыйныя ўлады Масковіі. Не буду паўтараць тое, што ўжо было сказана мной пра паходжанне і гісторыю назвы **Белая Русь** у публікацыях апошняга часу (гл., напрыклад, кнігу: Рогалев А. Ф. Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории). Гомель, 1993; а таксама артыкул «Всадник белый в красном поле...» ў часопісе «Беларуская думка», N 8 за 1994 год). Але задам усё ж такі адно пытанне для роздуму А. Любанскаму і ўсім яго аднадумцам, якія сумняваюцца ў тым, што назва **Беларусь** жыве ўжо дзесяць стагоддзяў. Навошта ж спатрэбілася цару-гасудару Мікалаю Першаму ўказам ад 18 ліпеня 1840 года забараняць ужыванне наймення **Беларусь**, дарэчы, разам з назвай **Літва**?..

Ва ўсім астатнім А. Любанскі цалкам мае рацыю: і ў тым, што «Літва — такое ж блізкае і такое ж дарагое нам найменне, як і назва Беларусь»; і ў тым, што А. Рогалеву хацелася б, каб працэс беларусізацыі школы, у прыватнасці, ішоў павольна (у маім разуменні — абдумана, без «кавалерыйскіх наскокаў» і без глупых лічбавых справаздач, ад чаго пакутуюць перш за ўсё дзеці), і ў тым, што некаторыя мае публікацыі не пазбаўлены памылак і тэндэнцыйнасці.

Не памыляецца той, хто нічога не робіць, але ж папракаць у памылках трэба тых, хто не жадае іх бачыць і выпраўляць. Што ж датычыць тэндэнцыйнасці, то яшчэ англійскі філосаф і літаратар канца XIX — пачатку XX стагоддзя Г. Чэстэртан выказаўся аб гэтым так: «Гісторыі няма, ёсць гісторыкі...» Нават у так званых першакрыніцах (напрыклад, старажытных летапісах ці заўвагах і нататках падарожнікаў, відавочцаў ці сучаснікаў тых ці іншых падзей) тэндэнцыйнасці не менш, чым у навуковых працах новага часу, у якіх фрагменты першакрыніц выкарыстоўваюцца як доказ адпаведных думак. Думкі і меркаванні самога А. Любанскага такія ж тэндэнцыйныя, як і высновы А. Рогалева.

Але ж ёсць, як кажуць, тэндэнцыйнасць і... тэндэнцыйнасць. З аднаго боку — тэндэнцыйнасць штучная, наўмысная, заказная, злосная і шкодная. З іншага боку — тэндэнцыйнасць арганічная, якая вынікае з самой «сутнасці» даследчыка як прадстаўніка пэўнага палітычнага, сацыяльнага і этнічнага асяроддзя (абсалютна «чыстых», незалежных даследчыкаў, як і пісьменнікаў, мастакоў і г. д., ніколі не было і не будзе; больш таго, мастацкія творы, напрыклад, пазбаўленыя суб'ектывізму, аўтарскага погляду на рэчаіснасць, увогуле нецікавыя; таксама і навуковыя распрацоўкі, у якіх няма пазіцыі, нічога, акрамя абыякавасці, не выклікаюць). «Арганічная тэндэнцыйнасць», такім чынам, зададзена спосабам мыслення, светаўспрыманнем пэўнага аўтара. Па-руску, «тенденциозность» — это «пристрастность». Што ж у гэтым дрэннага?..

У апошнія гады ў беларускай гістарычнай навуцы і публіцыстыцы якраз і сутыкнуліся менавіта такія «арганічныя тэндэнцыйнасці», прычым, сацыяльная падаснова ў іх сцёртая, бо ўсе, хто піша, — гэта ўласнікі інтэлекту, адна сацыяльная група. Супрацьлеглыя думкі гісторыкаў і публіцыстаў па пытаннях этнічнай і моўнай гісторыі беларусаў афарбаваны пераважна ў этна-палітычныя «таны». Гэта азначае, што прадстаўнікі пэўнай палітычнай плыні выражаюць адначасова і адпаведныя псіхолага-генетычныя (этнічныя) памкненні (толькі, аднак, у выпадках «аб'ектыўнай», а не «штучнай» тэндэнцыйнасці!).

Так было на нашай зямлі заўсёды. Гарбачоўская ж «перабудова», ліквідацыя СССР і набыты суверэнітэт толькі вярнулі, адрадзілі своеасаблівую «біпалярнасць» духоўнага, інтэлектуальнага жыцця, грамадскай думкі на Беларусі. Аналагічная з'ява назіраецца ва ўсёй Усходняй Славіі ў цэлым, хаця ў Расіі, у адрозненне ад Беларусі і Украіны, «біпалярнасць» светапогляду мае не этна-палітычныя, а толькі ідэйна-палітычныя карані.

Нічога дзіўнага і незвычайнага тут няма, бо ўсходнеславянскі свет — гэта цывілізацыя паміж Еўропай і Азіяй, але ж і **не Еўропа** і **не Азія**, а **Еўразія**. Спрадвечныя і бясконцыя спрэчкі «заходнікаў» і «славянафілаў» добра адлюстроўваюць і гэтую інтэлектуальную біпалярнасць, і, зрэшты, саму еўразійскую сутнасць Расіі, якая застаецца Расіяй-Еўразіяй (і застанецца надалей!), нягледзячы на ўсе самыя драматычныя павароты ў яе гісторыі. На Беларусі (як і на Украіне) «прыцягненне» розных полюсаў у мінулым мела больш рэльефныя выявы; чым звычайныя інтэлектуальныя спрэчкі, бо Беларусь (і Украіна, хоць і трохі ў меншай ступені) уяўляе сабой самае пагранічча дзвюх несумяшчальных па свайму менталітэту, спрадвечна варожых суперэтнічных цэласнасцей.

Беларусь непазбежна, аб'ектыўна «прарасла» адным сваім бокам у заходні свет, а другім — ва ўсходні. Вось чаму «чырвонай ніткай» праходзіць па ўсёй старадаўняй беларускай гісторыі проціборства прарускай, праваслаўнай і каталіцкай, праеўрапейскай (якая арыентавалася на Захад, на Еўропу) «партый», прычым, гэтыя «партыі» — не проста ідэйныя плыні ці палітычныя групоўкі, паколькі іх існаванне прадвызначана этнічнай неаднароднасцю беларускай народнасці і нацыі (народнасць і нацыя ў нашым разуменні з'яўляюцца сацыяльным «арганізмам», этнасы ж — гэта прыродныя, псіхолага-генетычныя з'явы, вось чаму народнасць, нацыя ўяўляюць сабой тэрытарыяльна-дзяржаўную супольнасць грамадзян, прадстаўнікоў розных этнасаў). На Беларусі партыйнае проціборства мела і мае ў значнай ступені этнічную падаснову, бо тут сышліся інтарэсы не проста розных этнічных калектываў, але этнасаў, спрадвечна арыентаваных на розныя культурныя самабытнасці.

Грамадзянская вайна ў 1432—1435 (1437 гадах, па розных крыніцах) у Вялікім княстве Літоўскім, калі сучасная беларуская тэрыторыя, у прыватнасці, раскалолася на два палітычныя ўтварэнні — Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае, з'явілася «пралогам», прадвесцем наступнага крушэння дзяржавы, яе «разрыву» паміж процілеглымі «палюсамі прыцяжэння». А да грамадзянскай вайны 30-х гадоў XV стагоддзя былі і іншыя падзеі, аб якіх мы тут не ўпамінаем з-за недахопу месца. І сённяшняя спрэчка А. Любанскага і А. Рогалева — гэта ўсяго толькі невялікі фрагмент «рэнесансу» той з'явы, вытокі якой трэба шукаць у самыя раннія перыяды беларускай этнічнай гісторыі.

... Спрадвечным асяродкам фарміравання беларускага этнасу і беларускай мовы з'явіліся ўсходнеславянскія землі сучаснай сярэдняй Беларусі, перш за ўсё, Верхняга Панямоння і суседняй да яго Міншчыны. Згодна з нашай рэканструкцыяй (гл. нагаданую кнігу «Этнатапанімія Беларусі»), у гэтым рэгіёне, на водападзеле нёманскай, дзвінскай, прыпяцкай і дняпроўскай водных сістэм, у зоне, дзе перасякаюцца ці суседнічаюць некалькі ландшафтаў — этнічных, моўных, культурных, гістарычных, эканамічных, геаграфічных (а стыкі, граніцы ландшафтаў — гэта перадумовы этнагенезу), у сярэдзіне — другой палове XIII стагоддзя адбылося нараджэнне беларусаў на базе не двух этнічных субстратаў (асноў) — славян і балтаў, у чым нас настойліва імкнуцца пераканаць, а прынамсі сямі.

Новы этнас з'явіўся на гістарычнай арэне са... старой этнічнай назвай, якая існавала ў адназначным арэале з вельмі даўняга часу, што часта сустракаецца, здараецца ў этнічнай гісторыі розных тэрыторый. Новы этнас называўся **літвой**, вось чаму яго першасная этнамоўная тэрыторыя ў Верхнім Панямонні па традыцыі лічылася Літвой аж да XIX—XX стагоддзяў, вось чаму і дзяржава, якую непазбежна аформіў новы ўсходнеславянскі этнас, называлася Вялікім княствам Літоўскім...

У разглядаемы час (другая палова XIII—пачатак XIV стагоддзяў) на сучаснай беларускай тэрыторыі выразна разрозніваліся два асноўныя этнічныя найменні — **літвіны** і **русіны**. Літвіны — гэта прадстаўнікі новага этнасу (беларусы, згодна з тэрміналогіяй новага часу). Русіны — гэта абагульненая назва ўсходнеславянскіх субэтнасаў і этнаграфічных груп у межах былой Старажытнай Русі. А гэта — рэшткі дрыгавічоў, драўлян, радзімічаў, северан, крывічоў і г. д. Дарэчы, распаўсюджанасць этнічнага наймення **русіны** на велізарнай тэрыторыі Усходняй Славіі сведчыць аб развітай самасвядомасці прадстаўнікоў усходнеславянскай (русінскай — рускай) суперэтнічнай супольнасці, аб культурна-гістарычнай блізкасці, роднасці (праўда, не ва ўсіх выпадках) канкрэтных этнасаў, што ўтваралі рускі суперэтнас. Мы адмаўляем існаванне адзінага старажытнарускага народа ў этнічным разуменні слова народ, але ж лічым, што старажытнаруская народнасць (тэрытарыяльна-дзяржаўнае аб'яднанне прадстаўнікоў розных этнасаў і этнаграфічных груп у межах Кіеўскай Русі) з'яўляецца рэальнасцю.

У час мангольскага нашэсця на Русь Беларускае Падняпроўе, суседнія з ім раёны Прыдзвіння і палеская тэрыторыя былі русінскімі ў плане этнічнай самаідэнтыфікацыі. Русінскімі, рускімі заставаліся і землі вакол яшчэ двух цэнтраў кансалідацыйных этнагенетычных працэсаў ва Усходняй Славіі (акрамя Верхняга Панямоння) — паўднёва-заходняга (Галіцка-Валынская Русь) і паўночна-ўсходняга (Растова-Суздальская зямля). А вось старажытнарускае «ядро» — Кіеўскае, Чарнігаўскае, Ноўгарад-Северскае, Турава-Пінскае, Смаленскае і Полацкае княствы (у апошнім выпадку — усходняя і паўднёва-ўсходняя яго часткі) — уступіла ў перыяд заняпаду, палітычнай і этнічнай інерцыі.

Вось чаму Вялікае княства Літоўскае даволі хутка (амаль за 60 гадоў) пашырылася на ўсход і паўднёвы-ўсход, паглынула ўсходнія землі сучаснай Беларусі, Чарнігаўскую, Северскую землі, Кіеўскае княства і інш. Пад уздзеяннем палітычнага фактару ва ўсходнім напрамку пашыраліся і беларускія этнамоўныя рысы, прычым, гэта адбывалася да таго часу, пакуль літвінска-беларускі этнас не сутыкнуўся з сустрэчным этнагенетычным патокам — вялікарусаў, цэнтр «ірадыяцыі» якіх знаходзіўся ў Растова-Суздальскім краі. У раёнах Палесся судакрануліся беларусы і ўкраінцы, а на паўночным захадзе — беларусы і жамайты (літоўцы новага часу).

Палітычныя «надбудовы» кожнага з чатырох новых, дынамічных этнасаў (княствы, дзяржавы) непазбежна пачалі вайну паміж сабой за пераходныя, спрэчныя, этнічна нявызначаныя тэрыторыі (зоны «тутэйшых»), ды й не толькі за іх. У дадзеным выпадку адбывалася заканамернае проціборства маладых этнасаў. Але ж гэта — тэма для для іншых разважанняў.

Нам жа важна адзначыць вось што. Старое русінскае насельніцтва, якое ўвабрала беларуска-літвінскія этнаграфічныя і моўныя рысы, не прыняло абазначэнне **літвіны** ў якасці саманазвы. Русіны засталіся беларусамі-русінамі, у адрозненне ад беларусаў-літвінаў. А ў канцы XVI стагоддзя ва Усходняй Беларусі ўжо функцыяніраваў этнонім **беларусцы**. Стары этнас заўсёды менш падатлівы на наваўвядзенні. Праваслаўныя русіны, якія засвоілі беларускую мову і беларускую культуру, якія сталі так званымі «негенетычнымі беларусамі», захавалі, аднак, свае русінскія (у вытоках — старажытнарускія) ідэалы і традыцыі. Адсюль становіцца зразумела, чаму беларусы-русіны заўсёды арыентаваліся на Усход, у адрозненне ад беларусаў-літвінаў, «полюсам» прыцягнення для якіх спрадвеку быў Захад. Ці не сімптаматычна тое, што палітычная граніца паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Рускім у 1432 годзе прайшла па Бярэзіне Дняпроўскай і супала з этнічнай межай паміж літвінамі і русінамі?..

І, нарэшце, аб уроках гісторыі. Без належнага асэнсавання мінулага мы не адбудуем новай Белай Русі, больш таго, увязнем у бясконцых спрэчках. Можна прадбачыць, што ўжо заўтра (г. зн. вельмі хутка) усе палітычныя партыі Беларусі падзеляцца па прынцыпу «заходнікаў» і «ўсходнікаў», бо этнічны «інстынкт» — самы моцны з усіх іншых жаданняў і інтарэсаў. Гэта, бадай, галоўная прычына, чаму А. Рогалеў выступае супраць паспешлівасці ў справе так званай беларусізацыі. Але тут мы зноў-такі падыходзім да іншай тэмы — тэмы практычнай палітыкі. Апошняя вырашаецца не на газетных старонках і, на шчасце, не залежыць у наш час ад думкі аднаго канкрэтнага чалавека.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ**

### УДАКЛАДНЕННЕ

У мінулым нумары «ЛіМа» на літаратурным развароце (стар. 8—9) па віне тэхрэда былі памяняны месцамі фотаздымкі: вершы Хв. Жычкі былі «забяспечаны» фота А. Зэкава, апавяданне ж А. Зэкава надрукавана з фота Хв. Жычкі. Рэдакцыя шчыра просіць прабачэння ў шаноўных аўтараў і чытачоў.

## ПРА ТАЯМНІЦЫ — ГІСТОРЫІ Й ДУШЫ

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч» распачаў абанемент літаратурных сустрэч «Тайна знічнага святла».**

**Першае літаратурнае спатканне адбылося 19 кастрычніка пад дахам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, у перапоўненай актавай зале, дзе слухачамі і суразмоўнікамі празаіка Уладзіміра Арлова сталіся студэнты, школьнікі і ліцэісты, супрацоўнікі бібліятэкі.**

**Вечар з У. Арловым адбываўся паводле канонаў тэатральнага дзейства, дзе, апроч галоўнага персанажа, былі й суразмоўцы — акцёры Галіна Дзягілева і Леанід Сідарэвіч, гітарыст Уладзімір Белышаў, гісторыкі Ірына Зварыка, Сяргей Тарасаў, Лявон Калядзінскі, літаратары Пятро Васючэнка і Людміла Сільнова. Браў удзел у вечарыне і дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, навуковец, і перакладчык Лявон Баршчэўскі. Назваю сустрэчы была «Таямніцы полацкай гісторыі», але трактавалася яна шырэй, чым гістарычная. Арлоў у адмысловым калажы з уласных версэтаў, фрагментаў кнігі «Мой радавод да пятага калена» давёў шматпластавасць і шматжанравасць сваёй творчасці.**

**Выявілася, што «таямніцы полацкай гісторыі» — гэта аднача́сна і таямніцы душы, якая вандруе па лабірынтах быцця, накрэсленых яшчэ на пачатку стагоддзя Вацлавам Ластоўскім. Полацкі літаратар доўжыць гэты лабірынт, пракладаючы тунель паміж Серабранкаю й Гановерам, сягаючы ў далёкую й блізкую мінуўшчыну. Таямніцы полацкай гісторыі ўбіраюць у сябе й загадку пісьменніка У. Арлова — гісторыка, іроніка і паэта, аўтара шматлікіх кніг, прадстаўленых на выставе, разгорнутай падчас сустрэчы.**

**Наступнае літаратурнае спатканне «Зніч» ладзіць у сярэдзіне лістапада — з паэтам Рыгорам Барадуліным.**

**П. В-а**

## ЖЫВЕ СЛУЧЧЫНА!

**Літаб'яднанне «Случ» гасцявала нядаўна ў Доме літаратара. Случакі прыехалі з поўным кашом духмяных яблыкаў і... вершаў. Настаўніца Галіна Міхадзюк, нядаўні філфакавец Вячаслаў Корбут, студэнтка факультэта электронікі Алена Богдан, інжынер Любоў Салаўёва, трактарыст Аляксей Калядка, медсястра Зоя Падліпская, журналістка Таіса Трафімава і іншыя чыталі са сцэны свае паэтычныя творы. Гэтыя творы ўжо «сасціртаваны ў адзін літаратурны стажок», як сказаў вядучы, — у калектыўны зборнік «На крылах душы», выдадзены колькі год таму. Як заведзена, віталі гасцей пісьменнікі-землякі і проста старэйшыя калегі. А здзівіў усіх і парадаваў сам старшыня аб'яднання, ён жа вядучы — Кастусь Цыбульскі, што і паэтаў прадстаўляў, і спяваў, і таньчыў са спрытам сапраўднага артыста.**

**Асноўны пафас гэтай цікавай паэтычнай вечарыны можна перадаць словамі з выступу Сяргея Грахоўскага: «Жыве Случчына! Жыве Беларусь!»**

## БІЗНЕСМЕН-ДЫРЫЖОР

**З энергічным і жыццярадасным Анатолем Вялікіным я пазнаёміўся ў Лідскім музычным вучылішчы. Ён быў дырыжорам цымбальнага аркестра. Хутка, на здзіўленне многіх выкладчыкаў, ён пакінуў вучылішча. Мінула некалькі гадоў. Колішні дырыжор стаў бізнесменам. Займеў набытак. І вось — о, эўрыка! — яго азарыла шчаслівая думка стварыць аркестр беларускіх народных інструментаў пры ўласнай фірме. Цудоўная ідэя!**

**Пачаліся карпатлівыя рэпетыцыі. Нарэшце адбыўся канцэрт-прэзентацыя ў гарадскім Доме культуры. Зазначу, што аркестру Вялікіна ўласцівыя імпульсіўнасць, павышаная ўвага да дынамікі і тэмпаў, адчуванне формы. Дырыжор умее захапіць публіку. Паэтычна прагучалі лірычныя п'есы Г. Ермачэнкава. Жыва ўзноўлены гумар аркестравых папуры А. Дзвілянскага. Сярод салістаў аркестра вылучаліся Таццяна Бугасава і Наталля Даргель. Закончыўся канцэрт шматразовым паўторам «Танца з шаблямі» А. Хачатурана. Публіка была ў захапленні. Не раз яна бурна апладзіравала музыкантам нават падчас іх ігры.**

**Свята адбылося! У Лідзе з'явіўся яшчэ адзін творчы калектыў. Пажадаем яго таленавітаму кіраўніку новых поспехаў у бізнесе і ў музыцы.**

**Віталь РАДЗІЁНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

# Віктар ДУБРОЎСКІ



Беларускае музычнае мастацтва напаткала нечаканае гора — пасля цяжкай хваробы 17 кастрычніка 1994 года памёр выдатнейшы музыкант сучаснасці, дырыжор, якога ведаў увесь музычны свет, народны артыст Расіі, заслужаны артыст Беларусі, галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь.

Нарадзіўся В. П. Дуброўскі ў Варонежы 15 снежня 1927 года ў сям'і ваеннаслужачага. У дзесяць год разам з бацькамі пераехаў у Маскву, дзе быў прыняты па конкурсе ў Цэнтральную музычную школу-дзесяцігодку па класе скрыпкі. Пасля яе заканчэння таленавіты юнак стаў студэнтам Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, а ў 1949 годзе атрымаў выдатны дыплом скрыпача і педагога. Але Віктар Дуброўскі марыў аб дырыжорскай спецыяльнасці, бо самым найлепшым музычным інструментам лічыў сімфанічны аркестр. І зноў, у 1949 годзе пачаў вучыцца на дырыжорскім факультэце Маскоўскай кансерваторыі, каб здзейсніць сваю мару. Атрымаўшы вышэйшую прафесійную адукацыю, Віктар Дуброўскі ў 1952 годзе пачаў дырыжорскую дзейнасць у Дзяржаўным Вялікім сімфанічным аркестры Саюза ССР як дырыжор-асістэнт. З той пары творчы лёс Віктара Дуброўскага — сімфанічны аркестр.

У 1956 годзе малады В. П. Дуброўскі быў запрошаны на пасаду галоўнага дырыжора і мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Менавіта тады адбылося адраджэнне беларускага сімфанічнага аркестра. Лепшыя сімфанічныя палотны сусветнай музыкі гучалі ў канцэртах аркестра разам з творамі беларускіх кампазітараў, якім дырыжор даў доўгае жыццё і месца ў музычнай скарбніцы беларускай культуры. У той час творчая ініцыятыва энергічнага маэстра таленавіта вырашалася шматлікімі цудоўнымі сімфанічнымі праграмамі не толькі на сталічнай сцэне, але і пранікненнем сімфанічнага мастацтва ў час гастроляў аркестра ў культурнае жыццё беларусаў нават у маленькіх гарадах рэспублікі. Летнія сімфанічныя цыклы канцэртаў аркестра і дырыжора В. Дуброўскага ў парках абласных гарадоў добра памятае старэйшае пакаленне аматараў музыкі. Больш за шэсць гадоў Віктар Дуброўскі працаваў у Мінску з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам. Гэтыя гады сталі адметнымі ў творчай біяграфіі музыканта.

Пасля Мінска Віктар Паўлавіч доўгія гады працаваў у Маскве, дзе ўзначальваў Дзяржаўны акадэмічны Рускі народны аркестр імя Восіпава, потым арганізаваў у Смаленску Рускі народны аркестр.

Не прыпыняючы творчых узаемаадносін з смаленскім аркестрам, В. П. Дуброўскі ў пачатку 90-х гадоў вяртаецца на Беларусь, каб зноў, у якасці мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора працаваць з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам. Новае пакаленне музыкантаў аркестра ўспрыняла яго, як выдатнага мастака, таленавітага асветніка, здольнага ўзняць творчы дух калектыву. Канцэртныя праграмы апошніх філарманічных сезонаў сведчаць аб высокім творчым і прафесійным узроўні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра, перш за ўсё, дзякуючы галоўнаму дырыжору. Музычныя фестывалі ў Італіі, Германіі, Іспаніі, канцэрты ў прэстыжнейшых залах Галандыі пацвердзілі вялікі прафесійны аўтарытэт Віктара Дуброўскага і яго сімфанічнага аркестра.

Апошнія ў сваім жыцці канцэрты Віктар Дуброўскі правёў з Акадэмічным сімфанічным аркестрам рэспублікі сёлетнім летам на фестывалях імя Марка Шагала ў Віцебску ў Францыі, дзе ў жніўні выканаў «Фантастычную сімфонію» і сімфонію «Гарольд у Італіі» Гектара Берліёза. Як пісала французская прэса: «гэта было трыумфальнае адкрыццё фестывалю Берліёза беларускім аркестрам».

Шостая сімфонія, «Франчэска да Рыміні», «Рамэа і Джульета» Чайкоўскага, «Сімфанічныя танцы» і Трэцяя Рахманінава, Восьмая Шастаковіча, «Фантастычная» Берліёза, «Саламея» Р. Штрауса, «Балеро» Равэля і Вальсы І. Штрауса, сімфоніі і сімфанічныя творы Г. Вагнера, Л. Абеліёвіча, Д. Смольскага, Я. Глебава, — гэта толькі невялікі спіс самых галоўных твораў, выкананых Віктарам Дуброўскім у апошнія філарманічныя сезоны. А колькі яшчэ засталося ў творчых планах музыканта?

У яго быў велізарны музычны аўтарытэт. Ён гаварыў з людзьмі проста, раскавана і даходліва, з людзьмі, якія, парой, не ведалі колькі сімфоній у Бетховена, але ўсе яго разумелі. Засталіся яго партытуры, запісы і, безумоўна, чалавечая памяць аб вялікім музыканце. Вялікія мастакі — гэтыя Божыя пасланнікі да нас — людзей. Светлая памяць, Вам, маэстра Дуброўскі!

**Ганчар В. І., Бутэвіч А. І., Гілевіч Н. С., Алоўнікаў У. У., Анісімаў А. Н., Багатыроў А. В., Вагнер Г. М., Гершовіч Ю. В., Гільдзюк Ю. М., Глебаў Я. А., Дрынеўскі М. П., Казінец М. А., Картэс С. А., Лапуноў А. М., Лучанок І. М., Ратабыльскі У. П., Роўда В. У., Смольскі Д. Б., Фінберг М. Я.**

*Успаміны*

# НА ДАЛЁКАЙ СІБІРСКАЙ ВЯРСЦЕ

І сёння супрацоўнікі колішняга Першага БДТ помняць тую невымоўна складаную атмасферу ў калектыве тэатра, што ўсталявалася тут у верасні сорак чацвёртага. Пяцьдзесят гадоў таму... Таксама гадавіна ў календары нашага жыцця.

Вядома, што артыстычную трупу з Беларусі гасцінна і па ваенным часе даволі цёпла сустрэлі і прынялі сібіракі. Эвакуіруючыся з Адэсы, дзе тэатр заспела вайна, ён атрымлівае маршрут у Новасібірск. У горадзе ж абсталёўваецца слынная «Александрынка» з берагоў Нявы (Мікалай Чаркасаў, Мікалай Сіманаў — аўтарытэты на ўсю краіну!). І прытулкам мінчукоў робіцца Томск. Спектаклі добра наведваюцца і часта на касе вешаюць абвестку: «Аншлаг! Усе білеты прададзены...» Аднаўлены адзінаццаць ранейшых спектакляў, сярод якіх і самыя маштабныя — «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Апошнія» М. Горкага, «Фландрыя» В. Сарду, «Скупы» Ж. Мальера. Адбылося чатырнаццаць прэм'ер, у тым ліку і вельмі надзённых па ваенным часе п'ес К. Сіманава, А. Карнейчука, Я. Рамановіча. У Томску ствараецца славутая купалаўская «Паўлінка».

Верасень... Тэатр збіраецца ў шлях, пра які мроілася і марылася, пра які гаварылі і трызнілі, — дамоў, на Беларусь, у Мінск, на тое скрыжаванне Петрапаўлаўскай і Падгорнай, дзе ацалеў родны будынак, родны дом...

— Нейкае шчымлівае пачуццё... Я нават не ведаю, чым яго патлумачыць... Але яно было з намі тады, — прыгадвае Таццяна Шашалевіч, якая была тады актрысай Першага БДТ, жонка знакамітага купалаўца Уладзіміра Дзядзюшкі. — Мая сястра, якую ўсе ведалі як надзвычай жыццярадасную і па-сонечнаму ветлівую, на вакзале яшчэ раптам горка расплакалася, чаго раней, здаецца, і не ўмела рабіць. Хіба што на сцэне. Прадчуванне? Магчыма...

Прадчуванне чаго мае на ўвазе Таццяна Міхайлаўна, калі ўспамінае раптоўныя слёзы сястры Маргарыты Шашалевіч? І ці было яно?

Усе размеркаваліся па сваіх купэ. Дзе расклалі дарожны пачастунак. Дзе сабраліся курцы і карцёжнікі. Гаманілі дзеці, доўга не ўладкоўваючыся спаць пад грукат колаў. За шыбамі мільгацелі тэлеграфныя слупы, а таежныя лясы змяняліся сібірскім стэпам. Апускалася ноч. Запальваліся ліхтары... Звычайнае падарожжа на чыгунцы.

І раптам... Гэта здарылася 27 верасня. Змрочным часам. Ужо за Омскам. Недзе непадалёк ад станцыі Любліна.

Гром і скрыгат. Звініць пабітае шкло. Крык і енкі жанчын. Дзіцячы стогн. Пад цёмным небам — плач наўзрыд. Воклічы. Разгублены лямант. І галосіць, галосіць, здаецца, на ўсю сібірскую стэп нечы роспачны голас. Голас адчаю і праклёну...

— Першае, што я ўцяміла, — гаворыць Таццяна Міхайлаўна, — наш вагон ляжыць на баку. Падлога — адно вакно, столь — другое, Акно прабіта, праз яго Валодзя Дзядзюшка лезе ў адных шкарпэтках. Цемра! Нехта енчыць побач. І ўсё блытаецца ў галаве. Катастрофа! Аварыя! Жах! Пад нагамі бітае шкло. Намацваеш свае рэчы. Ці што ацалела?.. Калі нас вызвалілі з паваленага вагона, навокал была ноч. Састаў зваліўся ледзь не побач з балотам. Запаліліся ліхтарыкі. З'явіліся ратавальныя каманды...

І сёння тыя, каму выпала тады ехаць тым цягніком з Новасібірска ў родны край, хто вяртаўся дамоў, у разбураны і такі мілы Мінск, не могуць без слёз успамінаць перажытае ў тую ноч і пасля яе. На омскіх могілках пахавалі яны загінуўшых сяброў, паплечнікаў, калег. І да тае радасці, з якой яны спяшаліся ў Беларусь, у думках падганяючы машыніста, прымешана назаўжды гаркота і роспач. Удалечыні ад фронту ці не братняя магіла...

— Страта была такая жудасная, што нам здавалася, быццам пасля гібелі Рыты Шашалевіч, Косціка Быліча, Барыса Аляксеенкі і Ігара Шчасновіча тэатру будзе немагчыма аднавіць сваю дзейнасць нармальна... Штосьці вельмі дарагое з нашай акцёрскай садружнасці вырвала вайна. Рана была пякучая. Жанчыны былі ў жалобе, мужчыны пахмурныя. Мы забывалі пра тое, што і кожны з нас мог апынуцца на іхнім месцы. Нам не хапала іх — Рыты, Кастуся, Боры, Гарыка...

Сучаснаму чытачу трэба нагадаць, што стаіць за названымі Т. Шашалевіч імёнамі. Быліч і сёстры Шашалевічы былі з тэатра Галубка. Пасля таго, як іхняга правадыра ў мастацтве і кіраўніка энкавэдзісты абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах, якія толькі «мог» зрабіць супроць савецкае ўлады звычайны артыст і рэжысёр, трэці БДТ быў расфарміраваны. Лепшыя з актрыс і акцёраў былі запрошаны ў цяперашні купалаўскі тэатр. Ды чым жа адзначаны быў творчы шлях гэтых гаротнікаў, што на сотай сібірскай вярсце сталі ахвярамі ці то трагічнага здарэння, ці то наўмыснай дыверсіі?

Маргарыта Шашалевіч мела на творчым рахунку такія ролі, як Кацярына («У стэпах Украіны»), Настуля («Партызаны»), Маруся («Фронт»), Валя («Рускія людзі»)...

Кастусь Быліч быў, паводле тых, хто бачыў спектакль, незабыўна натхнёным і чароўным у ролі Фердынанда («Каварства і каханне»), з арыентацыяй на ягоны талент рабіў сваю п'есу «Сяржант Дроб» Э. Самуйлёнак; яму апладзіравалі, калі ў тэатры Галубка ён з'яўляўся ў промнях рампы Кастусём Каліноўскім (аднайменная драма Е. Міровіча), або ў вобразе Карфункеля («Дзяўчаты нашай краіны» І. Мікітэнкі). Ладны і прыгожы, К. Быліч цудоўна валодаў тым, што патрэбна для класічнай пастаноўкі твораў, дзе гаспадараць «плашч і шпага». Зала горача вітала яго, калі ён выступаў у камедыях Лопэ дэ Вэгі ў БДТ-1 у Томску. Гэтымі ролямі К. Быліч збіраўся пачаць свае выступленні на мінскіх падмостках. Не збылося!

Барыса Аляксеенку тэатралы (нямногія з таго пакалення) помняць, як каларытнага Берэта ў «Арыстакратах» М. Пагодзіна, імпазантнага і дасціпнага Дон Жуана ў камедыі Тырса дэ Маліна «Дон Жуан» («Севільскі свавольнік»); маляўнічую фігуру ягонага Ад'ютанта ў п'есе «Музыканцкая каманда» Д. Дэля. Гэта ён зрабіў, працуючы некалі ў Беларускім тэатры рабочай моладзі. У Першым БДТ яму вельмі ўдаліся ролі ў спектаклях «Вочная стаўка» і «Фронт». Да таго ж Б. Аляксеенка захапляўся жывапісам і нават маляваў дэкарацыі на трамаўскай сцэне...

Ігар Шчасновіч звярнуў на сябе ўвагу патрабавальнага гледача, калі сыграў ролю Маргуна ў крапівоўскіх «Партызанах» і Данілу ў драме «Пагібель воўка» на сцэне Першага БДТ...

Вядома, я называю тое, што мне ўдалося высветліць і вызначыць, як нешта пэўнае ў творчых біяграфіях гэтых артыстаў. На жаль, памяць пра іх зберагаецца толькі сярод ужо зусім нешматлікіх калег і родзічаў. У фае нашага купалаўскага тэатра для іх не знайшлося нават месца сярод фоталетапісу з абліччамі тых артыстаў, каму выпадала служыць у трупе колішняга БДТ-1. Магчыма, у параўнанні з буйнымі дасягненнямі іх больш удачлівых таварышаў па сцэне творчы набытак М. Шашалевіч, К. Быліча, Б. Аляксеенкі і І. Шчасновіча выглядае зусім сціпла. Але...

Я сам помню, як Мінск увосень сорак чацвёртага сустракаў артыстаў «з Сібіры». Бачыў, як ззялі твары мінчукоў, калі яны сярод руін, на пакрыўленых вуліцах і пажарышчах віталі нібы родных і даўно знаёмых дарагіх людзей Лідзію Ржэцкую і Кацярыну Міронаву, Уладзіміра Уладамірскага і Ірыну Ждановіч, Стэфанію Станюту і Барыса Платонава, Генрыха Грыгоніса і Глеба Глебава, Вольгу Галіну і Раісу Кашэльнікаву... Помню, як урачыста віталася іхняя «Паўлінка». І помню той сум, з якім тэатр і горад захоўваў жалобную памяць пра тых, каго пахавалі купалаўцы ў далёкай сібірскай зямлі.

Мінула з тае пары пяцьдзесят гадоў...

**Барыс БУР'ЯН**

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Беларусь» выказвае глыбокае спачуванне машыністцы СВАТКА Ірыне Антонаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»

Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 27.10.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

